Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

№ 35 (4835) 4 верасня 2015 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК

Шчучын-2015



## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

Фота Алы Бібікавай.

# Складнік нашай духоўнасці

## ІНТЭРВ'Ю МІНІСТРА ІНФАРМАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЛІЛІІ АНАНІЧ ГАЗЕЦЕ «ЛІМ»



**— Лілія Станіславаўна, Свята пісьменства ў Шчучыне — у пэўным сэнсе вынік плённай працы Міністэрства інфармацыі за год: кніжныя выстаўкі, акцыі, прэзентацыі, конкурсы і сустрэчы — усё гэта патрабавала пільнай увагі і творчага падыходу, шчыльнага супрацоўніцтва з пісьменнікамі ды выдаўцамі. З якімі набыткамі Вы падыходзіце да галоўнага літаратурнага свята краіны?**

— Гэты кніжны год быў сапраўды багаты на падзеі і дасягненні. Мы, я лічу, на самым высокім узроўні прадставілі айчынную кнігу на XXII Мінскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы, куды завітала рэкордная колькасць замежных гасцей — выдаўцоў з 28 краін свету.

На выстаўцы дэманстраваліся найлепшыя работы, дасланыя творчай моладдзю краін СНД на міжнародны конкурс плаката патрыятычнай тэматыкі «Нам дарагі мір», прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Падчас форуму адбылося ўзнагароджанне пераможцаў 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» — сапраўды найлепшых выданняў 2014 года.

У рамках выстаўкі ўпершыню прайшоў міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і свет», у якім узялі ўдзел вядомыя пісьменнікі з Расіі, іншых краін СНД і Балтыі, а таксама Кітая, Францыі, Італіі, Германіі, Ізраіля, Сербіі.

Месца кнізе знайшлося і на выстаўцы «СМІ ў Беларусі»: сёння многія рэдакцыі сродкаў масавай інфармацыі эфектыўна займаюцца выдавецкай дзейнасцю. З поспехам прайшоў X Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні: спадчына Вялікай Перамогі», удзельнікі якога, знаныя прадстаўнікі медыя і літаратурнай супольнасці краін СНД, бліжняга і далёкага замежжа, абмеркавалі актуальныя пытанні сучаснасці, абмяняліся думкамі і падкрэслілі неабходнасць кансалідацыі дзеля процістаяння найноўшым выклікам і пагрозам.

Хачу адзначыць: Беларусь была і застаецца чытаючай краінай. Штогод мы выдаём амаль 12 тысяч назваў кніг агульным тыражом звыш 30 мільёнаў экзэмпляраў. На кожнага жыхара Беларусі прыпадае 3,3 кнігі ў год. Па гэтым паказчыку наша краіна займае другое месца ў СНД пасля Расіі, нашмат апярэджваючы іншыя дзяржавы постсавецкай прасторы.

Пра высокі ўзровень нацыянальнага кнігавыдання сведчаць вынікі XII Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД, які прайшоў у чэрвені бягучага года ў Алматы. Беларускія кнігавыдаўцы атрымалі там 12 дыпломаў, у тым ліку Гран-пры за кнігу «Беларусь замкавая».

Дарэчы, усе нашы кнігі-лаўрэаты, і нацыянальнага, і міжнароднага конкурсаў, будуць прадстаўлены ў Шчучыне на Дні беларускага пісьменства. Але, паверце, у любой кропцы свету, дзе бяруць у рукі беларускую кнігу, чуюцца словы захаплення, і гэта, я мяркую, самае галоўнае наша, агульнае з пісьменнікамі і выдаўцамі, дасягненне!

**— Саюз пісьменнікаў Беларусі вельмі шмат працуе разам з Міністэрствам інфармацыі дзеля папулярызацыі кнігі і чытання. Аднак вялікую ролю мае і выхаванне самога чытача, прычым, рабіць гэта варта, як даводзяць навукоўцы, ледзь не з нараджэння. Як спрыяюць павелічэнню цікавасці да дзіцячага і сямейнага чытання шматлікія акцыі, якія праводзіць Міністэрства інфармацыі, выдаўцы і айчынныя творцы («Лета з добрай кнігай», «Жывая класіка» і г.д.)?**

— Так, акцыя «Лета з добрай кнігай» ужо другі год нагадвае дзецям па ўсёй краіне, што кніга — гэта цікава і займальна! І сустракацца з ёй варта не толькі на ўроку, але і ў школьным лагеры, летніку, бібліятэцы, кнігарні ды нават проста на вуліцы. А калі яшчэ кнігу прэзентуе сам аўтар… Ведаеце, было праведзена вельмі шмат сустрэч: у школах, дашкольных установах, лагерах адпачынку, бібліятэках і кніжных крамах — і заўжды мы бачылі, як дзеці пасля знаёмства з «жывым пісьменнікам» пачынаюць нашмат больш цікавіцца кнігай. Што асабліва сімвалічна, у Год моладзі наша краіна падтрымлівае традыцыю дарыць кнігу першакласніку і выпускніку, праводзяцца дабрачынныя акцыі для дзіцячых дамоў… Вельмі шмат робіцца і дзеля выхавання патрыятызму ў моладзі, тым больш, мы адзначаем сёлета 70-годдзе Вялікай Перамогі, таму разам з нашымі выдавецтвамі, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам, бібліятэкамі, «Саюздрукам», «Белкнігай» пастаянна ладзім літаратурна-патрыятычныя акцыі, праводзім конкурсы, прэзентацыі, сустрэчы з творцамі, якія пішуць пра вайну. Не застаюцца ўбаку і мясцовыя ўлады — па ўсёй краіне праводзяцца дні паэзіі, творчыя спатканні і фестывалі, марафоны і выстаўкі, арганізавалі нават літаратурны дэсант і летні бібліясад «Літаратурная пясочніца»…

Чытайце на стар. 2 ▶

ISSN 0024-4686

9 770024 468001 15035

# Літаратары ў цэнтры ўвагі

**Заўтра гасцей і ўдзельнікаў Дня беларускага пісьменства сустрэне Шчучын. Як праходзіла падрыхтоўка да свята? Якія цікавосткі чакаюць нас сёлета? Пра гэта карэспандэнту «ЛіМа» распавёў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец.**



— Саюз пісьменнікаў Беларусі штораз імкнецца прыўнесці ў святкаванне Дня беларускага пісьменства нешта новае. Так, сёлета ўпершыню пройдзе матч паміж дзіцячымі футбольнымі камандамі Гродзеншчыны на прызы СПБ. У межах свята адбудзецца сустрэча беларускіх літаратараў са шчучынцамі. У святе возьмуць удзел эстрадны спявак Анатоль Ярмоленка і кампазітар Алег Елісеенкаў, якія разам выканаюць песні на вершы айчыннага паэта Івана Юркіна. Далучыцца да свята і яшчэ адзін кампазітар — Эдуард Ханок.

Акрамя таго, упершыню ўводзіцца званне лаўрэата Нацыянальнай літаратурнай прэміі, якая атрымае дзяржаўны статус. Сёлета гэтая ўзнагарода дастанецца пераможцам у сямі конкурсных намінацыях — замест ранейшых адзінаццаці. Але спадзяюся, што з часам колькасць намінацый атрымаецца аднавіць.

**— Як выглядае сённяшні літаратурны Шчучын?**

— Вельмі радуе, што, калі горад быў абвешчаны сталіцай свята, ён атрымаў пэўную дзяржаўную падтрымку, расквітнеў. Адрамантаваны тэатр, раённы Дом культуры, папрыгажэла Цэнтральная плошча, бліжэйшыя вуліцы і дамы. Увогуле, жыхары мясцін, дзе свята ўжо адбылося, вельмі задаволены: гарады ператвараюцца ў сапраўдныя эпіцэнтры ўрачыстасцей: можна сустрэцца з пісьменнікамі, адпачыць, пабачыць вырабы розных народных рамёстваў, пабываць у выставачных павільёнах, паслухаць музыку… Але ў першую чаргу гэта свята для пісьменнікаў!

**— Кніга, чытанне, аўтар… Як усё гэта падтрымлівацца на дзяржаўным узроўні?**

— Сёння назіраецца нямала выпадкаў, калі творца працуе не толькі ў сферы літаратуры. І трэба як мага хутчэй вылучыць пісьменнікаў-прафесіяналаў з пункту гледжання іх творчасці, таленту. Недапушчальна, каб у сучасным грамадстве гэтае паняцце было страчана! Таму мы вельмі сур'ёзна працуем над тым, каб аказваць падтрымку менавіта такім, прафесійным, аўтарам. Імкнёмся наладжваць ды захоўваць добрыя стасункі і з прыватнымі выдавецтвамі, любому з якіх, безумоўна, будзе выгадна і прыемна выдаць якасны твор. Радасна, што Прэзідэнт пайшоў нам насустрач, выдаўшы ўказ штогод выпускаць па 10 — 12 найбольш цікавых кніг спецыяльна для бібліятэк. Гэта неацэнная дапамога, бо кніга павінна прываблівацць масавага чытача.

**— Мікалай Іванавіч, што для вас асабіста значыць Дзень беларускага пісьменства і, у прыватнасці, сёлетні?**

— З кожным разам прасоўванне ідэі святкавання Дня беларускага пісьменства атрымлівае новую афарбоўку. Гэтым разам мы пашырылі магчымасць удзелу пісьменнікаў у многіх мерапрыемствах. А надалей будзем імкнуцца, каб літаратары, асабліва тыя, хто прэзентуе ўласныя кнігі, пастаянна былі ў полі зроку наведвальнікаў. Я задаволены, што мы знаходзім поўнае разуменне і ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, і ў Савеце Міністраў, і ў Міністэрстве інфармацыі, а гэта спрые папулярызацыі пісьменніка ў сучасным грамадстве, у тым ліку выяўленню маладых талентаў і прапагандзе творчасці маладых літаратараў.

**Яна ЯВІЧ**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Складнік нашай духоўнасці

Без перабольшвання можна сказаць, што сёння мы вяртаемся да разумення выключнай ролі кнігі і чытання ў выхаванні Асобы і Грамадзяніна.

Пра цікавасць да літаратуры сведчыць і вялікая колькасць удзельнікаў конкурсу «Жывая класіка» — юных чытальнікаў, якія дзякуючы гэтай акцыі адкрываюць для сябе цудоўны свет літаратуры. У Шчучыне мы пачуем лепшых прадстаўнікоў Гродзенскай вобласці. І я асабіста заўжды наведваю гэту імпрэзу з вялікай асалодай, часам прыгадваю свае школьныя гады, уяўляю, што гэта я стаю на той сцэне і хвалююся ці не больш за іх *(усміхаецца)*.

**— Шчучын наведае сёлета вельмі шмат гасцей. Стасункі з творцамі з іншых краін з кожным годам умацоўваюцца, у многіх беларускіх выдавецтвах выходзяць кнігі замежных аўтараў, а пра беларускіх пісьменнікаў даведваюцца далёка за межамі Беларусі, гэтаму спрыяюць і перамогі беларускай кнігі на міжнародных конкурсах, удзел нашых выдаўцоў у разнастайных кніжных выстаўках. Абмеркаванню якіх пытанняў будзе прысвечаны традыцыйны ўжо «круглы стол», што збярэ ў Шчучыне аўтараў з самых розных краін свету?**

— Так, традыцыйна на Свята пісьменства прыязджаюць прадстаўнікі самых розных краін — гэта вядомыя творцы, якіх паважаюць, да якіх прыслухоўваюцца. Многія з іх ужо сталі сябрамі Беларусі ў поўным сэнсе гэтага слова і, як напрыклад Чынгіз Алі аглу, Слабадан Вуканавіч ці Эдвард Мілітанян, з'яўляюцца носьбітамі ведаў пра беларускую літаратуру на сваёй зямлі. Як паказаў досвед папярэдніх «круглых сталоў», праблемы ў творцаў вельмі падобныя: выданне кнігі, шлях да чытача, патрэба ў грунтоўнай крытыцы… Але нельга забыцца і пра ролю Пісьменніка ў сучасным свеце. Часам ад яго голасу залежыць вельмі шмат. Прыгадаем, як у гады Вялікай Айчыннай вайны менавіта Слова клікала ў бой, Словам змагаліся з ворагам беларускія класікі: Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва ды многія іншыя. І сёння, у наш неспакойны час, ад інфармацыі, слова журналіста, пісьменніка, залежыць вельмі многае.

Таму тэмай сёлетняй сустрэчы літаратараў і літаратуразнаўцаў стане «Літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства». Кніга — складнік нашай духоўнасці, і мы не павінны памяншаць яе ролю ў сучасным жыцці. Але нам трэба імкнуцца больш распавядаць пра сябе свету — на розных мовах. Гэтаму спрыяе і выданне альманаха «Сугучча» Выдавецкім домам «Звязда», і нашы супольныя праекты з замежнымі аўтарамі, а галоўнае — жывыя творчыя перакладчыцкія кантакты, якія запачаткоўваюцца ў тым ліку і на Дні беларускага пісьменства.

**— Час паказаў, што чуткі пра смерць папяровай кнігі моцна перабольшаныя. Прынамсі, беларуская кніга мае за сваё доўгае жыццё вялікія дасягненні і саступаць электронным выданням не збіраецца. А якія планы Міністэрства інфармацыі ў сувязі з тым, што набліжаецца юбілей айчыннага кнігадрукавання ў 2017 годзе?**

— Мы пачалі падрыхтоўку да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, якое маштабна адзначым у 2017 годзе. У Шчучыне якраз і будзе прадстаўлены шэраг выдавецкіх праектаў, прысвечаных гэтай значнай падзеі. Акрамя таго, Дзень беларускага пісьменства павінен стаць інфармацыйнай пляцоўкай для канцэнтрацыі ідэй па ўшанаванні гэтай даты. Але, прызнаюся, не хацелася б раней часу раскрываць усе таямніцы, таму я запрашаю ўсіх на свята ў Шчучын і раю абавязкова набыць там сабе добрую кнігу!

**Тацццяна СІВЕЦ**

# Шлях да ўзаемаўзбагачэння

У Маскве ў Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі прайшоў «круглы стол» «Беларусь — Расія: агульны погляд у будучыню». Арганізатары — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда» і ФНКА «Беларусы Расіі».

Адкрыла работу «круглага стала» міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. У час дыскусій, дыялогу творчай інтэлігенцыі Масквы і Мінска разглядаліся самыя розныя пытанні. Найперш — па тэме расійска-беларускіх зносін у галіне літаратурнага, выдавецкага супрацоўніцтва. Удзельнікі размовы (а сярод іх было і нямала пісьменнікаў) прывялі шмат прыкладаў добрых стасункаў пісьменніцкай грамадскасці ў межах існавання Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Дырэктар маскоўскага выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін расказаў пра тое, як ён уяўляе вырашэнне задач па прадстаўленні беларускай нацыянальнай літаратуры ў расійскай прасторы, на рускай мове. Старшыня ФНКА «Беларусы Расіі» Сяргей Кандыбовіч адзначыў удзел многіх і многіх этнічных беларусаў у творчым жыцці дыяспары, звярнуў увагу менавіта на пісьменніцкую грамадскасць дыяспары.

— Мне спадабалася, што і ў выступленні Міністра інфармацыі Ліліі Ананіч, і ў шэрагу іншых выступленняў ды паведамленняў была звернута пільная ўвага на стасункі творчай інтэлігенцыі, майстроў мастацкага слова са сродкамі масавай інфармацыі, якія ўсё ж першымі адгукаюцца на боль і трагедыю людскую, на драматычныя падзеі, — заўважыла ўдзельніца «круглага стала» кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева. Яна прыехала з Казахстана, з Алматы, але добра ведае і беларускую літаратуру, і характар беларуска-расійскіх літаратурных зносін.

Падрабязная справаздача пра «круглы стол» пісьменнікаў Расіі і Беларусі — у наступным нумары «ЛіМа».

**Мікола БЕРЛЕЖ**
*Масква*

# Два ўрачыстыя дні

Пленум Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся ў Доме літаратара. Большасць пытанняў парадку дня была прысвечана святкаванню Дня беларускага пісьменства. Падчас пасяджэння была закранута і тэма выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

На пачатку пленума дыпломам СПБ было ўзнагароджана выдавецтва «Чатыры чвэрці» ў асобе яго дырэктара — Ліліяны Анцух. Пра ўдзел пісьменніцкай арганізацыі ў правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне распавёў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец.

Старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч акцэнтаваў увагу членаў Прэзідыума на правядзенні міжнароднага «круглага стала» «Сугучча: літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства», ініцыяванага Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, СПБ, Выдавецкім домам «Звязда» і выдавецтвам «Мастацкая літаратура», да ўдзелу ў якім запрошаны прадстаўнікі сямі краін: Азербайджана, Казахстана, Літвы, Расіі, Таджыкістана, Украіны, Чарнагорыі. Акрамя таго, Выдавецкі дом «Звязда» возьме ўдзел у шэрагу экспазіцыйных мерапрыемстваў: пройдуць аўтограф-сесіі пісьменнікаў, прэс-прэзентацыі, выступленні на дзіцячай пляцоўцы. Будуць прадстаўлены айчынныя літаратурна-мастацкія мас-медыя.

Пра будучыя прэзентацыі кніжных навінак выдавецтва «Мастацкая літаратура», у тым ліку калектыўнага зборніка прозы і паэзіі маладых аўтараў «Мой дзень пачынаецца», распавёў яго дырэктар і аўтар сцэнарыя Дня беларускага пісьменства Алесь Бадак, які зазначыў, што сёлета ў Шчучыне ўпершыню адбудзецца ўшанаванне лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі.

На пасяджэнні адбыўся і прыём у члены СПБ. Арганізацыю папоўнілі празаік і публіцыст Валерый Алешка, маладыя паэтэсы Тацццяна Мацюхіна, Алена Басікірская ды Аксана Ярашонак.

**Яна ЯВІЧ**

## ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА» ЗАПРАШАЕ

**5 верасня**

**12.00 —** Міжнародны «круглы стол» «Сугучча: літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства» — Шчучынская цэнтральная бібліятэка;

**15.00 —** выстаўка кніг Выдавецкага дома «Звязда» — Дом культуры г. Шчучына;

**15.30 —** конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка» — Дом культуры г. Шчучына.

**6 верасня**

**10.15 —** прэзентацыя кнігі «Шчучыншчына: карані і крона» — сцэнічная пляцоўка (пл. Свабоды);

**14.00 —** сустрэча-кансультацыя з вядомым беларускім траўнікам Яўгенам Шмярко ў межах прэзентацыі часопіса «Родная прырода» — стэнд Выдавецкага дома «Звязда»;

**на працягу дня —** аўтограф-сесіі беларускіх пісьменнікаў: С. Антановіча, Г. Аўласенкі, А. Бутэвіча, А. Зэкава, У. Мазго, А. Мальчэўскай, Г. Нічыпаровіч, А. Марціновіча, Д. Пятровіча, У. Саламахі, Т. Сівец, К. Хадасевіч-Лісавой, Я. Явіч ды інш. — стэнд Выдавецкага дома «Звязда»;

**на працягу дня —** прэзентацыі часопісаў «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Бярозка», «Вожык», «Алеся» і газет «ЛіМ» і «Звязда», падпіска на выданні з уручэннем падарункаў — стэнд Выдавецкага дома «Звязда».

# Свята слова па-шчучынску

**Як на Дні беларускага пісьменства ў Шчучыне будзе прадстаўлена літаратура рэгіёнаў? Якія дасягненні ў айчынных літаратараў? На пытанні «ЛіМа» адказваюць старшыні аддзяленняў СПБ.**

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ:**

— Гэтым разам у Дні беларускага пісьменства возьмуць удзел намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Любоў Красеўская, Зінаіда Дудзюк і Міхаіл Кулеш з Брэста, Анатоль Бензярук з Жабінкі, Анатоль Дзенісейка з Іванава, Марыя Кобец з вёскі Валішча Пінскага раёна, Настасся Нарэйка з Камянца, Алёна Папко з вёскі Сакалова Бярозаўскага раёна і Валерый Грышкавец з Пінска. Берасцейскія пісьменнікі актыўна рыхтуюцца прэзентаваць вынікі сваёй працы за мінулы год, тым больш нам ёсць чым і кім ганарыцца. Шмат новага, але і традыцыі шануем, развіваем, удасканальваем.

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,**
**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Сумесна з галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама, абласным упраўленнем адукацыі, бібліятэчнай сістэмай вобласці наша аддзяленне ладзіць разнастайныя мерапрыемствы па прапагандзе літаратуры. За гэты год пісьменнікамі Віцебшчыны створана і выдадзена 20 кніг. Цікавыя імпрэзы адбыліся і ў межах акцыі «Лета з добрай кнігай». За актыўную працу Віцебская абласная пісьменніцкая арганізацыя была адзначана хрустальным кубкам СПБ і дыпломам «За вялікую арганізацыйную работу, плённыя творчыя набыткі па асвятленні гераічнага подзвігу нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны і ў сувязі з 70-годдзем Вялікай Перамогі».

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства літаратуру Віцебшчыны прадставяць Барыс Беляжэнка, Алесь Жыгуноў, Мікалай Наменснікаў, Канстанцін Нілаў, Ігар Пракаповіч, Вольга Русілка, Кацярына Сосна, Сяргей Трафімаў і Віктар Улюценка. Будуць прэзентаваны кнігі «Час яблыкаў» Мікалая Наменснікава, «Вянок з параненых рамонкаў» Канстанціна Нілава, «Баю-бай, вочкі закрывай» ды «Цікавая кліслінка» Галіны і Сяргея Трафімавых, а яшчэ — мой новы паэтычны зборнік «Сустрэча».

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ,**
**Гомельскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Дзень беларускага пісьменства, на мой погляд, з'яўляецца своеасаблівым асветніцкім сімвалам незалежнай Беларусі. За перыяд, які прайшоў ад мінулага свята, літаратарамі Гомельшчыны выдадзена больш за 30 кніг. Дэлегацыя будзе прэзентаваць новыя выданні Ніны Нікіцінай і Васіля Ткачова, Аляксандра Алейніка і Лііі Чарненка, Аляксандра Атрушкевіча і Міхася Слівы, Валянціны Кадзетавай, Ганны Атрошчанка, Веры Квяткоўскай ды многіх іншых гомельскіх літаратараў.

Упершыню на беларускае свята ў складзе нашай дэлегацыі прыедзе ўкраінскі паэт Аляксандр Белік, ураджэнец Луганска, член СПБ і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. На святе ў Шчучыне выступяць і паэты Яўген Крупенька, Лілія Вялічка, Лідзія Долбікава, Вольга Раўчанка, Алег Ананьеў, Юрый Максіменка ды іншыя. Гэтаксама мы данясём да беларускага чытача вынікі літаратурных праектаў, ажыццёўленых сумесна з літаратарамі Расіі і Украіны.

**Людміла КЕБІЧ,**
**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Свята беларускага пісьменства сёлета прымае Гродзеншчына. Зразумела, гродзенская абласная пісьменніцкая арганізацыя будзе прадстаўлена тут маштабна. У складзе дэлегацыі — Віктар Куц, Іван Пяшко, Уладзімір Руль, Алена Руцкая, Ганна Скаржынская-Савіцкая, Уладзімір Ягорычаў, Дзмітрый Радзівончык, Віктар Кудлачоў, Ірына Фамянкова, Марыя Шаўчонак, Ала Нікіпорчык, Аліна Сабуць, Пётр Сямінскі, Тамара Мазур, Уладзімір Саласюк і Браніслаў Ермашкевіч.

Цэлы шэраг кніжных навінак прэзентуюць на святе літаратары Гродзеншчыны. У іх ліку — калектыўны зборнік твораў «Шчучыншчына літаратурная» выдавецтва «Мастацкая літаратура», калектыўны зборнік твораў гродзенскіх пісьменнікаў — фіналістаў другога абласнога конкурсу рукапісаў імя Цёткі «У прыгаршчах Айчыны» (куды ўвайшло і факсімільнае выданне Цёткі «Першае чытанне для дзетак беларусаў») ды інш.

Падчас Дня беларускага пісьменства будуць прадстаўленыя і зборнікі вершаў маладых паэтэс Наталлі Цвірко «Крылы забытых мар», Вікторыі Смолка «Зоркаму сэрцу», а таксама выданні для дзяцей: кніга-падручнік для малодшых класаў Віктара Кудлачова ды Ірыны Фамянковай «Парады Феі Ветлівасці» і паэтычная кніга для дзяцей Людмілы Шаўчэнка «Вясёлая карусель».

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ:**

— У складзе нашай пісьменніцкай дэлегацыі выдатную традыцыю ў Шчучыне працягнуць магілёўскі паэт Уладзіслаў Кавалёў, які пазнаёміць аматараў прыгожага пісьменства з выдадзенай сёлета кнігай вершаў «Славянскія матывы». Лаўрэат прэміі імя Якуба Усікава нашага абласнога пісьменніцкага аддзялення, літаратуразнаўца і празаік сталага веку магіляўчанін Віктар Арцем'еў пазнаёміць чытачоў з новай кнігай успамінаў пра свае вандроўкі і сустрэчы з дзеячамі беларускай літаратуры і культуры «Шчодрасць душы». Уладальнік Рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» за лепшы твор 2012 года ў намінацыі «Краязнаўчая літаратура», лаўрэат прэміі імя Івана Чыгрынава нашага пісьменніцкага аддзялення, магілёўскі гісторык і пісьменнік Мікола Барысенка прадставіць кнігу нарысаў «Рэха "Вялікай вайны" ва ўсходняй Беларусі (1914 — 1918)», якую сёлета выпусціла інфармацыйнае агенцтва «Магілёўскія ведамасці».

У складзе дэлегацыі Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ у Шчучыне будуць таксама ўдзельнічаць вядомыя ў Прыдняпроўскім краі аўтары. Гэта лаўрэаты літаратурных прэмій нашага пісьменніцкага аддзялення: прэміі імя Івана Чыгрынава — празаікі магіляўчанін Аляксандр Церахаў і крычаўлянін Аляксандр Балдоўскі, прэміі імя Аляксея Пысіна — магілёўскі паэт Віктар Кунцэвіч, прэміі імя Алеся Пісьмянкова — паэт і празаік, быхаўчанін Мікола Леўчанка, а яшчэ паэтэса, кіраўнік літаб'яднання магілёўскіх чыгуначнікаў «Магістраль» Марына Слівко ды магілёўскі навуковец-гісторык і пісьменнік Аляксандр Косцераў.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ:**

— Дэлегацыю МГА СПБ складаюць пісьменнікі Славамір Антановіч, Алесь Марціновіч, Уладзімір Мазго, Георгій Марчук, Уладзімір Навумовіч, Міхась Пазнякоў, Віктар Праўдзін, Іван Саверчанка, Уладзімір Саламаха, Яўген Хвалей, Ганад Чарказян, Мікола Шабовіч, Васіль Шырко ды іншыя літаратары, у тым ліку і прадстаўнікі таленавітай моладзі — Людміла Клачко і Маргарыта Латышкевіч.

У Шчучыне адбудуцца прэзентацыі кніжных серый «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ», «Мінскія маладыя галасы», «Маладая паэзія Беларусі», а таксама «Дзеці вайны» («Чатыры чвэрці»), «Свет вакол нас» і «Бібліятэка Асвеціка» («Народная асвета») ды іншых. Пройдуць прэзентацыі нашых сумесных творчых праектаў «Пераможцы» (з Цюменскай пісьменніцкай арганізацыяй), «Непадзельнае рэчышча» (з пісьменніцкімі арганізацыямі Ленінградскай вобласці і г. Санкт-Пецярбурга), зборнікаў «Па праву жывога» і «На прасторах любай Беларусі», укладзеных у СПБ і выдадзеных «Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі». Пройдуць і прэзентацыі іншых цікавых кніг. Асабліва хочацца вылучыць зборнік лірыкі народнага паэта Дагестана Магамеда Ахмедава «Горная ліра», выпушчаны выдавецтвам «Чатыры чвэрці» ў маім перакладзе на беларускую мову.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Мінскае абласное аддзяленне СПБ:**

— Падзеяй апошняга часу ў жыцці Мінскага абласнога аддзялення СПБ стала ўручэнне абласных прэмій у галіне літаратуры. Мінскі аблвыканкам адзначыў 8 творцаў у намінацыях «Проза», «Паэзія», «Дзіцячая літаратура», «Крытыка, літаратуразнаўства». Асабліва хацеў бы вылучыць у шэрагу ўзнагароджаных Валянціну Гіруць-Русакевіч і Кацярыну Хадасевіч-Лісавую. Яны не адзін год працуюць у галіне дзіцячай літаратуры і, спадзяюся, надалей будуць радаваць юных чытачоў сваімі творчымі здабыткамі.

У нашых калег апошнім часам выйшла шмат цікавых кніг. З новымі грунтоўнымі выданнямі сустракаюць Дзень беларускага пісьменства Мікалай Смірноў, Барыс Далгатовіч, Генадзь Аўласенка, Зіновій Прыгодзіч, Ірына Карнаухава і многія іншыя паэты, празаікі, публіцысты Міншчыны.

## Госці гавораць

**Ато ХАМДАМ (ХАДЖАЕЎ)**
**Таджыкістан**



**пісьменнік, журналіст, драматург, галоўны рэдактар выдавецтва «ЭР — ГРАФ»:**

— Упершыню я пабываў на Дні беларускага пісьменства ў 2009 годзе, у Смаргоні. Вельмі рады, што мая праца па аднаўленні і развіцці літаратурных стасункаў паміж Беларуссю і Таджыкістанам была ацэнена настолькі высока — тады я стаў сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі! Потым прыязджаў на гэтае свята яшчэ тройчы і кожны раз атрымліваў сапраўднае задавальненне. Менавіта ў Беларусі я пазнаёміўся з многімі пісьменнікамі — як беларускімі, так і замежнымі. У перакладзе на таджыкскую мову ўжо выдадзены творы старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, а таксама Георгія Марчука, Алеся Карлюкевіча, Алеся Бадака, Міколы Мятліцкага, Ірыны Качатковай ды іншых беларускіх аўтараў.

**Юрый КАЗЛОЎ**
**Расія**



**пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Роман-газета»:**

— Дзень беларускага пісьменства — свята яднання народа і пісьменнікаў, жывы дыялог чытачоў і аўтараў, прэзентацыя новых твораў ды ідэй, пошук новых талентаў і шляхоў развіцця беларускай літаратурнай мовы. Лічу, што такое свята — вельмі ўдалая форма аб'яднання ўсіх, хто любіць кнігу, цікавіцца літаратурай, удзельнічае ў літаратурным працэсе. А яшчэ гэта наглядное сведчанне таго, што літаратура ў Беларусі — агульнанародная дзяржаўная справа, якой надаецца сур'ёзная ўвага і аказваецца ўсебаковая падтрымка. Для мяне ўдзел у святкаванні Дня беларускага пісьменства — гэта не толькі сяброўскія стасункі з калегамі-літаратарамі, але і далучэнне да правільнай, на мой погляд, літаратурнай палітыкі.

Як галоўны рэдактар найстарэйшага расійскага часопіса «Роман-газета» я спадзяюся даведацца пра новых аўтараў, з чыёй творчасцю неабходна пазнаёміць чытачоў Расіі.

**Юрый ЛОШЧЫЦ**
**Расія**



**пісьменнік, публіцыст, літаратуразнаўца, лаўрэат Патрыяршай літаратурнай прэміі:**

— Калі гаворка ідзе пра пісьменства народа, месца і прызначэнне пісьменства ў коле блізкіх і родных культур, у першую чаргу хочацца засяроджваць увагу на імёнах, творах і падзеях, якія збліжаюць нас, дапамагаюць канцэнтравацца на агульных клопатах і надзеях, лягчэй пераадольваць уласцівыя нам недахопы ці прымхі. Лічу, што кожнае свята існуе якраз для таго, каб паказаць лепшае, што ёсць у людзей — так бы мовіць, сумесна папаўняемае.

**Алесь КАЖАДУБ**
**Расія**



**пісьменнік, лаўрэат Шолахаўскай і Бунінскай прэмій, прэміі імя Антона Дэльвіга:**

— Дзень беларускага пісьменства — асаблівае свята для кожнага чалавека, які піша. Тым больш для беларускага пісьменніка, які жыве ў Маскве. Я быў на такім святе ў родных Ганцавічах. Але і Гродзеншчына для мяне не чужая — школу скончыў у Навагрудку. З нецярпеннем чакаю сустрэчы са старымі сябрамі, але спадзяюся і на новыя.

Падрыхтавала Яна ЯВІЧ

## ЦЁТКА
## (Алаіза Пашкевіч)

### Скрыпка

*Чаго словам не сказаці,*
*Што на сэрцы накіпела,*
*Астаецца скрыпку ўзяці;*
*Покі ў сілы крэпка вера,*
*Покі думка рве да неба,*
*Покі скрыдал не зламалі,*
*Покі трэба душы хлеба, —*
*Будуць струны байчэй граці,*
*Будзе смык вастрэй хадзіці,*
*Будзе скрыпка паслушнейша.*
*Ў песні можна пераліці*
*Ўсё найлепша, наймілейша;*
*Ў песні можна даць пяруны,*
*Песняй сэрца рваць на часці:*
*Крэпкі толькі былі б струны,*
*Я заграла бы аб шчасці!*
*Я заграла б смехам кветак,*
*Нівак шэптам залацістых,*
*Звонам серпа, касы ўлетак,*
*Мёдам ліп з садоў душыстых.*
*Я заграла б песню матак*
*Над калыскаю дзіцяці.*
*Ўсе багацтвы родных хатак*
*Я хацела б песні даці.*
*Я на струнах раззваніла б,*
*Дух народу я абняла б,*
*Ў жары сэрца растапіла б,*
*Алтар новы ўвівала б,*
*Пры алтары тым я грала б,*
*Так на струнах галасіла б,*
*То склікала б, то вітала б,*
*То суседзяў весяліла б;*
*То малітвай смык завыў бы,*
*То закляў бы на пяруны,*
*То аж скаргай ў неба біў бы,*
*Толькі крэпкі б былі струны!*
*Смык гатовы, струны тугі,*
*Крою ў жылах закіпае.*
*Ну, слухайце, мілы другі,*
*Скрыпка мая ўжо грае!*

## Францішак БАГУШЭВІЧ

### ***

*«Лютня» айчыны! Ў старонцы любімай*
*Уваскрашай нашу родную песню!*
*І, можа, песняй, напевам радзімым*
*Вызваліш дух наш ад сну і ад плесні?*

*О чараўніца! Гучанне шырокіх*
*Песень тваіх, што мы любім без меры,*
*Хай разлятаецца з рэхам далёка*
*І поўніць душы надзеяй і верай!*

*«Лютня», спявай нам! Бо спеў твой — прарочы:*
*Той люд жыве і свае песні мае,*
*Бо мёртвы пець больш нічога не хоча,*
*Песню ж жывую і смерць не спужае.*

*Ты аблягчай песняй мукі нямчасных,*
*Будзь для іх ласкай, любоўю, душою;*
*Стань ты надзеяй для тых, хто заўчасна*
*Горка аплаквае шчасце былое.*
*Гукі злівай у гармоніі весняй,*
*Сімвалам еднасці стань для краіны,*
*Вечна жыві і спявай нам, бо песня*
*Можа і мёртвых падняць з дамавіны.*

## Міхась ВАСІЛЁК
## (Міхаіл Касцевіч)

### Уперад, браце!

*Сіня, сіня даль бясконца.*
*А ў той далі — мэта, сонца…*
*Хвалі ветрыка*
*Ў паветры*
*Прабягаюць,*
*Срэбрам зззяюць*
*Ніўкі збожжа.*
*Як прыгожа!..*

*Гэй, наперад, браце-дружа!*
*Што, знядужаў? — не жартуй жа!*

*Хопіць сілы,*
*Глянь, як міла*
*Навакола —*
*Выйдзем здолу,*
*Торбы скінем,*
*Адпачынем.*

*Хоць прамністы шлях дарогі*
*Пярыністы — млеюць ногі…*
*Дух бадзёрны,*
*Непакорны,*
*Імпэт волі*
*На прыволле*
*З грудзей рвецца,*
*Ўдаль імкнецца.*
*Сіня, сіня даль, як мора,*
*Ужо сягоння, то не ўчора…*
*Гэй, сяйбіты,*
*Барацьбіты,*
*Спее ніва,*
*Будзе жніва*
*З нашай працы…*
*Уперад, браце!..*

## Адам МІЦКЕВІЧ

### Плаванне

*Мацнее шум, імчыцца вал за валам,*
*Па трапе птушкай узляцеў матрос,*
*Над прорвай учапіўся за нябачны трос,*
*Нібы павук перад атакаю удалай.*

*А вецер! Вецер! Цуглямі затрос*
*Конь-карабель прад леністай навалай,*
*Грудзямі разбівае, б'ецца з хваляй*
*І топча пену яго востры нос.*

*Душа мая за мачтамі ляціць,*
*Як ветразь, уздымаецца ўяўленне,*
*Мне лёгка! Я крычу ад захаплення.*

*Упаў і палубу рукамі абдымаю,*
*Здаецца: карабель дыханнем падганяю.*
*Мне лёгка! Я пазнаў, што значыць птушкай быць!*

**З польскай мовы**
**пераклаў Хведар ЖЫЧКА**

## Ян ЧАЧОТ

### Вандроўная пташка

*Пташка, пташка,*
*Скуль ляціш ты —*
*Ці не з нашых*
*Ніў?*

*Каб пачуць мне*
*Што аб мілай,*
*Я б шчаслівы*
*Быў.*

*Мо была*
*Ў яе садочку?*
*Ці не стрэла*
*Там*

*Той найгожай,*
*Да якой бы*
*Паляцеў я*
*Сам?*

*Ці не чула*
*Выпадкова*
*Ты хоць колькі*
*Слоў*

*Той, якая*
*Не выходзіць*
*З маіх юных*
*Сноў?*

*Ах ты, пташка,*
*Адлятаеш —*
*У якую ж*
*Даль?*

*Мне пакінула*
*Ізноў тут*
*Па наймілай*
*Жаль.*

---

## Людміла КЕБІЧ

### Маёй Радзіме

*Мая ласкавая, пяшчотная Радзіма,*
*сагрэй мяне агнём сваёй любові,*
*і, можа, я адтану ўсім на дзіва,*
*знайду адхланны тон у роднай мове.*

*Твая любоў — найдарагі мне падарунак.*
*Якое шчасце жыць, дзе нарадзіўся!*
*Дзе першы крык — як першы паратунак —*
*з жыццём айчыны назаўсёды зліўся.*

*Ты прыгарні мяне зялёнымі рукамі*
*палёў вясновых і лугоў квяцістых*
*ды правядзі сваімі доўгімі шляхамі*
*да рэк крыштальных і азёраў чыстых.*

*О, як прыемна засынаць пад шапаценне*
*дуброў вячыстых, залатога збожжа,*
*няхай не сонцам быць зіхоткім, але ценем,*
*ды толькі каб пад небам тваім гожым.*

*Ты падтрымай, прашу, мяне ў штодзённым коле*
*зямных турбот і думак, часам грэшных,*
*каб упілася не вінам журбы, а воляй*
*і захлынулася ад радасці няўцешнай.*

*З тваіх шляхоў ужо ніколі мне не збіцца,*
*на гэтым свеце (дый на тым, магчыма)*
*майго жыцця невычарпальная крыніца,*
*да забыцця любімая Радзіма.*

### Цяпер я ведаю

*Цяпер я ведаю, чаму*
*такая роспач ва ўсім свеце:*
*жыццё разбэрсвае не вецер,*
*а той, паверыла каму.*

*Цяпер я ведаю вытток*
*маёй журбы, амаль смяротнай:*
*прадбачу кожны хісткі крок*
*і лёсу рукапіс гаротны.*

*Цяпер я ведаю, адкуль*
*мая нясцерпная самота:*
*сасновай смолкаю сцяку*
*ці адгучу за нотай нота.*

*І не заўважыць свет сляпы,*
*калі я знікну незваротна:*
*брак усяго адной капы*
*ў жыццёвым стозе — неістотна.*

*Цяпер я ведаю, куды*
*душа самотная ўзляцела:*
*на мне — балючыя сляды,*
*на небе — зорка замігцела.*

## Ірына ВОЙТКА

### Кранаюся вечнасці

*Чым дакрануся да вечнасці?..*
*Гэтаю ліпай, алеяй.*
*Брукам, які мне расказвае*
*аб чалавечнасці*
*тых, хто жылі і пайшлі.*
*Дубамі кранаюся вечнасці,*
*што вякамі прастуюць да неба.*
*Дарогай, якая вядзе ў бясконцасць.*
*Кранаюся вечнасці рэкамі,*
*што імкнуцца ў вечнае мора.*
*І чысцінёю крыніц.*
*Кранаюся вечнасці крыжам —*
*ад народзін да скону.*
*І болем сваім,*
*і бацькавай памяццю,*
*І пахам цагельных капліц,*
*на якіх мне сустрэча*
*прызначана продкамі.*
*…Кранаюся вечнасці.*

## Рычард БЯЛЯЧЫЦ

### Дзень

*Слаўся прымаразак ранні*
*На саматканкі-дываны,*
*Як заадно маўчалі храмы,*
*Як па чарзе будзілі сны.*

*А потым ранак аксамітны*
*І нечаканая сляза.*
*Чамусьці помніцца малітва,*
*Што прад дарогай князь казаў.*

*Па небе светленькія жылкі*
*Цяклі між зорамі наўпрост.*
*Тут людзі птушкамі кружылі,*
*Не выракаючыся гнёзд.*

*Дзень беларускага пісьменства*
*Пакіне слова на лісце*
*Нябёсаў шчучынскіх, каб месца*
*Пазалаціла жыцце.*

### Прага дарог

*Заплюшчыўшы вочы, настойце*
*Ля вежы,*
*І горад кране*
*Буслінным крылом пры падлёце*
*Ў абноўленае старане.*

*Ён мроіў шляхамі, якія*
*Па хмарах і бруку вялі*
*Адных на Гародню і Кіеў,*
*Кагосьці — на Ерусалім.*

*Дарогай пабачыш не тое,*
*Пайшоўшы паўз месяц між зор, —*
*На Вільню, да Ганны Святое,*
*Праз Цётчын прыцішаны Двор.*

*І ад Мураванкі на Нёман*
*Ляціць праз стагоддзі наўзмах,*
*Чырвонага, белага повен,*
*Вякамі асвечаны птах.*

*А крылле — да берага бераг,*
*Каб кожны акропіцца мог*
*Крынічнай вадою і верай*
*Прад смагай далёкіх дарог.*
*І кожны дарогу паўторыць*
*Абрадам праз зорную гладзь.*
*Вярнулася вежа — не даць*
*У часе заблудзіцца і прасторах.*

## Алена ЯСЭК

### ***

*Чакаю восені сухім я летам*
*і не зважаю, што нялюбая яна.*
*Ісці ямчэ ёй — сотні тысяч метраў,*
*ды ўжо чакаю я — бо прыйдзе спакваля.*

*Завесіць воблакі густыя цьмяна*
*і з іх пачне зямлю дажджом тады паіць.*
*Прырода вып'е першы дождж да грама —*

*захоча смагу наталіць...*
*Дождж будзе ліць.*

## Ала КЛЕМЯНОК

### Я з табой

Маналог маці

*Нават калі*
*паміж намі адлегласці,*
*нават калі*
*паміж намі нязгода,*
*буду табе я*
*прытулкам у беднасці,*
*буду табе я*
*шчытом ад нягоды.*
*Буду нябачнай*
*на фэстах, дзе танчыш ты,*
*і незаўважнай*
*у тлуме трыумфу,*
*цень мой празрысты*
*нідзе не пабачыш ты;*
*не патрывожу*
*ні словам, ні гукам.*
*Толькі душой*
*назаўжды з табой побач я.*
*Толькі малітвай,*
*нібы пупавінаю,*
*злучана, зліта,*
*на крыж прыкалочана,*
*кожнай тваёй*
*і сваёю правінаю.*
*Нават калі*
*ад мяне і далёка ты,*
*помні заўсёды:*
*ёсць сэрца на свеце,*
*што ўратуе*
*любоўю — не зёлкамі,*
*і захіне ад бяды*
*і ад смецця.*
*Хай будзе лёс твой*
*на шчасце багатым,*
*хай не стамляе свет феерычны.*
*Цябе не пакіну*
*ні ў славе, ні ў латах,*
*нават калі*
*стану пылам касмічным.*

## Уладзімір БАРМУТА

### А мне пачуцці нагадалі…

*Выходжу раніцай на ростань,*
*асенні клён гарыць-гарыць…*
*О, як нялёгка і няпроста*
*пачуцці ў словах паўтарыць!*

*Яны мне сёння нагадалі*
*вясны палескае разліў.*
*А недзе там, у зорнай далі,*
*пяюць і плачуць жураўлі.*

*І з неразгаданаю сілай*
*гучыць над безданню палёў*
*любоў да бацькаўшчыны мілай*
*у сумнай песні жураўлёў.*

*Вось так і нас, усім багаты,*
*лёс па зямлі вядзе-вядзе,*
*але цяпло бацькоўскай хаты*
*не забываецца нідзе.*

### Непазбежнасць

*Настане дзень — і ў полымі зары*
*апошні ліст на клёне адгарыць.*
*І непрыкметна ён у Лету кане.*
*І новы дзень, і новы час настане.*
*І нехта іншы будзе гаварыць:*
*«Апошні ліст на клёне адгарыць…»*

Іван ПЯШКО



# Брат мой

Тэлефонны званок быў з кароткімі перапынкамі, настойлівы, адрывісты і чамусьці падаўся надта гучным. Жаночы голас пазнаў з першага слова. Званіла братавая.

— Ваня? Слухай, у суботу ў дзевяць будзе абедня, а потым паніхіда. Па Валіку, заказала я паніхіду. Прыязджай.

У адказ пасля непрацяглага маўчання я сказаў у трубку, што ўсё зразумеў: абедня ў суботу раніцай.

Гэтая паніхіда з нагоды сарака гадоў. Брат загінуў у семдзесят трэцім, калі яму было трыццаць пяць. Так, мінула з таго дня шостага кастрычніка сорак гадоў. За гэты час чаго толькі не давялося перажыць, і, мабыць, найбольш непрыемнага, трагічнага.

Канечне, ехаць не хацелася. Стаяць у царкве ці ў саборы сярод вернікаў, хрысціцца, адбіваць паклоны яму, чалавеку, які ў інстытуце вывучаў і здаваў экзамены па дыямаце, навуковым атэізме, потым працаваў настаўнікам гісторыі і грамадазнаўства ў сярэдняй школе, парторгам саўгаса, намеснікам рэдактара раённай газеты, адначасова выконваючы абавязкі сакратара партыйнай арганізацыі, калі вёў у газеце рубрыку «Партыйнае жыццё», было надта ў нямогу. Рэдактар раёнкі, выпускнік Вышэйшай партыйнай школы, таму што закончыў гэтую навучальную ўстанову і быў прызначаны рэдактарам, «перабудаваўся» вельмі хутка. Ідучы на работу, збочваў да царквы, спыняўся ля храма, хрысціўся.

Я заходзіў у царкву, калі служылі паніхіду, але ў паклонах не схіляўся, не жагнаўся.

Так, ехаць не хацелася, але трэба. Што ж, паеду першым аўтобусам.

Усе фотаздымкі брата прапалі, не засталося ніводнага. Асабліва шкада было трох аматарскіх фатаграфій са здымак мастацкага фільма «Гарачы снег». На адным фота брат з артыстам Георгіем Жжонавым, на другім — з рэжысёрам Егіазаравым, на трэцім — перад нямецкім «тыграм»!

Вечарам напярэдадні ад'езду ўключыў тэлевізар, шукаючы цікавую перадачу, і наткнуўся на знаёмыя кадры ваеннага фільма. Адразу зразумеў: «Гарачы снег». Дачакаўся эпізода, калі першы нямецкі танк дайшоў да мастка праз рэчку Мышкавая. Нямецкі танк вёў брат Валянцін, маёр Савецкай арміі.

Сорак гадоў таму ў адным лісце брат пісаў пра здымкі фільма па рамане пісьменніка Юрыя Бондарава. Раніцай перад ад'ездам адшукаў той ліст. Пачаў перачытваць.

«Добры дзень, Ваня, Оля, Жэнька!

Атрымаў ад вас пісьмо, за гэта вялікі дзякуй. Вас, мусіць, цікавіць пытанне, чаму так доўга не пісаў? Апошнія чатыры месяцы ў мяне не было пастаяннага месца і болыш, чым на 15 дзён, мы нідзе не затрымліваліся. У асноўным спыняліся ў месцах, аддаленых ад населеных пунктаў. Нават з Абаканам трымалі сувязь у асноўным праз тых, хто ад'язджаў і прыязджаў. Але ўсё гэта ў мінулым. 28 красавіка вярнуліся на старое месца. Тут таксама непачаты край работы.

Што новага дома? Першае — з 18 лютага я ўжо маёр, другое — мы перайшлі ў новую кватэру, трохпакаёўку, але, па праўдзе кажучы, яна мне не падабаецца. Старая кватэра была больш утульная. Але гэтая — на другім паверсе, старая была на пятым. Галоўнае, Андрэйка цяпер асобна ад суседскага хлопца, які дрэнна ўплываў на сына. Вось гэта і прымусіла змяніць кватэру.

Цяпер адносна здымак. Усе натурныя здымкі закончаны. Засталіся здымкі ў павільёне, але гэта будзе рабіцца на «Масфільме». Якія ўражанні засталіся? Самыя агідныя. Адным словам, такая шарага, якой свет не бачыў. Самі не ведаюць, што ім трэба нават на суткі наперад. Работа з імі была цяжкай. Папершае, з 8 раніцы да 8 вечара трэба быць на здымачнай пляцоўцы, нягледзячы на надвор'е, таму што ў любы час ім могуць спатрэбіцца танкі для таго ці іншага кадра, кожны з каторых яны робяць па 4 — 6 разоў. Па-другое, да мяне прыкамандзіраваны 18 нямецкіх танкаў з механікамі, якія ўвогуле не ведаюць, што такое служба і, як яны гаварылі, за ўвесь час да прыезду ў Сібір іх ніхто не ставіў у вайсковы строй. Сваіх таксама два батальёны, г. зн. 50 адзінак. Вось з такой шарагай даводзіцца працаваць. Цяпер пра фільм. Павінен атрымацца нядрэнным. Увесь фільм бачыў на экране. Усё гэта сырое, ленту трэба манціраваць. І яшчэ. Калі будзеш глядзець гэты фільм, то ведай, што датычыць савецкіх і нямецкіх танкістаў на экране, то гэта мае хлопцы дзейнічаюць, хаця іх не бачна за бранёй, а ў эпізодзе масавай атакі нямецкіх танкаў давялося і мне залезці ў танк, і ён быў першым танкам, які вырваўся да моста на рацэ Мышкавая, ва ўсіх астатніх эпізодах я знаходзіўся на КП разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Г. Г. Егіазаравым. Праўда, частка маіх хлопцаў была і за пяхоту, але толькі ў двух эпізодах: на станцыі Цвяточная і на палявой дарозе ў пачатку здымкаў. Адносна артыстаў. Ролю камандарма Бяссонава выконвае Г. С. Жжонаў, члена Ваеннага савета генерала Весніна — артыст Кузняцоў, камдыва палкоўніка Дзеева — артыст Свірыдаў, Драздоўскага — Коля Ягораў, ну і яшчэ некалькі маладых студэнтаў інстытута кінематаграфіі. Сюды трапіў і самавук Кавалераў, які нідзе не працуе, раней ён здымаўся ў фільме «Рэспубліка ШКІД».

Вось, здаецца, і ўсё, пра што табе хацеў расказаць. Высылаю некалькі аматарскіх фотаздымкаў, якія зрабілі салдаты. Андрэйка вучыцца добра, але з пісьмом у яго няма ладу, надта спяшаецца, шмат мажа. Галка працуе, так што яму няма каму дапамагаць.

Заканчваю. Пішы пра сябе больш падрабязна. З прывітаннем — Галка і Андрэйка. Перадавай прывітанне Жэньку і Олі. Пішы, дзе мама — у Каменцы ці ў нашай вёсцы. Да пабачэння».

2.05.73.

Захавалася і газета саракагадовай даўнасці «Праўда» ад 11 кастрычніка 1973 года, дзе на пятай старонцы змясціла інфармацыю пра падзеі міжнароднага жыцця. Тут можна было прачытаць пра ход ваенных дзеянняў на Блізкім Усходзе. «У ходзе паветраных баёў збіта 23 ізраільскія самалёты, 5 лётчыкаў трапілі ў палон». Тады ў саюзе з Сірыяй ваявалі Егіпет, Ірак, свае войскі накіравала і Уганда.

Яшчэ адзін дакумент я ўзяў з сабой. Два месяцы таму напісаў ліст у рэспубліканскую газету, што пра майго загінулага брата, воіна-інтэрнацыяналіста, не змясцілі ніводнага радка ў раённай кнізе «Памяць». Нядаўна адзначалі юбілей горада Скідзель, з такой нагоды выдалі кнігу, але і ў ёй не было звестак пра воінаінтэрнацыяналіста, які вучыўся ў Скідзельскай сярэдняй школе. З газеты ліст накіравалі ў аблвыканкам, а адтуль — у райвыканкам. Нарэшце з раёна паабяцалі, што ў школе пасля рэстаўрацыі зробяць экспазіцыю ў музеі.

Калі ўвайшоў у сабор, кінулася ў вочы, што людзей у зале шмат: ішла служба. Братавую я заўважыў амаль адразу, яна стаяла з левага краю, ля калоны. Я падышоў, кіўнуў галавою ў знак прывітання, яна таксама моўчкі кіўнула ў адказ. Галя стаяла, абапершыся на кіёк, побач была кароткая масіўная лава, на ёй сядзелі дзве жанчыны старэйшага веку. Галі было ўжо за семдзесят, як і мне, але гадоў пятнаццаць таму яна няўдала ўпала, пазней паступова пачала рухацца, але толькі з кіёчкам. У аварыі я зламаў пазваночнік, але мог хадзіць і нават стаяць дзве-тры гадзіны.

Валік быў невялікага расточку. У дзяцінстве любіў коней. Была ў яго ладная, гладкая кабыла Жучка, што як агню баялася машын. Яна чуйна паварочвала галаву ў той бок, дзе рухалася машына, стрыгла вушамі, нервавалася, перабірала нагамі, гатовая ў любы момант сарвацца з месца ды імчаць прэч. Коней трэба было дагледзець, сачыць, каб не ўлезлі на пасевы. Вартавалі па чарзе, і часта з коньмі выпраўляўся Валік.

Так атрымалася, што летам і восенню галоўным для ўсёй сям'і заняткам быў збор грыбоў у агромністым лясным масіве за вёскай. Сабраныя баравікі сушылі на змайстраванай Валікам сушылцы ў прапаленай печы. Пасля за іх давалі немалыя грошы.

У той дзень маці ўгаварыла Валіка, які вярнуўся з Жучкай з начнога, пайсці ў грыбы, паабяцаўшы, што дасць паспаць пасля лесу. Я ж добра ведаў грыбныя мясціны і хадзіў па лесе адзін. Праз паўгадзіны нечакана ўбачыў брата, які, абапершыся спінай на старую хвою, сядзеў на зямлі. Перад ім быў кош, дзе ляжала мо з дзясятак баравікоў. Валік спаў: мусіць, прысеў на хвілінку, а бяссонная ноч тут жа дала пра сябе знаць. Я яго не будзіў, пераклаў баравікі са свайго кошыка ў ягоны і ціхутка пакінуў тое месца, спадзеючыся, што неўзабаве назбіраю яшчэ грыбоў. Аднак болей, чым брат, мне ў той дзень сабраць баравікоў не ўдалося. Маці, вярнуўшыся з лесу, пахваліла Валіка, які і коней ноччу вартаваў, і грыбоў назбіраў больш як хто…

Жанчына, што сядзела на лаве, паднялася, пайшла да выхаду, і на свабоднае месца прысела Галя.

…Яны пажаніліся ў той час, калі я служыў у будаўнічым атрадзе. Валік закончыў вучобу ў Харкаўскім танкавым вучылішчы і па заканчэнні вучобы быў накіраваны ў Венгрыю. У першы свой адпачынак прыехаў у родную вёску. Назаўтра вырашыў адведаць сястру ў Канюхах. Швагер Алёша падгаварыў з'ездзіць у госці да сястры ў Гушчыцы: маўляў, пазнаёмлю з пляменніцай. Паехалі на веласіпедах, за дзесяць кіламетраў. Бравому лейтэнанту спадабалася навучэнка бухгалтарскага аддзялення Ашмянскага сельгастэхнікума, а невысокага афіцэра ў ладна падагнанай форме вясковая дзяўчына ўпадабала так, што малады чалавек застаўся начаваць, а назаўтра аб'явіў, што вырашыў раз і назаўсёды скончыць халасцяцкае жыццё.

Абедня ішла да завяршэння. Дзве жанчыны праходзілі між радоў, трымаючы перад сабой невялікія скрыні, куды прыхаджане клалі грошы. Непрыкметна да мяне падышла жонка Андрэя, павіталася, стала поруч. Галя азірнулася.

— Зараз пачнецца паніхіда. Ты схадзі купі свечку, — прапанавала мне.

Купіўшы свечку, я вярнуўся да калоны, ля якой сядзела Галя. Цяпер тут стаяў і Андрэй, мы павіталіся. Пачалася паніхіда...

Трактарыстам Валік працаваў няпоўны год. Добра памятаецца, як брат прынёс дамоў першую зарплату. Апроч грошай выняў з сеткі кавалак сала кілаграма на паўтара. Гэта Ваньку, сказаў ён. Той восенню я пайшоў у восьмы клас і ўжо пасяліўся ў школьным інтэрнаце, там сталаваўся. На вячэру звычайна варылі бульбу, якую елі са скваркамі. Але тое вэнджанае сала не было прыдатным для смажання…

Нарэшце служба скончылася. Галіна двухпакаёвая кватэра месцілася за пяць хвілін хады ад сабора, насупраць чыгуначнага вакзала. Яе далі па хадайніцтве Міністэрства абароны ў тым жа семдзесят трэцім годзе. Было цеснавата, аднак месца для застолля знайшлося. Апроч Галі, Андрэя і яго жонкі Святланы былі іх сын Міша, першакурснік сталічнай ВНУ, і дачка-васьмікласніца Маша, Таццяна і яе муж Сяргей, старэйшая дачка Кацярына з мужам.

Галя запрасіла за стол. Стоячы прачыталі "Ойча наш». Калі выпілі і закусілі, я ўспомніў пра ліст — адказ на мой зварот у рэспубліканскую газету, даў пачытаць Галі. Андрэю працягнуў пісьмо, якое Валік напісаў мне пасля здымак фільма «Гарачы снег».

Галя прачытала адказ загадчыка ідэалагічнага аддзела аблвыканкама, які пісаў пра тую дапамогу, якую аказваюць сем'ям загінуўшых воінаў-інтэрнацыяналістаў раёна, а ў канцы коратка паведаміў, што ў музейным пакоі школы, дзе вучыўся брат, пасля рэканструкцыі будзе ўвекавечана памяць воіна-інтэрнацыяналіста Валянціна Пяшко.

— Што ж, будзем спадзявацца, што гэта будзе зроблена, — ціха прамовіла Галя. Усміхнулася:

— Была гісторыя… У пасёлку цукровага завода ладзілі фестываль. Тады падобныя мерапрыемствы арганізоўвалі часта. Канцэрты мастацкай самадзейнасці, конкурсы, вікторыны, спартыўныя гульні, танцы, духавы аркестр — весяліліся да позняга вечара ці пакуль дождж не разганяў. Ну, я таксама рванула на фестываль, ды не адна, а з Віцем. Ходзім з ім па мурожнай траве па-над Котрай, як на шпацыры, і раптам Ленка на мяне налятае: «Валік тут!» Чаго-чаго, а вось гэтага я ніяк не чакала. Пісалі адно аднаму ледзь не кожны дзень, і ні слова пра адпачынак.

Тая камандзіроўка ў Саюз была нечаканай. Па нейкай справе, хутчэй за ўсё, па новую тэхніку для сваёй вайсковай часці, камандзіравалі ў Петразаводск маладога лейтэнанта з трыма салдатамі. І закаханы брат вырашыў, што па дарозе зможа заехаць на радзіму, да Галі. З салдатамі завярнуў у Скідзель, размясціў воінаў у гасцініцы, з аўтаматамі на спадарожнай машыне прыехаў у Лішчыцы, зброю паклаў у куфар, зачыніў замок. Да Гушчыц, дзе жыла Галя, чатырнаццаць кіламетраў, патрэбен быў транспарт. Выручыў сябра Сяргей Герасімовіч, трактарыст, які ездзіў на ІЖ-56.

У адказ на прапанову брата Сяргей пайшоў у гараж па матацыкл. Праз пятнаццаць хвілін сябры былі ў Гушчыцах. Бацька Галі паведаміў пра фестываль. Ад Гушчыц да цукровага завода — пяць кіламетраў. Так здарылася, што першай Валянціна ўбачыла Лена, адразу кінулася да Галі, сказала пра нечаканага госця, параіла ўцякаць. І Галя, кінуўшы кавалера, задворкамі-агародамі напрасткі падалася дамоў. Пахадзіўшы між маладых людзей, распытаўшы знаёмых, Валік з Сяргеем мусілі вяртацца з пасёлка ні з чым. Па дарозе ў Лішчыцы яны спыніліся ў сястры ў Канюхах.

— Чорт ведае што, — разгублена вымавіў брат, калі злез з матацыкла. — Як скрозь зямлю правалілася. Казалі, нібыта бачылі яе з Віцем, кавалерам, з якім раней сустракалася…

— Ну, і што будзеш рабіць? — пацікавілася баба Зося, свякроўка маёй сястры Марыі.

— Што рабіць? Тут адно выйсце — паеду, вазьму аўтамат і… Спачатку яе, а потым сябе… — адказаў Валік, усаджваючыся на матацыкл.

Галя працягвала ўспамінаць.

— Вечарам прыязджае Валік на веласіпедзе. Чакала я, перажывала… Гэта ж трэба такому здарыцца… Якраз нядзеля, якраз гэты фестываль…

«Галка, ну як ты магла… Пра што думала… Што ты ўчыніла?» — «А ты што ўчыніў?» — «Што?» — «Што, што… Баба Зося, ёй ка восемдзесят. Прыбегла за дзесяць кіламетраў, сама не свая, уварвалася ў хату, крычыць: хавайся, сказаў, возьме аўтамат, рашыць цябе, а потым сябе. Ты не падумаў, што яна хворая, сэрца слабое, а раптам памерла б у дарозе?!» — «Ну, пажартаваў, прабач…»

— Правільна, — усміхалася Таццяна. — Самая лепшая абарона — нападзенне, атака.

— Памірыліся мы, — скончыла расповед Галя.

— Вось ніколі не падумала б, што Галіна Антонаўна здатная на такія ўчынкі, — заўважыла нявестка Святлана.

Я зірнуў на гадзіннік. Падняўся, развітаўся, пакіраваў у прыхожую. Андрэй папрасіў пакінуць яму бацькаў ліст. Я падумаў, што ён не мае ніводнага ліста ад Валіка, а ў мяне дома захавалася некалькі, таму той, на чатырох старонках са школьнага сшытка, пакінуў пляменніку.

# Пакаранне без злачынства




Здавалася б, для беларускай літаратуры сюжэт гэтай аповесці досыць класічны: вайна, вёска, героі, якія апынуліся разам у складанай сітуацыі і вымушаныя нейкім чынам суіснаваць. Аднак, ідучы праверанымі шляхамі, празаік Уладзімір Саламаха знаходзіць новыя рысы ва ўжо знаёмым сюжэце. У аповесці «…І няма шляху чужога», якая стала загалоўнай для ўсяго зборніка прозы (Мінск: Мастацкая літаратура, 2014), у цэнтры ўвагі апынаецца перадусім псіхалогія герояў. Аўтар спрабуе разгадаць загадку прадвызначанасці лёсу, адказаць на пытанне: чаму жыццё кожнага з персанажаў складваецца менавіта такім чынам? Чаму чалавек, які стараецца жыць правільна, у выніку — цалкам ізаляваны?

Паводле сюжэту аповесці, Іосіф і Яўхім калісьці былі сябрамі. Разам працавалі ў калгасе, гадавалі сыноў, дапамагалі адзін аднаму. Жонка Іосіфа рана памерла, і ён аддаў свайго сына Стаса (дарэчы, не будучы ўпэўненым у тым, што насамрэч з'яўляецца яго бацькам) на выхаванне бабулі з дзядулем, сам застаўся адзін. Адны засталіся і іншыя нешматлікія жыхары вёскі Гуда. Мужчыны пайшлі на фронт, большая частка жанчын, дзяцей і старых згарэлі разам з вёскай падчас карнай аперацыі фашыстаў…

Ды толькі адзінота кожнага з герояў аповесці моцна адрозніваецца ад адзіноты старога Іосіфа. На яго хату (адзіную ацалелую ў Гудзе) аднавяскоўцы глядзяць са злосцю. Дзеці кідаюць у яго снежкі і кавалкі лёду. Мужчыны не прымаюць яго дапамогі па гаспадарцы. Яны моцна ненавідзяць Іосіфа, бо яго сын Стас… стаў паліцаем.

Здаецца, што ўсе героі аповесці нібыта наўмысна шукаюць нагоды для асуджэння старога Іосіфа, хоць самі не вызначаюцца крыштальна чыстым сумленнем. Яны не проста зневажаюць бацьку здрадніка, пакідаюць яго ў ізаляцыі, але фактычна выпраўляюць старога на смерць. Нават поўнае пакаянне Іосіфа не з'яўляецца для Яўхіма аргументам для даравання, дапамогі і выратавання ад паводкі. Але ж, калі падумаць, то і падчас вайны Іосіф, па сутнасці, не здраджвае нікому. Хіба толькі тым, што, маючы магчымасць забіць Стаса, ён не бярэ грэх на душу. Але ці можа бацька адказваць за ўчынкі сына?..

Адметна, што проза Уладзіміра Саламахі — чытво не з лёгкіх. Сюжэты і вобразы яшчэ доўгі час прымушаюць задумвацца і над уласным лёсам, ды аўтар не адказвае на ключавыя пытанні твораў, чытач мусіць знайсці рашэнні сам.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Мой родны кут...»: песня пра галоўнае

Няцяжка заўважыць: у большасці вершаў пра Радзіму абавязкова прысутнічае туга. Падобны настрой напаткае вас і ў кнізе вершаў Міхася Пазнякова «Наталенне Радзімай».




Між тым паэт не звяртаецца да сівой даўніны. Яго настальгія распасціраецца выключна на некалькі дзясяткаў гадоў і абмяжоўваецца тэрыторыяй малой радзімы.

*Не спіцца…*
*Штосьці шапоча дождж.*
*Нібы маланкай,*
*Асвятляе памяць:*
*Я зноў бягу па вёсцы*
*Басаног,*
*Няшчадна*
*Сонца ліпеньскае*
*Паліць…*

Адкуль жа гэты тужлівы настрой? А справа ў тым, што беларуская вёска — прынамсі, такая, з якой выйшаў паэт, — знікае. Пустуюць хаты, у якіх некалі жылі яго сябры. Дзічэюць сады, якія былі сімвалам дабрабыту і зямнога шчасця. Сыходзяць людзі, якія ў паэтычных творах губляюць індывідуальнае і ператвараюцца ў сімвалы — расстання, болю, весялосці, працы, самой вёскі, яе гумару і г. д.

Што цікава, нават калі аўтар піша пра Радзіму ў шырокім сэнсе, мы бачым усё тую ж вёску, толькі павялічаную да памераў, адпаведных пафасу твора. Пры гэтым горад і вёска ў вершах М. Пазнякова не суседнічаюць, а супрацьпастаўляюцца. Калі вёска — крыніца сілы і радасці, то горад паўстае энергетычным вампірам, што цягне з чалавека ўсе сокі, так што рана ці позна таму давядзецца вярнуцца ў вёску.

Не дзіўна, што выміранне вёскі выклікае ў лірычнага героя непадробны сум. Бо знікае не толькі стары лад жыцця, але ў пэўным сэнсе і сам паэт. Але і гэта не ўся бяда: «…у бацькоўскім краі цэзій / Пасяліўся на вякі…». Асаблівы трагізм надае гэтым радкам тое, што «на вякі» — не метафара.

Выраз «наталенне Радзімай» можна назваць аксюмаранам, бо насамрэч гэта немагчыма. Можна толькі бясконца вяртацца да яе, каб вярнуць хоць на які час страчаную ў душы.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Мастацтва дыялогу




Інтэрв'ю з кампазітарамі, мастакамі, пісьменнікамі і іншымі прадстаўнікамі творчых прафесій — адны з самых цікавых матэрыялаў на старонках перыёдыкі. Таму ўвагу чытачоў мусіць прыцягнуць выданне, дзе сабраныя вялікія інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры. Пасля кнігі «Постаці: з цэлым народам гутарку весці» (2011) пабачыла свет новая кніга Зіновія Прыгодзіча «Постаці: сэрца мільёнаў падслухаць біцця», дзе суразмоўцамі аўтара з'яўляюцца Наталля Гайда, Валянціна Гаявая, Міхаіл Казінец, Мікалай Яроменка...

Кожнае інтэрв'ю займае ў сярэднім 30 старонак, якія сталі вынікам некалькіх сустрэч і апрацоўкі шматгадзінных дыктафонных запісаў. Вядома, у кнізе ёсць і выключэнні, пра якія З. Прыгодзіч распавядае ў змястоўных прадмовах. Уступ да інтэрв'ю — гэта магчымасць не толькі прадставіць суразмоўцу, але і прыгадаць сумесную працу над будучым тэкстам, коратка апісаць характар і настрой свайго героя.

Пытанні З. Прыгодзіча тычацца не толькі тэмаў, прафесійна блізкіх для суразмоўцаў, але і грамадскай, культурнай сітуацыі ў краіне. Прадстаўленыя ў кнізе дзесяць інтэрв'ю рабіліся з 1980-х гадоў — адпаведна, героі кнігі абмяркоўвалі самыя розныя праблемы — ад хібаў перабудовы да асабліваcцей сучаснай культурнай палітыкі. Сам стыль размовы дазваляе ўявіць атмасферу мінулых дзесяцігоддзяў: так, разам з пісьменнікамі Максімам Лужаніным і Барысам Сачанкам аўтар разважае пра тое, «як разумець кіраўніцтва літаратурай і мастацтвам», як «сачыць» за творчымі пошукамі маладых паэтаў.

Інтэрв'ю з М. Лужаніным абавязкова прывабіць тых, хто цікавіцца беларускай літаратурай: колішні ўзвышавец распавядае пра добра знаёмых Якуба Коласа, Янку Купалу, Кузьму Чорнага, Уладзіміра Караткевіча і разам з тым дзеліцца ўражаннямі ад творчасці Адама Глобуса, Анатоля Сыса, Алеся Разанава... З. Прыгодзіч адрасуе М. Лужаніну і Б. Сачанку пытанне пра пісьменнікаў-эмігрантаў і атрымлівае грунтоўныя цікавыя адказы. Да гонару аўтара, за плячыма якога немала адказных пасад, трэба адзначыць, што З. Прыгодзіч любіць адкрыта абмяркоўваць праблемы і дазваляе чытачам пазнаёміцца нават са смелымі і катэгарычнымі меркаваннямі суразмоўцаў. Каб зрабіць добрае інтэрв'ю, патрэбная немалая папярэдняя падрыхтоўка, агульная дасведчанасць, уменне весці сур'ёзную глыбокую размову. Дзякуючы гэтым якасцям аўтара і пабачыла свет кніга пра людзей з натхнёнай беларускай душой.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Псіхалогія на пальцах

Сярод дзіцячых кніг, што выйшлі сёлета — у розных жанрах, у розных выдавецтвах, — прыкметна вылучаецца дэбютная кніга Алены Мальчэўскай «Ша-ша з левага чаравіка». Бо гэтая гісторыя — дзіцячая ўмоўна, і адрасаваная яна перадусім не дзецям «дэ-юрэ», але дзецям «дэ-факта».

Ёсць казкі, у якіх законы свету дарослых перакладаюцца на мову сімвалаў, зразумелую дзецям. Так, дадаюцца магічныя артэфакты, у творы адбываюцца цудоўныя метамарфозы, а кожнае злачынства немінуча будзе пакаранае. І калі дзіця ўспрымае сімвалы літаральна, дарослы выразна бачыць падтэкст. У гэтым сэнсе «Ша-ша з левага чаравіка» — казка наадварот: не жыццё ператвараецца ў казку, а казка ўводзіцца ў жыццё, робіцца не проста адным з яго складнікаў, але неад'емнай яго часткай.

Алена Мальчэўская — аўтар вельмі далікатны, чуйны, і яе назіранні раскрываюць свет з лепшага яго боку. Казачніца звяртаецца да шматзначнасці, але не такой, што кідаецца ў вочы і выглядае як імкненне аўтара выявіць дасціпнасць. Яшчэ адна адметнасць — лагодны, часам амаль тужлівы тон, які быццам выказвае шкадаванне: наш свет не такі цудоўны, якім бы мог быць, і людзі ў ім чамусьці не вельмі шчаслівыя.




«На свеце ёсць таямніцы, якія павінны заставацца таямніцамі. І калі слон спіць, не трэба старацца зазірнуць яму ў вочы». Словам, калі б чалавек больш давяраў сусвету і выпадку, жыццё яго змянілася б да лепшага. Казка «Слон, пра якога не ведае Лёнік» перахоплівае ідэю сусветнай упарадкаванасці ды непазбежнасці непазбежнага — у лёгкай, гумарыстычнай форме. І пад гумарам тут варта разумець не анекдатычныя сітуацыі, але добрую, цёплую ўсмешку аўтара, якая адчуваецца ў кожным слове. Так, «Вера і шытыя сланы» не столькі казка для дзяцей, колькі псіхалагічны трэнінг для іх бацькоў.

Як і «Ша-ша з левага чаравіка». Ша-ша — цудоўнае стварэнне, якое з'явілася аднойчы ўвечары ў кватэры Светы. Гэты цуд прыходзіць да чалавека нечакана і з пэўнай місіяй: навучыць яго тром рэчам. Што гэта за рэчы?.. Кожны раз яны розныя, але істотна іншае: яны неабходныя чалавеку.

Навука Ша-шы, якую можна б было назваць навукай жыцця, ратуе ад гібелі, тым больш страшнай, што яна нікому не заўважная.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Cherches la femme

Навукова-папулярны стыль, інтрыгоўная тэма, легендарны галоўны герой, вялікія цытаты з вершаў... Здаецца, кніга Дзяніса Марціновіча «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча» павінна прывабіць кожнага, хто калі-небудзь з захапленнем гартаў творы вядомага пісьменніка.




У параўнанні са сваім папярэднікам — «"Донжуанскім спісам" Караткевіча» — новае выданне вырасла на 50 старонак і атрымала цікавае афармленне. Кнігу аздобілі фотаздымкі Раісы Ахматавай, Ніны Молевай, Валянціны Караткевіч і іншых жанчын, якія, верагодна, мелі блізкія стасункі з пісьменнікам. У другім раздзеле «Калі прыйдзе беларускі Андрэ Маруа?» з'явілася пяць новых тэкстаў, прысвечаных творчасці Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава, сучасных беларускіх аўтараў. Аб'яднаныя пад адной вокладкай «Донжуанскі спіс» і роздумы пра новыя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры — выдатная магчымасць нагадаць шырокаму колу чытачоў пра існаванне сучасных пісьменнікаў і іх разнапланавыя мастацкія пошукі.

У прадмове Д. Марціновіч з удзячнасцю пералічвае больш за дзясятак рэцэнзій на кнігу-папярэдніцу, а таксама тлумачыць мэтазгоднасць складання і разгадвання «Донжуанскага спісу» розных пісьменнікаў. Такое даследаванне «прыцягвае ўвагу да асобы аўтара, дапамагае высветліць прататыпы герояў у празаічных і паэтычных творах. Удакладніць, хто натхняў паэта на стварэнне таго ці іншага шэдэўра. Пазнаёміць чытачоў з лёсамі жанчын, якіх кахаў пэўны творца».

Кнігі Дзяніса Марціновіча — пачатак ладавання галерэі лёсаў тых жанчын, якія былі побач з беларускімі пісьменнікамі. Вядома, пра жонак айчынных класікаў часта згадваюць дзеці і сябры сям'і, але цікавых таямніц застаецца нямала... Варта спадзявацца, што «"Донжуанскі спіс" Караткевіча» будзе перавыдадзены яшчэ неаднойчы, а на паліцах бібліятэк і кнігарняў з'явяцца навукова-папулярныя выданні іншых аўтараў, прысвечаныя значным постацям нашай літаратуры.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Сустрэча з дасканалай жанчынай




На таленавітую паэзію багатыя і беларуская, і руская літаратура. З якой нагоды сучасны чытач пасля знаёмства з творчасцю класікаў можа звярнуцца да кнігі выбранага Тамары Красновай-Гусачэнка? На гэта ёсць некалькі прычын, вартых лаканічнага азначэння.

Па-першае, «Сустрэча» — кніга, зручная з практычных меркаванняў. Тут сабраныя не толькі вершы філасофскай, інтымнай ці пейзажнай лірыкі, але і творы для дзяцей. Так, вершы з раздзелу «Націск» дапамагаюць засвоіць акцэнталагічныя нормы рускай мовы. Рытм радка падказвае, на якім складзе павінны стаяць правільны націск, а жыццёвая гісторыя, абмаляваная ў творы, робіць навучанне цікавым. Такім чынам, «Сустрэча» — гэта магчымасць праводзіць рэгулярныя «дзіцячыя» чытанні ў коле сям'і.

Па-другое, паэзія Красновай-Гусачэнка — выдатнае апірышча для людзей, верных класічнаму трыадзінству «ісціна — дабро — прыгажосць» (як у мастацтве, так і ў жыцці). Кніга старшыні Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі дакладна не напалохае вычварэнствамі новых літаратурных школ і накірункаў. Многія чытачы дагэтуль разгортваюць кнігу, каб трапіць у свет суладдзя, дабрыні, узнёсласці, прыгажосці — і менавіта такую жыццесцвярджальную «Сустрэчу» падрыхтавала Тамара Краснова-Гусачэнка.

Трэцяя асаблівасць кнігі — увасабленне праз вобраз лірычнай гераіні жаночага тыпу, аптымальнага для сучасных славянскіх краін. Гэта добрая маці і выхавальніца, удзячная дачка, спакойная радасная жонка, шчырая верніца, асоба з патрыятычным светапоглядам, чалавек, неабыякавы да іншых... «Сустрэча» навучыць шаноўных чытачак паводзіць сябе мудра і годна ў складаных абставінах, а чытачам нагадае пра неацэнную каштоўнасць рэальнай сустрэчы з такой дасканалай жанчынай.

Тамара Краснова-Гусачэнка дэманструе выключную вынаходлівасць праз зварот да ўсемагчымых тэм — і разам з тым частотныя дзеяслоўныя і недакладныя рыфмы могуць засмуціць аматара літаратуры. Зрэшты, калі натхненне ўздымае над зямлёй і нясе на паэтычных крылах, ці варта губляць час на фармальнасці? На гэта пытанне кожны творца адказвае па-свойму...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Люб, Славута, Чэрн...




Вогнішчы, коні, грукат зброі, падарожжы на ладдзях, шчаслівыя купальскія ночы, крывавыя бітвы, бездапаможныя паланянкі... Калі вам падабаюцца гістарычныя раманы, прысвечаныя падзеям глыбокай старажытнасці, — чаму б не пагартаць новую кнігу Аляксандра Алейніка «Люб Кіевіч»? Твор распавядае пра заснаванне старажытнага летапіснага горада Любеча, пра сумесную барацьбу ўсходнеславянскіх плямёнаў з варагамі і хазарамі.

Паводле першай часткі рамана, «Люб Кіевіч» — даніна памяці пісьменніка свайму роду, у якім былі нават язычніцкія жрацы. Жыццёвы шлях А. Алейніка галоўным чынам звязаны з Гомелем, але яго родным мястэчкам з'яўляецца ўкраінскі Любеч, якому аўтар яшчэ ў 2003 годзе прысвяціў містыка-гістарычны раман «Легенда пра князя Люба».

Аўтар звяртаецца да дынамічнага сюжэта, імкнецца да максімальнай панарамнасці ў выяўленні падзей, стварае вялікую колькасць эпізадычных персанажаў. Напачатку раман падаецца стракатым і крыху заблытаным, не пакідае адчуванне, што пісьменнік пачаў расповед надта здалёк. Але пакрысе між хітрых эміраў, славянскіх вояў і іншаземных тацяў вылучаюцца галоўныя героі княжацкага роду: Люб, Славута, Чэрн, Любава, Святлана, Галіна. Сустракаюцца на старонках кнігі нават гамяне, якія жывуць на месцы ўпадзення Іпуці ў раку Сож і маюць князямі легендарных Гома і Гамола.

Вядома, у творы апісваюцца не толькі ваенныя канфлікты, але і гісторыі кахання, якія пераважна маюць трагічны фінал.

Аляксандр Алейнік услаўляе мужнасць ваяроў-продкаў, злёгку ідэалізуе іх лад жыцця і безумоўна захапляецца старажытнай гісторыяй. «Над зямлёй будзе панаваць даўні праклён, пакуль не прачнецца наша памяць і не верне нам гісторыю і веліч продкаў, іх забытыя імёны», — упэўнены аўтар. Па словах старога жраца з рамана, менавіта «памяць пра мінулае верне спакой на славянскую зямлю»...

**Янка НАТАВЕЦ**

# Што ў казцы схавана?




Сяргей Давідовіч — аўтар незвычайны: працаваў у праваахоўных органах, прайшоў шлях ад сяржанта да палкоўніка, скончыў Мінскую Вышэйшую школу МУС — і паэт.

Яшчэ адна адметнасць творчасці С. Давідовіча, якую можна назваць жанравай, — вялікая колькасць паэм. Так, ён стварыў больш як 30 твораў гэтага жанру, сярод якіх найбольш вядомыя «Зона», «Адкрыты ліст», «Маналог», «Лёс лесу». Асобныя вершы Сяргея Давідовіча сталі песнямі дзякуючы Яўгену Глебаву, Ігару Лучанку ды іншым кампазітарам.

Да ўсяго, Сяргей Фёдаравіч — жывапісец, які працуе ў жанры тэматычнай карціны-пейзажа і карціны грамадзянскай тэматыкі.

І, урэшце, тое, дзеля чаго мы пазнаёмілі вас з пісьменнікам: кніга для дзяцей «Дзівос з дзівосаў: казкі зблізку і здалёку». Гэта збор казак, якія могуць не толькі развесяліць дзіця, але і незаўважна патлумачыць яму, што добра і што дрэнна. Павучальнасць тут не выстаўляецца на першы план — галоўнае ў «Дзівосах...» — займальныя гісторыі і цёплая ўсмешка аўтара.

* * *

Ганна Скаржынская-Савіцкая — папулярная дзіцячая пісьменніца з Гродзеншчыны. Яе казкі і апавяданні неаднаразова публікаваліся ў перыядычным друку, а некаторыя з твораў нават гучалі ў перадачы «Вячэрняя казка» на рэспубліканскім радыё. У новую кнігу пісьменніцы «Надзейка-чарадзейка», акрамя казкі, якая дала назву ўсяму выданню, увайшлі яшчэ 12 гісторый пазнавальнага і павучальнага характару. Напісаныя ў займальнай форме, яны спрыяюць выхаванню сціпласці, кемлівасці, праўдзівасці, добразычлівасці, шчырасці. Мова Ганны Скаржынскай-Савіцкай вельмі вобразная, але пры гэтым дакладная: лаканічныя сказы, трапныя выразы, цікавыя параўнанні. Акрамя агульнай дыдактычнай мэты казак, якая, безумоўна, дасягнутая, пісьменніца вучыць маленькіх чытачоў сакавітым беларускім слоўцам: буслянка, звончык, сенажаці, кемлівасць ды інш. Даросламу чалавеку сюжэтныя лініі казак могуць падацца занадта простымі і прадказальнымі, але ж дзеці з захапленнем адкрыюць для сябе гэты свет. Асобна хацелася б адзначыць мастацкае афармленне выдання: кніга вельмі яркая, прывабная. Да слова, усе ілюстрацыі выканала сама аўтарка, а кніга выйшла ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».




**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Вернасць памяці




Да таго, як пачаць распавядаць пра кнігу, нельга не згадаць асобу аўтара. Міхаіл Шыманскі — вядомы беларускі журналіст і публіцыст, аўтар больш як двух дзясяткаў кніг, амаль чвэрць стагоддзя працаваў спецыяльным карэспандэнтам па Беларусі вядучай савецкай газеты «Известия», атрымаў мноства прафесійных прэмій і ўзнагарод, а ў 1998 годзе быў прызнаны лепшым у намінацыі маральна-этычных публікацый на Міжнародным фестывалі журналістыкі. Міхаіл Мікалаевіч і сёння вядзе актыўную журналісцкую і літаратурную дзейнасць: працуе ў газеце «Рэспубліка», рыхтуе да выдання рукапісы.

Яго новая кніга «Мы этой памяти верны», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», прысвечана 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У ёй сабраныя ўспаміны ўдзельнікаў баявых дзеянняў. Нарысы Міхаіла Шыманскага адлюстроўваюць самыя маштабныя баі Вялікай Айчыннай вайны — бітвы пад Масквой, Сталінградам, на Курскай дузе, за вызваленне Каўказа, аперацыі «Баграціён». У раздзеле «Их знали только в лицо» аўтар распавядае пра самыя буйныя разведгрупы і атрады, складаныя аперацыі, якія выконвалі разведчыкі ў тыле ворага, пра лёсы чэкістаў: «По заданию центра партизаны оседлали в этом районе все железные и шоссейные дороги. Передвижение гитлеровцев было парализовано. Врагу тошно: беспрерывные диверсии, в результате которых выводились из строя, уничтожались важные для оккупантов промышленные объекты…». Адчуваецца почырк прафесійнага савецкага журналіста — кожнае слова выверана, адшліфавана. Такая кніга — добры падарунак для ветэранаў і для маладога пакалення, якое, гартаючы старонкі, зможа адчуць атмасферу магутнай эпохі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Драмы нашай гісторыі




Праект «Зваротны адлік» тэлеканала АНТ даўно заваяваў любоў гледача. І справа нават не ў пэўнай аўдыторыі, якая цікавіцца гісторыяй: дакументальныя фільмы праекта занялі ўдзячную нішу асветніцка-забаўляльных перадач. «Чаму забаўляльных? — абурыцеся Вы. — Гаворка пра сур'ёзныя рэчы!» Але ў тым і справа: пра сур'ёзную рэч можна распавесці так, што дух зойме.

І вялікая заслуга тут, вядома ж, сцэнарыста. Адзін з іх — Наталля Голубева.

Найбольш вядомыя перадачы, створаныя па яе сцэнарыях, — гэта, пэўна, «Кірыл Мазураў. Непакорны беларус», што выйшла летась да 100-годдзя палітычнага дзеяча; «Друкаваны фронт. Газеты стралялі ва ўпор», прысвечаная гісторыі партызанскай і падпольнай прэсы часоў Вялікай Айчыннай вайны; «Аляксандр Чарвякоў. Абвінавачваецца бальшавік».

Дарэчы, за працу над фільмамі пра Мазурава і Чарвякова Наталля Голубева была прызнаная лепшай сцэнарысткай праекта ў 2014 годзе. Як распавяла Наталля Аляксандраўна, у аснове іх ляжаць толькі сапраўдныя гістарычныя дакументы, многія з якіх прадстаўленыя грамадскасці ўпершыню. Гэтыя паперы больш як 60 гадоў былі засакрэчаныя.

Сярод іншых прац Наталлі Голубевай — сцэнарыі да фільмаў «Вялікая вайна. Сыходзілі дабраахвотнікі», «Куцюр'е з Койданава, або Пацалунак Мэры Пікфард», а таксама — выпускі, прысвечаныя паэтам Уладзіславу Сыракомлю і Адаму Міцкевічу.

**Сяржук СТАХАНАЎ**

# Суседзі — наша люстэрка

Ужо стала добрай традыцыяй, што падчас Свята беларускага пісьменства за міжнародным «круглым сталом» збіраюцца айчынныя і замежныя пісьменнікі, выдаўцы, даследчыкі, перакладчыкі, каб абмеркаваць магчымасці ўзаемаперакладу, пасляховага супрацоўніцтва краін у галіне літаратуры. Такія сустрэчы ў многім становяцца плённымі для творцаў і вырашальнымі для чытачоў, бо вызначаюць, ці пазнаёмяцца яны з кнігамі аўтараў з дзяржаў-суседзяў. Вось і сёлета на свята ў Шчучын завітаюць госці з Расіі, Украіны, Літвы, Казахстана, Азербайджана… Мы ж прапануем чытачам адным вокам зазірнуць у залу сустрэчы, краем вуха падслухаць меркаванні замежных удзельнікаў пра значнасць літаратурнага супрацоўніцтва ў збліжэнні краін і народаў, цікавасць саміх творцаў да калег з краін-суседзяў і іх жаданне быць пачутымі за мяжой.

**Кямран НАЗІРЛІ, Азербайджан:**



— Літаратура і мастацтва — самае каштоўнае духоўнае багацце кожнага народа. Таму і супрацоўніцтва ў гэтай галіне павінна служыць збліжэнню краін і народаў. І ўсе мы, служкі пяра, павінны садзейнічаць гэтай вялікай мэце. Вы, напэўна, пагодзіцеся са мной, што музыка — адзіная мова, якой не патрэбны пераклад. Усе астатнія словы і думкі могуць страціць сваю значнасць без належнага перакладчыцкага майстэрства. Таму доўг кожнага з нас не забывацца на гэта, перакладаючы кожны радок, кожнае слова. Бо няма нічога больш важнага, чым місія, што збліжае народы на духоўным узроўні. Дарэчы, я не так даўно завяршыў пераклад выдатнай аповесці-казкі Алеся Карлюкевіча «Прыгоды Максімкі на радзіме і ў іншых краінах». Матэрыял ужо ў выдавецтве, думаю, кніга пабачыць свет да канца гэтага года.

Мне вельмі важна і цікава знаёміцца з творамі пісьменнікаў з іншых краін. І калі падчас чытання на рускай ці англійскай мовах кніга закранае маю душу і думкі, прымаю рашэнне перакласці яе на родную мову. Сярод маіх перакладаў ёсць перастварэнні твораў вялікіх рускіх аўтараў Аляксандра Блока, Антона Чэхава, Сяргея Ясеніна, турэцкіх — Сабахадзіна Алі, Юнуса Эмрэ, а таксама некалькіх маладых пісьменнікаў. Хачу адзначыць і свае пераклады з англійскіх і амерыканскіх аўтараў, такіх, як Джордж Байран, Персі Біш Шэлі, Эдгар Алан По, Оскар Уайльд, Джон Голсуарсі, Герман Мелвіл, Маргарэт Мітчэл, Уільям Фолкнер, Эрнэст Хемінгуэй, Габрыель Гарсія Маркес, Гаральд Пінтэр.

Што ж да важнасці выхаду творцы на міжнародную арэну, то кожны мастак павінен разумець: літаратура заўжды дасягае вышынь там, дзе яна становіцца адлюстраваннем лёсу ўсяго народа. Вялікая творчасць патрабуе і вялікага тэмпераменту. Я хоць і досыць тэмпераментны чалавек, але не скажу, што займаюся вялікай творчасцю. Канечне, кожны пісьменнік жадае быць пачутым не толькі на радзіме сваім народам, але і у іншых краінах, іншымі народамі. У гэтых адносінах я — не выключэнне. Мае апавяданні апублікаваныя на рускай, англійскай, украінскай, беларускай, грузінскай, узбекскай, турэцкай, галандскай, карэйскай мовах. Зараз ідзе падрыхтоўка да выдання новага рамана, плануецца, што кніга выйдзе на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Я хоць і моцны чалавек, але публікацыю і лёс кожнага са сваіх твораў перажываю, як дзіця. Вельмі хочацца прынесці карысць сваёй працай, пакінуць хоць нейкі след у душы чытача. Змяніць свет адзін чалавек, канечне, не зможа, але калі пісьменнік у лепшы бок зменіць думкі, погляд на свет хоць аднаго свайго чытача, значыць ён не дарэмна пражыў жыццё.

**Яронімас ЛАЎЦЮС, Літва:**



— Як чалавек тым больш шчаслівы, чым больш ён мае сяброў, так і любая краіна — чым больш увагі надае сяброўству з суседзямі, тым больш пасляхова яна развіваецца, багацее духоўна і матэрыяльна. Слова — галоўны інструмент зносін паміж людзьмі, і слова пісьменнікаў у выглядзе літаратурных твораў таксама з'яўляецца важным фактарам для збліжэння краін і народаў. Пра што б ні пісаў аўтар — вытокам яго твораў з'яўляецца жыццё, думкі, мары людзей, якія яго акружаюць. Ён піша пра лёс свайго народа, шляхі, па якіх ён ішоў да сённяшняга дня і па якіх будзе імкнуцца ісці ў будучыні. У сукупнасці гэта стварае сусветнае багацце, якое неабходна чытаць, пазнаваць, абдумваць. Разважаючы, агульны вопыт набываюць і чытачы, і пісьменнік.

Чытаючы творы аўтараў з іншых краін, мы маем магчымасць, як у люстэрку, пабачыць і саміх сябе. Мы параўноўваем нашы думкі, кнігі, і гэта не аддаляе, а збліжае нас. Бо ўсе тым і цікавыя, што маем уласную індывідуальнасць, погляд на свет, змены ў нашым жыцці, якія мы бачым і «выпраўляем» у сваіх творах. Жыццё ў кнігах павінна быць больш гуманным, пазітыўным, светлым, каб глыбей гэта ўсё пабачыць у рэчаіснасці.

Я заўсёды ганаруся, калі на тытульным лісце новай кнігі чытаю «перакладзена з літоўскай мовы». Мае кнігі перакладаюцца як на беларускую, так і на рускую мовы і штогод выдаюцца ў Мінску. Шмат гадоў супрацоўнічаю з Выдавецкім домам «Звязда», выдавецтвамі «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», «Мастацкая літаратура». І цяпер некалькі кніг рыхтуецца да выдання. Такое супрацоўніцтва адкрывае для мяне магчымасць быць перакладзеным і на іншыя мовы. Так, кніга «Твой шлях удачы» перакладзеная на сербскую мову і выдадзеная ў Чарнагорыі, яшчэ адна кніга была пераствораная па-таджыкску. Сёлета і ў Літве я выдаў кнігу беларускага пісьменніка Алеся Карлюкевіча «Як Шубуршун па Свіслачы падарожнічаў» на літоўскай мове.

Гэта і ёсць «сугучча сэрцаў» у рэчаіснасці.

**Святлана АНАНЬЕВА, Казахстан:**



— Безумоўна, мастацкія творы пішуцца для таго, каб з імі знаёміліся чытачы з розных краін свету. Таленавіта напісаная кніга пераскакае межы адной дзяржавы, набываючы новых сяброў. Збліжэнню краін і народаў садзейнічае мастацкі пераклад, дзякуючы якому літаратурны твор набывае новае жыццё. Менавіта кніга вобразна, ярка, захапляльна знаёміць нас.

Важна знаёміцца з літаратурамі краін-суседзяў, важна не толькі асабіста для мяне. Новую, толькі што падораную кнігу я чытаю ўжо ў салоне самалёта. Мы прафесійна даследуем сучасную літаратуру краін СНД і дальняга замежжа. Інстытутам літаратуры і мастацтва імя М. Ауэзава, вядучымі навуковымі супрацоўнікамі аддзела аналітыкі і знешніх літаратурных сувязей сумесна з выкладчыкамі ВНУ Казахстана, літаратуразнаўцамі і крытыкамі Азербайджана, Балгарыі, Германіі, Індыі, Малдовы, Расіі, Румыніі, Славакіі, Турцыі і Чэхіі выдадзены дзве калектыўныя манаграфіі «Нарысы па сусветнай літаратуры мяжы XX — XXI стагоддзяў» (2006) і «Навейшая замежная літаратура» (2010). Больш за тое, аўтарскі калектыў «Навейшай замежнай літаратуры» і выдавецкі дом «Жыбек жолы» сталі лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу на лепшы навукова-выдавецкі праект «Навуковая кніга — 2012» Савета па кнігавыданні Міжнароднай асацыяцыі Акадэмій навук (Масква).

І мы шчыра спадзяёмся, што ў новай калектыўнай манаграфіі «Сучасны сусветны літаратурны працэс» будуць прадстаўлены раздзелы пра беларускую, сербскую, эстонскую, літоўскую, грузінскую і іншыя літаратуры. Гэтаму ў многім садзейнічаюць Дні беларускага пісьменства, якія пашыраюць кола нашых аўтараў. І за гэта — дзякуй Беларусі.

Натуральна, наш інстытут працуе і ў галіне папулярызацыі казахскай літаратуры ў свеце. Так, за апошнія тры гады ў супрацоўніцтва з Калумбійскім універсітэтам (ЗША) выйшлі дзве анталогіі казахскай літаратуры на англійскай мове (пераклад Сяргея Леўшына і Ільі Бернштэйна). Маскоўскае выдавецтва «Художественная литература» ў серыі «Класіка літаратуры СНД» выдала два тамы казахскага фальклору і пісьмовай літаратуры, кнігі Немата Келімбетава, Сеіта Каскабасава, Станіслава Лі і іншых казахстанскіх аўтараў. Нашы літаратуры працягваюць шлях адна да адной і ў XXI стагоддзі.

**Аляксандр КАПЛІН, Украіна:**



— Супрацоўніцтва ў галіне літаратуры можа стаць адным з крокаў у плённым збліжэнні краін і народаў, калі літаратура, паводле выказвання Аляксандра Пушкіна, будзе «чувства добрые лирой пробуждать». А гэта здарыцца толькі ў тым выпадку, калі душа самога пісьменніка, яго «ухо чуткое», будзе адгукацца на дотык «Божественного глагола».

Таму мне вельмі важна знаёміцца з работамі калег з суседніх краін, асабліва калі гэта такія яскравыя сучаснікі, як акадэмік Іван Чарота. Яго выдатныя пераклады (напрыклад, твораў свяціцеля Мікалая Сербскага), публіцыстыка маюць агульнаславянскае, агульнаеўразійскае значэнне.

Я ж сам адмыслова не імкнуся да таго, каб мае работы былі вядомыя калегам з суседніх краін. Але паколькі я пішу пра вялікіх, выдатных мысляроў, пісьменнікаў, славянафілаў, выдаю іх кнігі (яны прадстаўляюцца ў тым ліку на штогадовай Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы), размяшчаю свае працы ў інтэрнэце, то многія зацікаўленыя чытачы маюць магчымасць з імі знаёміцца.

**Слабадан ВУКАНАВІЧ, Чарнагорыя:**



— Дакладна ведаю, што культурнае супрацоўніцтва стварае абстаноўку збліжэння дзяржаў. Гэта адносіцца і да нашых краін, якія пасварыліся. Вельмі важныя і сустрэчы, і супрацоўніцтва, размовы. Пакуль мы былі адзінай дзяржавай (Югаславіяй), больш было супрацоўніцтва. Тады галоўнае слова мелі самыя вялікія рэспублікі Сербія і Харватыя, пра меншых і ведалі няшмат. Самыя лепшыя аўтары з'язджалі ў Бялград, мы бяднелі, яны станавіліся мацнейшымі. Так было ў галінах культуры, навукі, спорту. Сёння ўсё па-іншаму, мы ствараем сваіх спецыялістаў, якія застаюцца ў Чарнагорыі. Зноў наладжваем сувязі з былымі рэспублікамі, цяпер — самастойнымі дзяржавамі. Працэс адбываецца павольна, разбуральнікі былі больш агрэсіўныя, а будаўнікі — спакойныя, цывілізаваныя.

На жаль, супрацоўніцтва ў галіне літаратуры паміж былымі югаслаўскімі дзяржавамі яшчэ не такое добрае і плённае, якім можа і павінна быць. Асабліва гэта тычыцца народаў, якія маюць падобныя мовы — чарнагорцаў, харватаў, баснійцаў і сербаў. Анталогіі твораў аўтараў з Чарнагорыі з'явіліся раней у Польшчы, Албаніі, Македоніі, не так даўно анталогія выйшла ў Германіі, чым у Сербіі і Харватыі. Старэйшае пакаленне творцаў ведае пісьменнікаў-суседзяў, маладзейшыя — не. Нас не трэба перакладаць, а маладошыя ўзаемна не знаёмыя. Палітыка стварыла межы, яна павінна іх і прыбраць.

Натуральна, я б хацеў, каб мае літаратурныя творы выйшлі ў суседніх краінах. У часопісах існуе нейкае супрацоўніцтва, што ж тычыцца выдання кніг, то тут усё спынілася. Культура павінна быць тым сувязным звяном, што можа аб'яднаць народы. Гэта не так дорага, бо ганарараў амаль не існуе. Самыя каштоўныя творы з'яўляюцца часткай культурнай спадчыны і асновай кожнай дзяржавы і нацыі. Маёй задачай як рэдактара літаратурнага часопіса «Quest» з'яўляецца ўстанавіць сувязі з як мага большай колькасцю аўтараў з рэгіёнаў і свету. У Чарнагорыі праходзіць некалькі міжнародных культурных імпрэз, якія мы, на жаль, пакуль не ўмеем выкарыстоўваць на карысць пісьменнікаў. Беларусь устала на бок аўтараў і культуры, пра гэта сведчаць і Дні беларускага пісьменства. Сюды прыязджаюць пісьменнікі з-за мяжы, знаёмяцца, перакладаюць. Кожны надрукаваны твор — пячатка існавання, сімвал культуры і цывілізацыі.

**Георгій ПРАХІН, Расія:**



— Натуральна, літаратура можа садзейнічаць міжнароднаму супрацоўніцтву. Адзіная цяжкасць у гэтым — каб кнігі чыталі. Мы страчваем народы, якія чытаюць, дакладней якасці народаў-чытачоў. Думаецца, менавіта адсюль паходзяць многія непаразуменні маральнага, эканамічнага і нават палітычнага характару. Народ, які чытае, — народ, які думае. Праўда, і замест чытання, мы, літаратары, гонячыся за капейкай і паддаючыся агульным густам, усё часцей прапаноўваем чтыво. Пошласць, канечне, таксама можа збліжаць, але гэта збліжэнне на ўзроўні інстынктаў, а не ідэалаў. Людзі ж па-свойму замяшчаюць літаратуру. Ідзе збліжэнне народаў і бытавых культур — на ўзроўні карэньчыкаў, а не верхавін. І гэта нават больш надзейна, чым сяброўства верхавін.

Мне вельмі важна знаёміцца з творамі пісьменнікаў-суседзяў. Не так даўно я прачытаў эсэ адной беларускай пісьменніцы пра лясы і быў зачараваны не толькі стылем, але і многімі падрабязнасцямі, звесткамі пра лясное жыццё вашай краіны. Я чытач нават больш вытанчаны, фундаментальны, чым выдавец.

Вельмі прыемна, калі творы перакладаюць на іншыя мовы. Мой «Інтэрнат» у свой час быў выдадзены ў Беларусі вялікім накладам толькі таму, што трапіў у спіс трох самых чытаных, запатрабаваных твораў у бібліятэках для дзяцей і падлеткаў. З тых часоў прайшло многа гадоў, але я дагэтуль ганаруся.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Энцыклапедыя раёна

**Штогадовае Свята беларускага пісьменства, сталіцамі якога з'яўляюцца невялікія гарады і мястэчкі краіны, у якасці выніку мае не толькі знаёмства жыхароў сваіх сталіц з айчыннымі пісьменнікамі, новымі выданнямі, пашырэнне кола чытачоў нашай літаратуры, але і дае магчымасць самому гораду — цэнтру свята расказаць пра сябе свету. Так, яшчэ напярэдадні Дня пісьменства сталічныя выдаўцы, даследчыкі імкнуцца пазнаёміцца з гісторыяй і сучаснасцю рэгіёна, вылучаюць адметныя моманты, знаходзяць знакамітых выхадцаў з гэтых мясцін. Вынік такой працы — у кнігах, прысвечаных літаратурнай, гістарычнай, культурнай спадчыне краю. Вось і сёлета дзве новыя кнігі распавядаюць нам пра Шчучыншчыну.**




*Пяшчота верасу: Шчучыншчына літаратурная. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 399 с.*

Кніга «Пяшчота верасу», што выйшла ў серыі «Беларусь літаратурная», — своеасаблівы творчы партрэт Шчучыншчыны. Укладальнік выдання, вядомы пісьменнік, публіцыст Алесь Марціновіч пачынае маляваць яго з самага дальняга плана, з дэталяў, якія маглі б і зусім знікнуць у пыле стагоддзяў. Гэта легенды і паданні пра паходжанне некаторых назваў, народныя песні і трагічныя балады, казкі.

Легенда пра назву горада Шчучын распавядае гісторыю супрацьстаяння беднага селяніна Мікалая і яго сыноў Яся і Стася з багатым аднавяскоўцам Саўкам. З-за жарту Яся і Стася, якія «прымусілі» зайздроснага Саўку лавіць шчупакоў рукамі ў брудной канаве, багаты селянін мусіў перасяліцца на хутар, які і атрымаў у народзе назву — Шчучын. З кнігі можна таксама даведацца, адкуль паходзяць назвы вёсак Юшкі, Бершты, Борці, Шайбакполь… Карані гэтых гісторый часам сягаюць у глыбіню мінуўшчыны на некалькі стагоддзяў. Да прыкладу, назва вёскі Юшкі паходзіць з часоў нападаў крымскіх татараў на нашы землі ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзя.

Шчучынская зямля дала свету многіх выдатных пісьменнікаў, навукоўцаў, музыкаў. Даведацца пра іх лёсы, а таксама пазнаёміцца з некаторымі творамі можна на старонках кнігі «Пяшчота верасу». З гэтых мясцінаў паходзяць многія сучасныя таленавітыя аўтары — паэтка і даследчыца Алена Руцкая, паэткі Ганна Скаржынская-Савіцкая, Любоў Русілка і яе дачка Вольга Русілка, вядомы кнігазнавец, супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу Мікола Нікалаеў, іншыя выдатныя творцы.

Ёсць сярод ураджэнцаў Шчучыншчыны і сапраўдныя літаратурныя зоркі. Гэта паэт-рамантык Ануфрый Петрашкевіч і адна з пачынальніц новай беларускай літаратуры, рэвалюцыянерка, пісьменніца Алаіза Пашкевіч, вядомая пад псеўданімам Цётка. Адметна, што ўкладальнік кнігі звяртае на гэтыя постаці асаблівую пільную ўвагу. Так, артыкул Кастуся Цвіркі, прысвечаны Ануфрыю Петрашкевічу, папярэднічае яго вершам. Мы даведваемся, што ўраджэнец Шчучына быў сябрам таварыства філаматаў, паплечнікам вядомага паэта і фалькларыста Яна Чачота, добрым знаёмым будучага навукоўца Ігната Дамейкі. Натхненне для сваіх вершаў-балад ён чэрпаў у фальклоры, карыстаўся народнымі вобразамі і сюжэтамі. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 гадоў Ануфрый Петрашкевіч быў асуджаны на смерць, пазней пакаранне было зменена на пажыццёвую высылку ў Сібір. У родныя мясціны ён змог вярнуцца толькі пасля 35 гадоў выгнання, але з часоў зняволення не напісаў ніводнага радка.

Па гэтай жа схеме пабудавана і прадстаўлене Цёткі. У сваім артыкуле Алесь Марціновіч распавядае пра яе жыццё, творчасць, унёсак у развіццё беларускай літаратуры, адукацыі, рэвалюцыйную дзейнасць. Адметна, што менавіта шчучынская зямля дала сілы і даследчыцы творчасці Цёткі — вядомаму літаратуразнаўцу Лідзіі Арабей. Калісьці яшчэ маладая даследчыца працавала ў шчучынскай раённай газеце «Чырвоны сцяг», тут жа пачала сваю творчую дзейнасць, стала пісаць вершы, захапілася вывучэннем жыццёвага шляху Цёткі. Пасля заканчэння БДУ і аспірантуры абараніла кандыдацкую дысертацыю, стала аўтарам кнігі і некалькіх дакументальна-мастацкіх аповесцей, прысвечаных знакамітай рэвалюцыянерцы.




*Шчучыншчына: карані і крона. — Мінск: Звязда, 2015. — 168 с.*

Багатай крыніцай ведаў пра мінуўшчыну кожнага раёна Беларусі з'яўляюцца гісторыка-дакументальныя хронікі «Памяць». Вартым дапаўненнем да гэтага выдання, якое дапаможа зазірнуць у мінуўшчыну мясцін, прайсціся па вуліцах горада і паглядзець на самыя знакамітыя архітэктурныя помнікі, што знаходзяцца ў раёне, можна назваць новы альбом «Шчучыншчына: карані і крона». Сотні прыгожых фотаздымкаў і ілюстрацый, мноства цікавых звестак, адметнае афармленне (кожны наступны разгорт не падобны на папярэдні) — вось асноўныя рысы гэтай кнігі.

Аўтары тэксту выдання Вольга Аляксеева і Аляксей Жабінскі распавядаюць пра гісторыю Шчучыншчыны ад часоў каменнага веку і да нашых дзён. Пра найбольш цікавыя і адметныя моманты мінуўшчыны краю аўтары распавядаюць больш падрабязна. Ужо з першых старонак кнігі мы даведаемся, што свой герб — барочны шчыт блакітнага колеру з залатой каронай і сярэбранай манаграмай Сцыпіёнаў «I» «S» — Шчучын атрымаў у 1761 годзе разам з каралеўскім прывілеем на магдэбургскае права. Адным з уладальнікаў мястэчка ў той час быў Ігнацій Сцыпіён.

У кнізе можна прачытаць і пра Шчучынскую школу піяраў, заснаваную ў горадзе ў 1726 годзе. Тут вучыліся сусветна вядомы геолаг Ігнат Дамейка, гісторык-археограф, праваазнаўца Мацей Догель, філосаф-асветнік Казімір Нарбут, выкладаў вядомы прыродазнавец Станіслаў Баніфацый Юндзіл. Са старонак кнігі можна даведацца і пра дзейнасць сясцёр міласэрнасці ў мястэчку, а таксама працу знакамітых шчучынскіх аптэкі і шпіталя. Справа ў тым, што здароўю манахаў і вучняў піяры надавалі вялікае значэнне. Сюды на працу запрашалі дыпламаваных спецыялістаў, выпускнікоў прэстыжных універсітэтаў.

Сярод ураджэнцаў — мастакі Казімір і Гіяцынт Альхімовічы, арнітолаг Канстанцін Тызенгаўз, пісьменніца, рэвалюцыянерка Цётка: расповеды пра іх лёс і працу змешчаныя ў кнізе. Асобныя стронкі альбома прысвечаныя падзеям на Шчучыншчыне ў гады Першай сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў. На старых фотаздымках, нібыта з сямейнага альбома, мы бачым галоўную вуліцу мястэчка, яго жыхароў ля станцыі Рожанка, вучняў за сталом з кнігамі, мураваныя і драўляныя храмы. А на яскравых сучасных фотаздымках Алы і Аляксея Бібікавых можна пабачыць асобныя моманты з жыцця Шчучыншчыны сёння. На тэрыторыі раёна працуюць 23 сельскія і гарадскія Дамы культуры, 24 бібліятэкі, цэнтр рамёстваў. Мы можам здзейсніць экскурсію на радзіму сусветна вядомага кампазітара, рок-музыканта Чэслава Немэна ў вёску Старыя Васілішкі. Сёння тут працуе клуб-музей нашага знакамітага земляка.

Альбом, што пабачыў свет напярэдадні Дня беларускага пісьменства, стане не толькі выдатным падарункам жыхарам і гасцям горада да свята, але і надоўга застанецца багатай крыніцай звестак пра адзін з маляўнічых куткоў нашай краіны — Шчучыншчыну.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Раніца для аўтара

Мінуць гады, і іх імёны стануць вядомымі на ўсёй краіне, на паліцах кнігарняў і бібліятэк будуць стаяць іх раманы і зборнікі вершаў, а чытачы — з нецярплівасцю чакаць новых твораў. Сёння ж яны толькі «становяцца на крыло», спрабуюць свой голас у літаратуры, іх творчы дзень толькі пачынаецца. Якія яны, маладыя аўтары? Пра што пішуць, хвалююцца? Чым жывуць? На гэтыя пытанні дапаможа адказаць новы зборнік прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца», што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» напярэдадні Свята беларускага пісьменства.

Больш як чатыры дзясяткі імёнаў, некалькі соцень вершаў, апавяданняў і запал маладосці, які немагчыма вымераць лічбамі. Маладыя аўтары, чые творы ўвайшлі ў новы зборнік, кахаюць, шукаюць сваё шчасце, згадваюць школьныя і ўніверсітэцкія гады, прыдумваюць новыя сусветы і ажыўляюць старажытныя міфы. Яны не баяцца быць шчырымі, адкрытымі ў тэкстах, вядуць даверлівую гутарку з чытачом. А як жа інакш — ад гэтага першага ўражання, першага спаткання з шырокай аўдыторыяй у многім залежыць іх далейшы лёс у літаратуры. Спадзяюся, у іх усё атрымаецца, і першае знаёмства ператорыцца ў вернае сяброўства на доўгія гады.

Адметна, што імёны некаторых маладых аўтараў зборніка ўжо вядомыя беларускаму чытачу, многія з іх маюць свае кнігі, актыўна публікуюцца ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы, з'яўляюцца на радыё і тэлебачанні. Так, празаікі Алена Мальчэўская, Ксенія Шталенкова, Алёна Беланожка і Сяргей Календа ўжо маюць уласныя кнігі, паэты Алесь Емельянаў, Яна Явіч, Кацярына Массэ, Людміла Клачко выдалі зборнікі вершаў, паэт Міхал Бараноўскі вядомы публіцы і як музыкант, аўтар песень і лідар гурта «Нельга забыць», паэтка Ганна Чумакова таксама з'яўляецца на сцэне і выконвае песні на ўласныя вершы. Асобы некаторых аўтараў з гэтай кнігі адкрываюцца зусім па-новаму. Так, даследчыцы літаратуры Вераніка Мандзік і Ірына Чарняўская, журналістка Ірына Карэліна паўстаюць перад чытачом як паэткі, а журналістка Ганна Шыбут — як празаік. Імёны ж многіх аўтараў з кнігі — пакуль чысты аркуш для чытача, і ўражанні ад гэтага выдання стануць сапраўды першым спатканнем з творчай індывідуальнасцю маладых творцаў. Магчыма, першая публікацыя ў грунтоўным выданні стане для іх своеасаблівым штуршком у далейшай творчасці, натхніць на напісанне новых твораў і выданне ўласных кніг.




Поспехаў маладым!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Старажытны горад. Новае аблічча

Гродзенская вобласць старанна рыхтуецца да сустрэчы гасцей, якія прыедуць на Дзень беларускага пісьменства ў Шчучын. Чаго чакаць 5 і 6 верасня, распавёў чытачам «ЛіМа» начальнік Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама Павел Канстанцінавіч СКРАБКО.

**— Дзень беларускага пісьменства праводзіцца ў гістарычных і культурных цэнтрах, якія адыгрывалі важную ролю ў развіцці асветы, літаратуры, з якімі звязана жыццё знакамітых дзеячаў краіны. На Гродзеншчыне сталіцаю літаратурнага свята ўжо былі Навагрудак, Мір, Смаргонь. Зараз Шчучын…**

— Гэты горад адыгрываў і адыгрывае значную ролю ў духоўным і культурным жыцці беларускага народа. На працягу некалькіх стагоддзяў тут існавалі разнастайныя рэлігійныя і свецкія навучальныя ўстановы. У пачатку XVIII стагоддзя ў Шчучыне была створана школа каталіцкага манаскага ордэна піяраў, якая з'явілася адным з цэнтраў адукацыі ў Прынёманскім краі. У мястэчку былі аптэка, вялікі батанічны сад, багатая бібліятэка.

Са Шчучынам і Шчучынскім раёнам звязаны біяграфіі знакамітых навукоўцаў, асветнікаў, творцаў і палітыкаў. Сярод якіх такія вядомыя постаці, як гродзенскі староста Антоній Тызенгаўз, пачынальнік айчыннай арніталогіі Канстанцін Тызенгаўз, гродзенскі губернатар Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі, генерал Парыжскай камуны Валерый Антоній Урублеўскі, мастакі Казімір Альхімовіч, Вікенцій Дмахоўскі, Міхал Эльвіра Андрыёлі і Пінхус Крэмень, пісьменніца Эліза Ажэшка, кіраўнік атрада паўстанцаў 1863 года Людвік Нарбут, археолаг Вандалін Шукевіч.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя Шчучыншчына стала сапраўднай калыскай беларускага адраджэння. Тут нарадзіліся і жылі такія выбітныя дзеячы нацыянальнай асветы, як паэтка і патрыётка Беларусі, аўтар першых кніжак для дзяцей на роднай мове «Беларускі лемантар, або першая навука чытання» і «Першае чытанне для дзетак беларусаў», выдавец часопіса «Лучынка» для беларускай моладзі Алаіза Пашкевіч (Цётка); выдавец і выкладчык, дырэктар Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, старшыня Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, рэдактар штомесячнікаў «Летапіс Таварыства беларускай школы» і «Беларускі летапіс», аўтар «Эсперанта-беларускага слоўніка» Фелікс Стацкевіч.

У XX стагоддзі на Шчучынскай зямлі нарадзіліся пісьменнікі Валянцін Болтач (Блакіт), Іван Пяшко, Славамір Антановіч, Алена Руцкая, Вольга Русілка, актрыса і тэатральны педагог Вольга Александроўская (Галіна), рок-спявак і музыкант Чэслаў Выджыцкі (Немэн), скульптар Ян Кузьміцкі, журналіст Аляксандр Жалкоўскі, даследчык гісторыі старажытнай беларускай літаратуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Віктар Дарашкевіч, доктар філалагічных навук, аўтар даследавання «Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага» Мікалай Нікалаеў. Праз Шчучын прайшлі жыццёвыя шляхі Лідзіі Арабей, Івана Лепешава, Марыі Шаўчонак, Рычарда Бялячыца і многіх іншых дзеячаў беларускай культуры. Іх імёны будуць гучаць на свяце. Як бачыце, выбар літаратурнай сталіцы Дня пісьменства гэтага года не выпадковы.

**— Чаго чакаць з традыцыйнага і адметнага на свяце?**

— У Дня пісьменства ёсць свае традыцыі, і мы будзем іх трымацца. У Шчучын прыбудзе 22-я навукова-асветніцкая экспедыцыя з жыватворным агнём ад Гроба Гасподняга.

Адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя, літаратурная вечарына з удзелам беларускіх пісьменнікаў, міжнародны круглы стол і прэзентацыя новых кніг. На паштовым падворку плануецца правесці спецыяльнае памятнае гашэнне канверта з арыгінальнай маркай «Дзень беларускага пісьменства». Падчас свята атрымаюць прызы пераможцы конкурсу за лепшую самаробную кнігу, а Саюз пісьменнікаў Беларусі падрыхтаваў прыз для юных футбалістаў, якія прымуць удзел у дзіцячым футбольным турніры.

Бягучы год абвешчаны Годам моладзі. Гэта знайшло адлюстраванне і ў святочнай праграме. У горадзе будзе працаваць спецыялізаваная пляцоўка, на якой сваю творчасць прадставяць хлопцы і дзяўчаты з Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, студэнты Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, навучэнцы Гродзенскага гуманітарнага каледжа ды іншых арганізацый. Адбудзецца тэатральны фэст.

70-годдзе Вялікай Перамогі таксама з'яўляецца адным з вядучых лейтматываў Дня пісьменства. На мой погляд, гасцей Шчучына зацікавяць выстаўчны праект «Клічу вас я на Перамогу», прысвечаны творчасці Янкі Купалы ў ваенныя гады, і кніжная выстаўка «Памяць аб вайне нам кніга пакідае».

**— Ці плануецца адмысловая праграма для замежных турыстаў?**

— Усе мерапрыемствы Дня беларускага пісьменства пройдуць, як цяпер кажуць, у адкрытым фармаце. Наведаць іх можа кожны. Таму ствараць спецыяльную праграму для замежных турыстаў неабходнасці няма. Калі хтосьці захоча бліжэй пазнаёміцца з выдатнымі мясцінамі Шчучыншчыны, то можа наведаць вёску Старыя Васілішкі, упрыгожаннем якой з'яўляецца цудоўны гатычны касцёл. Нядаўна ў гэтай вёсцы быў адкрыты дом-музей вядомага рок-музыканта Чэслава Немэна. Можна наведаць гарадскі пасёлак Жалудок, дзе пахаваны Антоній Тызенгаўз, пазнаёміцца з архітэктурай царквы абароннага тыпу ў вёсцы Вялікае Мажэйкава. Нямала выстаў разгорнута і ў самім Шчучыне, у тым ліку ў палацы Друцкіх-Любецкіх, таму гасцям літаратурнай сталіцы сумаваць не давядзецца.

**— Звычайна да Дня пісьменства рыхтуюцца выданні пра гісторыю горада, які прымае літаратурную эстафету.**

— Шчучын не выключэнне. У Выдавецкім доме «Звязда" падрыхтавана і выйдзе ў свет цікавая не толькі мясцовым краязнаўцам кніга «Шчучыншчына: карані і крона». Падрыхтавана да друку кніга мясцовага пісьменніка Уладзіміра Фядотава «Мёртвыя застаюцца жывымі».

На Гродзеншчыне штогод праходзіць літаратурны конкурс, які носіць імя славутай дачкі шчучынскай зямлі — Цёткі. Да свята мы паспелі выдаць кнігі пісьменнікаў, якія сталі яго лаўрэатамі па выніках 2014 года. Творы, якія не занялі першыя месцы ў намінацыях, але вартыя прачытання, выдадзены асобнай кнігай «У прыгаршчах Айчыны».

**— Ці можна сцвярджаць, што пасля 6 верасня свята для Шчучына прадоўжыцца?**

— Не сумняваюся, працяг будзе. Дзень беларускага пісьменства ажывіць цікавасць моладзі да беларускай літаратуры, як класічнай, так і сучаснай. Магчыма для каго-небудзь сустрэчы і размовы з творцамі стануць своеасаблівым матывам паспрабаваць сваё пяро ў літаратуры і журналістыцы. Прынёманскі край вельмі багаты на таленты.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Невядомы пераклад апавядання Васіля Быкава

Такім загалоўкам, відаць, можна было б аб'яднаць цэлы шэраг артыкулаў. Выпадак, калі ў гісторыі творчасці вялікага пісьменніка ўлічаны не ўсе бібліяграфічныя спасылкі, засведчаны не ўсе яго публікацыі, пэўна, не адзінкавы. Магчыма, пройдзе час — і новыя ўдакладненні дазволяць узнавіць пераклады прозы Васіля Быкава ў поўнай ступені. А зараз наша размова — зусім пра канкрэтны выпадак. Пра выяўлены факт публікацыі апавядання народнага пісьменніка Беларусі «На возеры» на калмыцкай мове. Сам твор быў надрукаваны ўпершыню ў газеце «Гродзенская праўда» — 18 жніўня 1957 года. Наступная публікацыя апавядання — у лютаўскім нумары часопіса «Маладосць» за 1958 год.

На рускую мову апавяданне было перакладзена М. Гарбачовым. І надрукавана ў красавіцкім, чацвёртым, нумары часопіса «Дружба народов». А таксама — у газеце «Советская Литва» 14 жніўня 1960 года. Гэтыя публікацыі, у адрозненне ад калмыцкага перакладу, пазначаны ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (Мінск, 1992 год — том 1, старонка 435).

Канец 1950-х — пачатак 1960-х гадоў — час уваходжання Васіля Быкава ў сапраўдную літаратуру. І, несумненна, кожная з публікацый (няхай сабе і перакладная) была для яго важнай, сведчыла пра прызнанне. Як жа з'явіўся ў друку пераклад на калмыцкую мову?

29 верасня 1961 года старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі (тады, зразумела, — БССР) Пятрусь Броўка напісаў ліст старшыні Саюза пісьменнікаў Калмыцкай АССР М. Б. Нармаеву. Цытуем: *«Паважаны Мархаджы Бамбаевіч!*

*Не так даўно ў Беларусі гасцяваў пісьменнік вашай арганізацыі Міхаіл Ванькаевіч Хонінаў. З ім, у мінулым партызанам на нашай зямлі, зараз адным з дзеячаў калмыцкай культуры, нам было вельмі цікава пазнаёміцца і пагутарыць. Тав. Хонінаў у дні свайго прыезду да нас пабываў у шэрагу раёнаў нашай рэспублікі, выступіў на старонках друку, шмат чаго цікавага расказаў нам пра калмыцкую літаратуру, культуру, пра сённяшняе жыццё вашага народа. Падборка вершаў Міхаіла Хонінава была перакладзена на беларускую мову ў нашай літаратурнай газеце.*

*У час гутарак з тав. Хонінавым ішла размова, што добра было б, калі б мы маглі шырэй пазнаёміць беларускага чытача з сучаснай калмыцкай літаратурай. На першым часе, магчыма, добра было б падабраць матэрыялы (вершы, апавяданне, невялікі артыкул, пару фотаздымкаў) на старонку для нашай літаратурнай газеты. Было б таксама добра, калі б вы парэкамендавалі нам для перакладу які-небудзь цікавы твор калмыцкай прозы, у прыватнасці для нашых юных чытачоў».*

І далей: *«Што датычыцца перакладу беларускіх твораў на калмыцкую мову, дык нам хацелася б, каб Ваша арганізацыя звярнула ўвагу ў першую чаргу на творчую спадчыну класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. У будучым, 1962, годзе ўся краіна будзе адзначаць 80-годдзе з дня нараджэння гэтых карыфеяў літаратуры. У сувязі з гэтым Вашы пераклады і выданні твораў гэтых пісьменнікаў былі б вельмі патрэбнымі. Акрамя гэтага, мы можам прапанаваць для Вашага перыядычнага друку сваю літаратурную старонку, а для Вашага выдавецтва, калі яно выкажа жаданне, — адну з нашых сучасных кніг.*

*Просім абмеркаваць нашы прапановы і паведаміць нам сваё рашэнне…»*

Відавочна, ліст гэты Міхаіл Ванькаевіч Хонінаў сам непасрэдна і перадаў старшыні калмыцкай пісьменніцкай арганізацыі.

У 1962 годзе на калмыцкай мове і выходзіць невялікая кніга вершаў Янкі Купалы. Перакладчык, зразумела, — Міхаіл Хонінаў.

А ў 1963 годзе «Калмыцкая праўда» («Хальмг унн») 11 жніўня змяшчае разварот, прысвечаны беларускай літаратуры. Публікацыі тэкстаў беларускіх пісьменнікаў (ёсць сярод іх і рускі паэт Ігар Шкляраўскі, які, пэўна, быў знаёмы М. Хонінаву па паездках на Магілёўшчыну) папярэднічае ўрэзка. У ёй пазначана, што над перакладамі твораў Васіля Быкава (заўважна, што пераклад зроблены з рускай мовы) і іншых аўтараў працавалі Санджы Каляеў, Ліджы Інджыеў, Бося Саганджыева і Міхаіл Хонінаў. А непасрэдна пад тэкстамі імёны перакладчыкаў не пазначаны.

У «Калмыцкай праўдзе» тады, акрамя апавядання Васіля Быкава «На возеры» (па-калмыцку — «Нуурт»), былі надрукаваны вершы Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Віктара Ракава, Яўгена Крупенькі, Марыі Шаўчонак, Васіля Карпечанкі, Эдзі Агняцвет, Ігара Шкляраўскага, Сямёна Пацёмкіна, Кацярыны Васільковай, Мікалая Касцяна. Два апошнія прозвішчы па сённяшнім часе ўвогуле нічога не гавораць. Магчыма, гэтыя аўтары (як і Ігар Шкляраўскі) былі знаёмы М. Хонінаву па паездках на Магілёўшчыну? Можа быць, нешта ў гэтым накірунку падкажуць магілёўскія літаратурныя краязнаўцы?

Хто ж перакладаў апавяданне Васіля Быкава? Ясна, што не Міхаіл Ванькаевіч. Вось што напісала мне яго дачка — кандыдат філалагічных навук Рыма Хонінава: «…Калі бацькоўскія пераклады болей-меней можна дыферэнцыраваць, паколькі яго пераклады былі паўтораны ў часопісе «Теегін герл» («Зорка ў стэпе»), то наконт астатніх трэба разбірацца… Таму, хто ўсё ж такі пераклаў апавяданне таго ж Быкава, незразумела пакуль. Любы з іх, акрамя бацькі».

Значыць, перакладчыкамі апавядання «На возеры» мог быць кожны з іх — і Каляеў, і Саганджыева, і Ліджы Інджыеў? Кожны з гэтых пісьменнікаў працаваў і ў прозе, і ў паэзіі. А Каляеў і Саганджыева — яшчэ і ў драматургіі.

Санджы Каляеў (1905 — 1985) — народны паэт Калмыкіі. Пісьменнік, фалькларыст, перакладчык, літаратуразнаўца, драматург. У 1963 — 1966 гадах працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Теегін герл». Надрукаваў пераклады Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ліджы Інджыеў (1913 — 1995) — таксама народны паэт Калмыкіі. Пісьменнік, паэт, перакладчык, франтавік з 1942 года. Аўтар рамана «Дачка Вольгі» і аповесці «Запіскі пра вайну». Пераклаў на калмыцкую мову творы М. Горкага, А. Пушкіна. С. Ясеніна, Т. Шаўчэнкі, Ю. Марцінкявічуса ды інш. Актыўна працавала ў літаратуры, у галіне мастацкага перакладу і Бося Саганджыева.

Але хутчэй за ўсё пераклад ажыццявіў Ліджы Інджыеў. Ён быў бліжэй за іншых да прозы, магчыма, яму імпанавала праца над пераўвасабленнем на родную мову твора паплечніка-франтавіка. Але, канешне ж, гэта яшчэ не адказ на пытанне. Галоўнае, пра што можна гаварыць дакладна: існуе яшчэ адзін пераклад твора Васіля Быкава. Хутчэй за ўсё — адзіны пераклад яго прозы на калмыцкую мову.

Калі на мовы літаратур былых саюзных рэспублік творы Васіля Быкава перакладаліся дастаткова актыўна (як прыклад — па 4 — 6 кніг народнага пісьменніка Беларусі выдадзена на ўзбекскай, кіргізскай, украінскай мовах), то ў перакладах на мовы народаў Расіі проза класіка беларускай літаратуры прадстаўлена не вельмі важка. Праўда, ёсць кнігі на татарскай, тувінскай, якуцкай, чувашскай мовах. Вядомы пераклад, які надрукаваны ў перыёдыцы, — на макшанскую. Няўжо гэта ўсё? Можа быць, хутчэй тут на магчымыя высновы ўплывае недагляд бібліёграфаў? Выпадак з выяўленнем калмыцкай публікацыі 1963 года паказвае: для поўнай карціны прысутнасці Васіля Быкава і ўвогуле беларускай літаратуры ў свеце пошук трэба настойліва працягваць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Час Агінскага: больш, чым музыка

Што мы ведаем пра Міхала Клеафаса Агінскага? У памяці ўзнікае пяшчотная, лірычная мелодыя паланэза «Развітанне з Радзімай», напісанага для клавіра, але вельмі запатрабаванага ў сучасных піяністаў. Аднак Агінскі быў вядомы не толькі сваімі музычнымі талентамі. Упершыню мемуары славутага кампазітара, палітыка і дыпламата пабачаць свет на рускай мове. Атрымаюць новае жыццё і кнігі яго нашчадкаў — Іва і Анджэя Залускіх. Кіраўнік выдавецкага праекта і яго рэдактар Ліліяна Анцух распавяла пра падрыхтоўку і выпуск твораў, прысвечаных вядомаму дзяржаўнаму і культурнаму дзеячу.

## АДБІТАК ЭПОХІ

У верасні спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння Агінскага. Выдавецтва «Чатыры чвэрці» сутыкнулася з яго творчасцю амаль чвэрць стагоддзя таму. Пачаліся даследаванні, былі наладжаны сувязі з сучаснымі прадстаўнікамі знакамітага роду. У Беларусі кампазітар пражыў 20, здаецца, лепшых гадоў свайго жыцця!

«Якасць перакладу мемуараў — на самым высокім узроўні. Карпатлівая праца ішла два гады, а зыходнікам паслужыў рарытэт — адзінае прыжыццёвае выданне мемуараў дыпламата і кампазітара, выпушчанае ў канцы 1820-х гадоў на французскай мове. Чатыры тамы арыгінала ў нас выйшлі ў двух, але гэта не значыць, што матэрыял скарочаны — ён поўны. Калектыў з трох таленавітых перакладчыкаў — Уладзіміра Базарава, Леаніда Казыры і Алены Чыжэўскай — амаль тры гады працаваў з намі. Пасля выхаду кніг у рускім варыянце плануецца іх з'яўленне на беларускай мове», — адзначыла Ліліяна Анцух.




Пра што чытач зможа даведацца з мемуараў? Апісаны ў іх перыяд ахопліва 1788 — 1815 гады, месца напісання — ад беларускага Залесся да Фларэнцыі. Перад вачыма, у першую чаргу, узнікаюць яркія, насычаныя вобразы палітычных перыпетый таго часу. Кніга ў большай ступені гістарычная, чым філасофская, своеасаблівы накід эпохі рукой удумлівага, назіральнага творцы. У мемуарах Агінскі прызнаецца: «...Сярод самых разнастайных зменлівасцей лёсу сапраўднае суцяшэнне нам дае толькі ўпэўненасць у тым, што мы заўсёды выконвалі свой абавязак». Міхал Клеафас бачыцца нам чалавекам слова і гонару, але галоўнае — заўзятым патрыётам краіны, дзе ён нарадзіўся…

У мемуарах шмат апісанняў кульмінацыйных для сусветнай гісторыі падзей, сведкам якіх стаў Агінскі. Гаворыцца пра акалічнасці прыняцця канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 года, ваенныя аперацыі польскіх войскаў пад камандаваннем Касцюшкі падчас паўстання 1794 года, у якіх кампазітар і дыпламат таксама браў удзел. Разважанні тычацца і часу праўлення Напалеона, з якім, дарэчы, Міхал Клеафас быў асабіста знаёмы, вёў дыскусіі. Дарэчы, пра Напалеона з мемуараў Агінскага можна даведацца шмат новага! Ва ўспамінах згадваецца таксама расійскі імператар Аляксандр I — як выдатны военачальнік, абаронца айчыны і наогул чалавек надзвычай велікадушны. Менавіта да яго звяртаўся Агінскі з планам аднаўлення ў складзе Расійскай імперыі Вялікага Княства Літоўскага, які, праўда, так і не быў рэалізаваны.

Стыль выкладання аўтара — праўдзівы, стрыманы, лаканічны. Чытач тым не менш адчуе Агінскага як асобу: яго манеру думаць і дзейнічаць.

## УСПАМІНЫ: ДРУГОЕ ДЫХАННЕ

Кнігі нашчадкаў Агінскага, якія перавыдадуцца гэтай восенню ў выдавецтве «Чатыры чвэрці», набылі сучасны воблік, дапоўненыя ўнікальнымі фактамі, дакументамі, фатаграфіямі, невядомымі раней. Гэта — «Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага» (1999) Анджэя Залускага і «Ген Агінскага» (2007) Іва Залускага. «Браты Залускія, праправраўнукі Агінскага, передалі выдавецтву мноства матэрыялаў, у тым ліку пра грандыёзнае генеалагічнае дрэва Агінскіх, якое сёння дапоўнілася новымі імёнамі. Адметна, што пачаў справу вяртання звестак пра Агінскага на яго гістарычную радзіму яшчэ ў 1991 годзе беларускі дыпламат, цяпер старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, пазнаёміўшыся з Залускімі ў Вялікабрытаніі падчас адной з дыпламатычных сустрэч», — патлумачыла Ліліяна Анцух.

Калі коратка казаць пра кнігі, не раскрываючы асноўнай інтрыгі, то «Час і музыка...» — гэта своеасаблівы нарыс пра творчыя пошукі, знаходкі, адкрыцці, імкненні майстра, а «Ген Агінскага» — перапляценне лёсаў прадстаўнікоў знакамітага ў Еўропе роду.

## ЮБІЛЕЙНАЯ ВОСЕНЬ

Дзе можна будзе ўбачыць усе тры выданні? Спачатку — на Дні беларускага пісьменства ў Шчучыне. 6 верасня на галоўнай сцэне адбудзецца папярэдняя прэзентацыя кніг. Падчас імпрэзы гледачы змогуць акунуцца ў атмасферу эпохі кампазітара, пачуць яго творы. Затым кнігі выйдуць у тыраж, а значыць, з'явяцца ў крамах, бібліятэках, музеях.

Акрамя таго, выданні «патрапяць» на міжнародную канферэнцыю, прысвечаную 250-годдзю з дня нараджэння кампазітара, якая пройдзе 23 — 24 верасня ў радавой сядзібе Агінскага — у Залессі Смаргонскага раёна. На форуме збяруцца знаўцы мастацтва і музыкі, філолагі, дыпламаты і навукоўцы з розных краін. Магчыма, да гэтай даты з Лондана прыедзе сам Іва Залускі. Таксама 25 верасня на тым жа самым месцы адбудзецца свята «Вяртанне паўночных Афін». На тэрыторыі сядзібы будуць працаваць творчыя пляцоўкі, прагучаць творы ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Міхаіла Фінберга і ансамбля класічнай музыкі «Класік авангард».

«У агульнай гісторыі айчыннай культуры, гэтак жа як і ў гісторыі іншых краін, Міхал Клеафас Агінскі, пакінуўшы значную творчую спадчыну, назаўжды заняў асаблівае, годнае месца. Яго творчасць вытрымала выпрабаванне часам», — напісала ў прадмове да адной з гэтых кніг Ліліяна Анцух.

**Марыя ВОЙЦІК**



# «Мост Дружбы» ў вялікую літаратуру

Плённае супрацоўніцтва расійскіх і беларускіх літаратараў складваецца цягам многіх гадоў. Сённяшні інтэрнэт-фармат сцірае не толькі абмежаванні ў творчасці, але і дзяржаўныя межы. Конкурс маладых літаратараў «Мост Дружбы» арыентаваны на пошук і падтрымку маладых таленавітых аўтараў, прыцягненне ўвагі да гісторыі, культуры і літаратурных традыцый Беларусі і Расіі, будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Журы складалася з прафесійных літаратуразнаўцаў. На іх думку, узровень дасланых апавяданняў — высокі, аўтары маюць творчы патэнцыял, які дазваляе спадзявацца, што ў іх ёсць шанс знайсці сваё месца ў літаратуры. Творы пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу «Мост Дружбы» сабраны ў «Літаратурны альманах».

Аўтарамі выдання сталі сем расійскіх і сем беларускіх маладых пісьменнікаў, кожны з якіх прадставіў па адным празаічным творы (да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца работы малой літаратурнай формы — апавяданні, навелы, нарысы, эсэ). Прызёрамі ад Расіі ў гэтым годзе сталі Яўген Капусцін («Успаміны аб вайне і не толькі»), Ілья Луданаў («Звярыную сцежкай»), Георгій Фамін («Ілюзія карыснасці»), Ірына Іваннікава («Васільковыя душы»), Марыя Пярвушына («Цішыня і я»), Лізавета Ражкова («Ты называешся богам»), Юлія Багданава («Учора я бачыў»). У лік беларускіх пераможцаў увайшлі: Кацярына Фядотава («Мар'іна восень»), Вікторыя Сінюк («У пошуках філосафа»), Алена Папко («Ваўчыца»), Андрэй Дзічэнка («Еўропа»), Аляксей Старухін («Пульс на мяжы захаплення»), Таццяна Захаранка («Кара нябесная»), Вячаслаў Котаў («Аўтаадказнік»). Творы розныя паводле тэматыкі і стылістычна, але агульныя па вастрыні, шчырасці, пранікнёнасці, дынамізме і дэманізме — вядома, так і трэба пісаць маладому пакаленню. Так, напрыклад, у творы Ільі Луданава два варыянты фіналу. Вельмі трапны і сімвалічны прыём для тэксту з назвай «Звярынаю сцежкай», бо які шлях ты абярэш, такім будзе і фінал.

Амаль усе з прадстаўленых твораў — сур'ёзная літаратура. Чытаючы іх, зусім не адчуваеш, што аўтар малады. Калі чалавек выяўляе свет, далёкі ад свайго ўзросту і характару, гэта лічыцца паказчыкам таленту. Большасць з канкурсантаў пішуць пра падзеі, якія яны не маглі перажыць і прачуць. Напрыклад, твор Яўгена Капусціна пра вайну, з аднаго боку, даволі незвычайны нават па форме — нешта сярэдняе паміж інтэрв'ю і п'есай, з іншага боку, вельмі глыбокі і філасофскі па змесце. Але напісана таленавіта і пераканаўча, так што верыш кожнаму слову. Значыць, першы крок у вялікую літаратуру зроблены — першы смелы і ўпэўнены крок у будучыню, якая, вядома ж, за маладымі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Дзеці чытаюць? Класіку!

**Чацвёрты год у межах Дня беларускага пісьменства праводзіцца конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка». Як адбываўся сёлета адбор канкурсантаў і якія творы выбірае сёння моладзь, чытачам «ЛіМа» расказала галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава, адна з куратараў конкурсу.**

— Конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка» праводзіцца пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкага дома «Звязда» і выканаўчага камітэта той вобласці, дзе праходзіць Свята беларускага пісьменства. Асноўныя мэты конкурсу — прыцягненне ўвагі школьнікаў да роднага слова, выхаванне павагі да класічнай беларускай літаратуры і прапаганда нацыянальнай культуры. Правіламі дапускаецца чытанне як «спрадвечных» класікаў — паэтаў і празаікаў, так і пісьменнікаў-сучаснікаў. Назва «Жывая класіка» адлюстроўвае адмысловасць дзеі: дзеці выходзяць на сцэну ў адпаведных вобразах і ажыўляюць час, герояў і акалічнасці, пры якіх творы былі напісаны.

Сёлета для святочных чытанняў былі адабраны дваццаць тры прадстаўнікі Гродзенскай вобласці ва ўзросце ад шасці да шаснаццаці гадоў. Чацвёра з іх выбралі творы Уладзіміра Караткевіча, пяцёра ўзялі на сябе адказнасць чытаць тэксты, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне, ажно васьмёра спынілі ўвагу на байках і вершаваных гумарэсках. Канцэрт пераможцаў раздзелены на тэматычныя блокі, якія літаральна «напрошваліся» ў год юбілеяў, — прынамсі, Вялікай Перамогі і Уладзіміра Караткевіча.

Асабліва хочацца падкрэсліць, што сёлета, як і летась, конкурс «Жывая класіка» не называе трох першых імён пераможцаў. Дваццаць тры школьнікі, якія ўвайшлі ў фінал пасля папярэдніх этапаў праслухоўвання, з'яўляюцца пераможцамі — усе як адзін. І тое, што будзе адбывацца на сцэне Шчучынскага дома культуры, — гэта не завяршальны этап конкурсу, а гала-канцэрт лепшых з лепшых. Кожны ўдзельнік літаратурнага свята атрымае дыпломы і падарункі, у тым ліку і ад часопісаў «Маладосць» і «Бярозка», пад патранатам якіх і ладзіцца сёлетняя «Жывая класіка». Акрамя таго, гледачоў перад канцэртам чакае цікавая выстаўка, прысвечаная «Бярозцы» — заўжды сучаснай.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Змятаючы з сонца пыл

**Валерый Казакоў — паэт і Валерый Казакоў — празаік настолькі адрозныя, што прачытаўшы пару яго апавяданняў і вершаў пачынаеш сумнявацца, ці не цёзкі гэтыя два творцы. Між тым не.**

Менавіта як паэт ён і пачынаў. Маладога афіцэра, яго прыняў на свой семінар у літінстытуце паэт Яўген Вінакураў. А паэтэса і перакладчыца Юна Морыц, пазнаёміўшыся з творчасцю пачаткоўца, сказала, што яго «рыфмы і гукі можна смела параўнаць з загадкавай паэзіяй ранняга Забалоцкага». Пэўна, такое параўнанне мусіла хутчэй натхніць маладога аўтара, чым усур'ёз вызначыць яго творчую манеру і здольнасці. І ўсё ж, паэзія Валерыя Казакова сапраўды можа зачароўваць.

Доўгі час — ці не ўсё творчае жыццё — пісьменнік працаваў з прозай, і толькі пасля 60-ці выдаў зборнік «Пыльнае сонца». Сімвалічная назва, калі лічыць сонцам паэтычны дар. Яшчэ адзін паэтычны зборнік — «Філасофія гукаў» — прысвечаны жонцы аўтара. З інтымнай лірыкі зборнік і пачынаецца, прычым менавіта гэты раздзел уяўляецца найбольш удалым у кнізе.




Апісваючы каханне — яго нараджэнне, яго першыя крокі, сталенне і смерць, — ён захоўвае настальгічны настрой, так што чытач успрымае гэтыя пачуцці як нешта даўно мінулае, як прыемныя і крышачку сумныя ўспаміны, нават калі падзеі ў вершы разгортваюцца ў цяперашнім часе.

Пры гэтым нязменна адчуваецца рэха Срэбнага веку — як у стылі паэта, так і ў вобразах, да якіх той звяртаецца. Між тым не заўжды ўдаецца яму вытрымаць гэты далікатны настрой. Часам тэкст выглядае арганічна, часам занадта падкрэслівае пераемнасць старых традыцый рускай літаратуры, праз што твор падаецца ўжо не самастойным, перайманнем. Але толькі часам. Збольшага Валерый Казакоў выступае як паэт з уласным голасам.

*...вьюга мылится*
*за окном кутерьму*
*развести,*
*и луна, как обмылок*
*из мыльницы,*
*между туч заскользил*
*по пути...*

(«Горожанка»)

Зварот да прыроды — таксама неад'емная рыса паэзіі В. Казакова. За ўлюбёнцамі назіраюць то месяц, то сонца, іх хаваюць ад цікаўных вачэй лясныя вершаліны, іх вянчае сад. Ідылічныя карцінкі падаюцца без залішняй саладжавасці, і відавочна, што каханне для паэта — пачуццё чыстае і светлае, як сама прырода.

Вяртаючыся да слоў Юны Морыц пра чарадзейства гуку і рыфмы ў вершах В. Казакова, нельга не працытаваць верш, які, пэўна, найбольш поўна раскрывае гэты яго талент. А яшчэ — вострае адчуванне свету ва ўсіх яго драбніцах:

*Я маг.*
*Руки моей мгновенный взмах*
*И миг*
*Растет, разбрызгав свет травы.*
*Смотри!*
*Течет вода в лучах пылинок.*
*Смотри!*
*Завязло солнце в нитях паутинок,*
*Роса*
*Вбирает мир прозрачной каплей,*
*Леса*
*Качают гнезда птиц, а цапли*
*Стоят,*
*В луга укутав стебли ног,*
*И аист, в белом, словно Бог.*

Цікава, што гэтая здольнасць адчуваць свет і іншага чалавека дазволіла паэту пераўвасобіцца ў салдата часоў Вялікай Айчыннай і напісаць верш, сугучны Твардоўскаму «*но всё же, всё же, всё же...*»:

*Красный крест*
*и белый бинт.*
*Белая палата.*
*Я пока что не убит,*
*тем и виноватый...*

Што да прозы Валерыя Казакова, тут ён ператвараецца ў чалавека іранічнага і часам нават грубаватага, што відавочна ўказвае на скіраванасць такой літаратуры на мужчынскую чытацкую аўдыторыю. У беларускіх кнігарнях вы маглі бачыць зборнік апавяданняў «Горад, які заўжды са мной...» (Выдавецкі дом «Звязда», 2014). Кніга, прысвечаная Магілёву, раскрывае беларускае паходжанне аўтара (ён нарадзіўся ў 1952 годзе на станцыі Рэста (в. Гарбовічы) Магілёўскай вобласці). Пісьменнік згадвае вясковае дзяцінства, разважае на рэлігійныя тэмы, часта выкрывае карыслівасць і хлусլівасць чалавека і, зноў жа, усхваляе каханне.

І ўсё ж, проза гэтая блізкая да публіцыстыкі, у той час як вершы — да мастацтва.

**Сяржук СТАХАНАЎ**

# Гэта — паэмувіз




Слабадан Вуканавіч — асоба, добра вядомая чытачам «ЛіМа». Пісьменнік і журналіст з Чарнагорыі час ад часу наведвае Беларусь, каб прыняць удзел у літаратурных мерапрыемствах. З творчасцю С. Вуканавіч можна пазнаёміцца дзякуючы кнізе выбранага «Я ці не я», якая пабачыла свет у выдавецкай установе «Рэдакцыя газеты "Звязда"» ў 2012 годзе.

У невялікім зборніку змешчаная п'еса для дзяцей «Прынцэса, у цябе з электронікай парадак?», а таксама вершы, асобныя з якіх адлюстроўваюць уражанні ад наведванняў Беларусі. Прадстаўленыя тут і тэксты паэмувізаў, задуманых як «неаддзельнае спалучэнне паэзіі, музыкі і візуальнасці». Паэмувізы — лаканічныя творы з авангардысцкай скіраванасцю, нешта сярэдняе між кліпам і літаратурна-музычнай кампазіцыяй. «Калі мне баліць / Я – Лес / Каб заблытаць След / Каб схаваць Інстынкт / Тут кожны хаваецца / Ў сваёй нары / У свaім гняздзе / А потым я раблюся / Вясной Летам Восенню Зімой (...)» Вось і палова паэмувіза «Скрыпач» — тэкст павінны гучаць пад вялікі канцэрт «Чатыры пары года» А. Вівальдзі, а прадугледжаны паэтам выявы — аліўкавы гай на пагорку, дзе хлопцы і дзяўчаты здымаюць плады, ды параход у адкрытым моры.

У вершах С. Вуканавіч вядзе размову пра сур'ёзнае і значнае: дабро і зло, смерць і жыццё, святло і змрок. Як у выпадку з вышэйзгаданым паэмувізам, часта сэнс вершу надае выключна яго назва, якая дазваляе ўсвядоміць супольнае значэнне падабраных аўтарам слоў.

П'еса «Прынцэса, у цябе з электронікай парадак?», магчыма, будзе карысная спецыялістам, якія рыхтуюць тэатральныя пастаноўкі для дзяцей. Іншапланетнікі ператвараюцца ў лялек і даследуюць зямное жыццё праз стасункі з дзецьмі, пра што паведамляе ў паліцыю дэтэктыў-аматар Нюшкала. Героі з феерычнай лёгкасцю ратуюцца ад небяспекі, таму ў творы шмат вясёлых спеваў і танцаў. Калі тае знаёмыя іншапланетнікі трапілі ў рызыкоўную сітуацыю, дастаткова проста патэлефанаваць на фабрыку лялек і замовіць дзве тысячы лялечных сусвітлянаў — а потым зладзіць вялікі фэст для дзяцей і іх цацак.

Калі меркаваць па кнізе, С. Вуканавіч — вельмі арыгінальны паэт і пазітыўны драматург, які стварае для маленькіх гледачоў нескладаныя добрыя спектаклі. Будзе выдатна, калі праз пэўны час у новае «выбранае» ўвойдуць і тэксты, адпаведныя больш традыцыйным густам беларусаў: рэалістычная проза, якая адлюстроўвае сучаснае жыццё Чарнагорыі, некалькі артыкулаў, прысвечаных сацыякультурнай сітуацыі ў гэтай прыгожай прыморскай краіне. Магчыма, перакладчыкі Іван і Аляксей Чарота ўжо працуюць над перастварэннем новых твораў чарнагорскага пісьменніка...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Дрэва над кішлаком

**Мора і горы, джыгіты і зурнач, гранатавыя дрэвы і арлы ў небе... Азербайджан — краіна адрозная ад Беларусі, але вершы Чынгіза Алі аглу, перакладзеныя беларускімі паэтамі, не ўражваюць празмернай экзатычнасцю.**

Пейзажная лірыка, вершы пра прыроду, дзе вельмі часта сустракаюцца адухоўленыя дрэвы, экалагічная і ваенная тэмы, роздумы пра жыццё, выказаныя ад першай асобы, — усё гэта нам блізкае і зразумелае. Нават згаданыя паэтам грамадскія праблемы падаюцца вельмі знаёмымі: дажывае свой век стары, які страціў на вайне пяцёх сыноў. З'ехала дачка і толькі ўлетку адведвае яго разам з унукамі. «Так ціха навакол, / Народ пакінуў горы, / Жыве ў нейкім іншым ён край»...

Перакладчыкамі Чынгіза Алі аглу сталі Навум Гальпяровіч, Мікола Мятліцкі, Віктар Гардзей, Алесь Емельянаў, Рагнед Малахоўскі, Аксана Ючкавіч, Таццяна Сівец. Адным з самых прыгожых перакладаў стаў верш «Снег ідзе», пераўзноўлены Рагнедам Малахоўскім:

*Снег ідзе. Ты скажы, што рабіць мне з такім снегападам?*
*Снег ідзе, быццам бурыцца ніц замяшанне нябёс,*
*І ляціць скрозь смугу неспакойным, нястрыманым роем,*
*І кладзецца пяшчотна і нібы прыносіць спакой. (...)*

Белы верш, напісаны анапестам, выдатна перадае імклівасць снегападу і ўзрушанасць лірычнага героя, які зазнаў доўгае расстанне з дарагім чалавекам.




Між твораў Чынгіза Алі аглу асабліва прывабнымі падаюцца вершы, прысвечаныя прыродзе. Горная рэчка, статак буйвалаў, вярблюды, дым над кішлаком, — вядома, такі краявід нязвыклы для беларускага вока. Але адзін з улюбёных вобразаў паэта — адухоўленае дрэва, якое то цешыцца ўзімку апошнім плодам, то прыпадабняецца да чалавечага цела. У вершы «Дрэвы... Крылы...» паэт абвяшчае дрэвы і іх лістоту крыламі планеты.

У зборніку акрамя вершаў змешчаныя тры паэмы: «У горадзе сноў», «Карычневая гумка» і «Чынара». Апошні твор, названы ў гонар гожага дрэва платана, не выпадкова завяршае кнігу. Чынара, якая «трымае каранямі абшар», згадвае гісторыю сваёй зямлі — ад барацьбы народа за самастойнасць і ўдзелу азербайджанцаў у Другой сусветнай вайне да шчаслівага адраджэння краіны.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Прыбалтыйскі брыз

Гістарычна так сталася, што ў Беларусі і Літвы шмат агульнага, таму не дзіва, што між нашымі краінамі добра наладжаны не толькі грамадска-палітычныя стасункі, але і літаратурныя. Творы беларускіх пісьменнікаў перакладаюцца на літоўскую мову, а літоўскіх — на беларускую. Выдатны прыклад апошняга — выпушчаныя ў Выдавецкім доме «Звязда» кнігі для дзяцей вядомага літоўскага пісьменніка Яронімаса Лаўцюса: на рускай мове «Как ветер зажигает огни» і «Азбука бяспекі» на беларускай у перакладзе Віктара Гардзея.




Кніга «Как ветер зажигает огни» распавядае пра дзівосныя прыгоды лясных звяроў. Са старонак яркага і маляўнічага выдання можна даведацца пра незвычайнае вынаходніцтва баброў, пра тое, як заяц дапамог чарапасе дабрацца да мора, выкарыстоўваючы сонечную энергію, і пра тое, як працалюбівыя мядзведзі вельмі дапамаглі леснікам. Захапляльныя гісторыі спадабаюцца не толькі дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Мяркую, нельга будзе адарваць і бацькоў і настаўнікаў ад кнігі літоўскага пісьменніка. Выданне ўнікальнае яшчэ і тым, што ілюстрацыі для яго намалявалі Уладзіслаў Яраслаўцаў, вучань гімназіі-каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка — прыгожыя каляровыя малюнкі цудоўна дапоўнілі яскрава напісаны тэкст.

Усе разам мы павінны клапаціцца пра бяспеку дзяцей, пра тое, каб яны ведалі, як трэба сябе паводзіць дома, на вуліцы, у дарозе, на прыродзе. Кніга «Азбука бяспекі» дапаможа маленькім чытачам лепш зразумець і засвоіць асноўныя прынцыпы бяспечных паводзінаў. Выданне ўмоўна можна падзяліць на дзве часткі: першая, «лірычная», складаецца з нізкі выхаваўчых і павучальных вершаў, дапоўненых арыгінальнымі і стыльнымі ілюстрацыямі літоўскай мастачкі Рымы Стасюнайтэ; другая, «практычная», частка змяшчае ў сабе спісы правілаў бяспекі і паводзінаў у надзвычайных сітуацыях. Кніга атрымалася не толькі прыгожай вонкава і цікавай па змесце, але яшчэ і вельмі карыснай, таму будзе выдатным дарадцам і памочнікам бацькам, настаўнікам і ўсім, хто клапоціцца аб здароўі і бяспецы дзяцей.

Будзем спадзявацца, што гэта далёка не апошнія выданні літоўскіх пісьменнікаў і хутка мы пабачым новыя кнігі не толькі для дзяцей, але і для дарослых.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Побач з Алаізай Пашкевіч

## Сёлета споўнілася 139 гадоў з дня нараджэння Цёткі

**Дзіўныя адчуванні агортваюць мяне пры сустрэчы з прадметамі стогадовай даўніны. Так было, калі хацелася дакрануцца да клавішаў клавесіна Багдановічаў у музеі вялікага Максіма ў Гродне, такое ж пачуццё надарылася, калі пісаў колькі слоў для музея Алаізы Пашкевіч у Астрыне.**

Многім знаёмыя дылогія пра паэтэсу Валянціны Коўтун «Крыж міласэрнасці», даследаванне Лідзіі Арабей «Цётка (Алаіза Пашкевіч)», яе ж дакументальныя аповесці пра літаратара-рэвалюцыянерку «На струнах буры» і «Стану песняй». Сустрэўся і верш ураджэнкі Шчучынскага раёна Алены Руцкай «Запавет Алаізы Пашкевіч»:

*«Як згіну — не шкадуйце…»*
*Самотны запавет.*
*Не маці — толькі Цётка.*
*Слабейшы болю след…*
*«Як згіну — не шкадуйце…»*
*Жаль сілы не скране.*
*Вы «кветкай перуновай»*
*Запомніце мяне.*

У свой час на Шчучыншчыне наспела неабходнасць, што вынікала з самога факта нараджэння тут паэтэсы, у стварэнні яе музея. І зноў спатрэбілася чулая, праніклівая жаночая душа, якая змагла б псіхалагічна тонка, інтэлектуальна і з любоўю ўзяцца за справу. І такі чалавек знайшоўся. Гэта настаўніца беларускай мовы і літаратуры Астрынскай сярэдняй школы Галіна Пугач.

— Адной падобная справа не па плячы, — прызнаецца Галіна Багумілаўна. — Аляксей Пяткевіч, прафесар тады Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы, натхніў і блаславіў мяне распачаць збор матэрыялаў. Многае я ведала з іншых крыніц пра Цётку, паехала ў адзін з тэхнікумаў Гродна, які таксама насіў імя паэткі, але там было пусцей, чым у нашай школе. Наважылася накіравацца па слядах самой гераіні, у Вільню. Завязалася перапіска з украінскімі навукоўцамі, з Мінскам. А былы дырэктар школы Алег Мікалаевіч Сідаровіч са сваімі работнікамі нават камоду Пашкевічаў са Старога Двара прывёз. Пачысцілі, пафарбавалі. І стаіць той рарытэт да гэтай пары на самым ганаровым месцы.



*Фрагмент экспазіцыі музея Цёткі з камодай Пашкевічаў са Старога Двара.*

Ішлі гады, музей пашыраўся пакоямі, набываў прафесійнае афармленне. Сюды пачалі прыязджаць наведвальнікі дзясяткамі. І хто? Генадзь Пашкоў, Генрых Далідовіч, Адам Мальдзіс, кіраўнікі розных дзяржаўных узроўняў, гаспадарак. Адсюль вёў свой захапляльны тэлерэпартаж падарожнік-дылетант Юрый Жыгамонт. А галоўнае, хто ні едзе — падарункі вязе. Такім чынам, напрыклад, не вельмі даўно з'явіўся партрэт Алаізы Пашкевіч прафесійнага выканаўцы з Мінска Абрама Заборава. І адзіны ў Беларусі музей вядомай паэткі стаў налічваць 465 экспанатаў, а гаспадары падумваюць пра заяўку на званне народнага.

— Я сама родам з мясцін Адама Міцкевіча, — прадаўжае Галіна Багумілаўна. — Напэўна, адсюль столькі энтузіязму і сіл. А па шчаслівай выпадковасці выдатна прадаўжае мілую справу мая сваячка, таксама настаўніца беларускай мовы і літаратуры, апантаная да ўсяго роднага Ала Балобан.

Толькі ў гэтым годзе музей у Астрыне наведалі 35 дэлегацый, палова з іх прыехала з-за межаў раёна. Але Сямёнаўне і экскурсаводам часта выпадае адказваць на дзясяткі разнастайных пытанняў пра мінулае і сучаснасць краю. Дапамагаюць зацікавіць наведвальнікаў фотаздымкі, запісы, кніжкі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, што размешчаны ў суседніх з Цётчыным пакоях. Цесную сувязь Ала Сямёнаўна трымае з выкладчыкамі-філолагамі Гродзенскага ўніверсітэта, з абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

— Адзначаем памятныя даты: юбілеі слынных асоб Радзімы, 70-годдзе Вялікай Перамогі, рыхтуемся да Дня беларускага пісьменства, — працягвае падарожжа па часе Ала Сямёнаўна. — Прыходжу ў музей, калі б ні з'явіліся з дарогі госці.

Цяпер, едучы на магілу Цёткі, кожны свядомы беларус абавязкова не праміне Астрыну, каб паслухаць юных Вікторыю Раманчык, Анастасію Былеўскую, Таццяну і Ірыну Байгот, Юлію Баграноўскую, Яўгенію Ляпеша — удзельнікаў і пераможцаў шматлікіх конкурсаў музейных экскурсаводаў.

Ці не ёсць якая заканамернасць і ў тым, што ў кнігу літаратурнай Шчучыншчыны, якая выйдзе да Дня беларускага пісьменства, маюцца ўключыць вершы адразу трох ураджэнак астрынскага краю — Ганны Каспер, Вікторыі Снацкай і зусім яшчэ юнай Веранікі Манкевіч. Значыць, лунае творчы дух у сценах установы, якая носіць імя Алаізы Пашкевіч, і ёсць на Шчучыншчыне слаўная мясціна, куды едуць і ідуць людзі пакланіцца, дакрануцца да свайго мінулага.

**Рычард БЯЛЯЧЫЦ, фота аўтара**

## У памяці шчучынцаў

Мая «сустрэча» з Алаізай Пашкевіч адбылася дзевяць гадоў таму, калі я, вучаніца сёмага класа шчучынскай гімназіі, пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Алены Пасюта, напісала навуковую работу на тэму: «Імя Цёткі ў памяці шчучынцаў». Гэта было маё першае ўсвядомленае знаёмства з Цёткай — з «вялікай беларускай будзіцелькай», з «абраніцай вечнасці», з «арыгінальнай арыгінальнасцю», з «першай скрыпкай у беларускай літаратуры». Так прыгожа-велічна названа яна сваімі паступнікамі. Вобраз гэтай сталай, дзёрзкай, самаахвярнай жанчыны не пакідае мяне і сёння.

Дапамаглі ўявіць вобраз Цёткі кнігі і навуковыя даследаванні Валянціны Коўтун і Лідзіі Арабей, якія ўсё жыццё прысвяцілі Алаізе. Азірнуўшыся, я цяпер разумею, як мне, 14-гадовай дзяўчынцы, пашанцавала сустрэцца з гэтымі выдатнымі жанчынамі. Адбылося гэта 2 ліпеня 2006 года падчас святкавання 130-годдзя з дня нараджэння вялікай беларускі. Сёння я трымаю ў руках кнігу з паэтычнай назвай «Свяча любові». Гэта зборнік выбранай лірыкі Валянціны Коўтун, які быў падараваны мне ў той дзень у Старым Двары, дзе пахавана Цётка і дзе адбывалася сустрэча. Напісала некалькі цёплых слоў на першай старонцы майго даследавання і Лідзія Арабей (Беражыце радзіму і мову. 02.07.2006. Л. Арабей).

А яшчэ мы змаглі зняць невялікі аматарскі фільм на радзіме Алаізы Пашкевіч, пагутарыць з мясцовымі жыхарамі пра знакамітую зямлячку. Напэўна, дзякуючы нашым намаганням, майму захапленню паэтэсай-патрыёткай, даследаванне было адзначана шматлікімі ўзнагародамі, надрукавана ў двух нумарах навукова-педагагічнага часопіса «Народная асвета», прагучала ў эфіры шчучынскага радыё.

**Кацярына МАХНАЧ**

# Вяртанне Алены Руцкай

Толькі сама Алена Руцкая ўнесла яснасць наконт месца свайго нараджэння. Розныя крыніцы называлі то Слонім, то вёсачку Дзякаўцы, што на Шчучыншчыне, а на самай справе быў панскі фальварак убаку ад населеных пунктаў, які, па словах паэтэсы, напэўна, ад сталыпінскай рэформы дажыў да сярэдзіны мінулага стагоддзя.

Пра радзіму пісьменніка трэба размаўляць на яго мове:

*Не хаджу па сваіх слядах,*
*Не наведваю, не прыязджаю.*
*Край дзяцінства, мой сіні птах,*
*Успамінам цябе пакідаю…*
*…Там плюскоча мая Тур'я*
*Ў ціхай засені вербалозу…*

Сапраўды, ехаць не засталося куды. Хіба ў Шчучын, куды яе бацька Віталь Іосіфавіч, будучы на службе ў лясніцтве, нярэдка браў дачушку з сабой. Ці хоць у бліжэйшую Ражанку. А прыехалі Руцкія і пасяліліся ў былым панскім маёнтку дзякуючы іх радаслоўнай, якая цягнулася па лясніцкай справе. Нібыта даўняга Міхала з «Новай зямлі», кідаў лёс па Прынямонні і сям'ю Руцкага. Ужо не стала гаспадыні фальварка пасля апошняй вайны, а пабудова з калонамі каля ўваходу і прыгожымі алеямі прытуліла на нейкі час работніка лясніцтва, жонку-настаўніцу і маленькую Аленку.

Некалі да вайны пані вяла навучанне дзетак сваіх і з бліжэйшых фальваркаў, цяпер Аленчына маці Зоя Карнееўна, матэматык па адукацыі, стала вучыць з дзясятак малодшых школьнікаў. Дачка пачала чытаць вельмі рана, а складаць вершыкі — ці не тады, як пачала гаварыць. Потым з год у 5 клас Алена то ішла пешшу, то ехала веласіпедам у Ражанку. Затым лёс зноў паклікаў у шлях. І надоўга. Яе дарога да цяперашняга Гродна пралегла праз Слонімшчыну і сталіцу. І цяпер слонімцы лічаць паэтэсу сваёй, запрашаюць на сустрэчы, на ўспаміны пра юнацтва: столькі Алена Руцкая прысвяціла сваёй душэўнасці гэтаму краю ў вершах і падчас школьных заняткаў — яна тут доўга і плённа настаўнічала.

Голас Алены гучыць у слыхаўцы нават маладзей, чым дваццаць гадоў таму. Ці не столькі часу мы не бачыліся пасля сустрэч то ў Доме Элізы Ажэшка на пісьменніцкіх сходках, то на якім з заводаў, то ў музеі Максіма Багдановіча пад апякунствам Дануты Бічэль. Помніцца, перад выступленнем звычайна Алена Руцкая брала паўзу, уваходзіла ў паэтычны вобраз, стварала для сябе і слухачоў адпаведную атмасферу. Адзін з асноўных яе і, напэўна, любімых паэтычных зборнікаў «Роздум» дакладна перадае (нават назвай) асноўны напрамак яе творчасці — эстэтычнае сцвярджэнне маральна-этычных каштоўнасцей праз асабісты вопыт і роздум.

Сама ж Алена Віталеўна з асаблівым замілаваннем ставіцца да далёкіх студэнцкіх гадоў, калі вучылася на філалагічным факультэце сталічнага ўніверсітэта. Менавіта там дзякуючы непасрэднай творчай літаратурнай атмасферы яна рана далучылася да паэтычнага слова, а аб'яднанне «Узлёт» дало магчымасць пабачыць і пачуць выбітных творцаў.

— Што для нас азначала сустрэча з ужо вядомым на той час Уладзімірам Караткевічам! — свецяцца захапленнем вочы спадарыні Алены. — Маладыя, мы не да канца спасцігалі сэнс яго павучальных слоў, але што яны ў многім сталі абавязковымі для далейшага шляху многім з нас, студэнтаў, — адназначна.

Тады ж пашанцавала юнай паэтэсе пабыць на злёце маладых літаратараў з усяго Савецкага Саюза ў Ерэване. І там яе чакала творчая знаходка, бо пасля, вярнуўшыся, паспрабавала заняцца перакладамі на родную мову. Гэтая праца доўжыцца па сёння. Асабліва ёй імпануе ўкраінская паэзія.

Ды што казаць: аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, выдатнік народнай асветы (1982), заслужаны настаўнік Беларусі (1987), дацэнт кафедры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябра рэдакцыйнай рады часопіса «Беларуская мова і літаратура». І ўсё гэта — Алена Руцкая. Пад сотню артыкулаў і кніг напісала яна на тэму выкладання беларускай літаратуры ў школе. Яе метадычнымі напрацоўкамі актыўна карыстаюцца шматлікія педагогі-мовазнаўцы.

Каб быць да канца справядлівым, трэба яшчэ раз вярнуцца ў мінулае, калі адзін з дзядоў Алены працаваў загадчыкам дзіцячага дома. Сціплую, тактоўную, уважлівую выкладчыцу ва ўніверсітэце любяць студэнты, яе шануюць і паважаюць у навуковых колах. Даследчая праца вымагае адведваць Нацыянальны інстытут адукацыі ў сталіцы, і памежна-адукацыйны праект супрацоўніцтва Беларусі з Прыбалтыкай таксама кліча ў дарогу.

На працягу творчай дзейнасці Алена Руцкая з асаблівым пачуццём звяртаецца да мінуўшчыны свайго краю, дзе нарадзілася і знайшла спачын Алаіза Пашкевіч (Цётка), дзе правяла амаль усё жыццё Эліза Ажэшка. Тут, у Гродне, некаторы час жыла вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская. Алена Руцкая піша:

*О, пані Зоф'я, хіба толькі сны*
*Нам прыбліжаюць мройную сустрэчу,*
*Пастукайце ў акенца, як у вечнасць,*
*І голас адгукнецца з даўніны.*

Роздум паэтэсы глыбокі і зразумелы. Педагог па жыцці, не магла яна не пісаць пра дзяцей і для іх. Крытыка адзначае, што паэтэса цудоўна валодае гумарыстычным словам у сваіх байках і гумарэсках. Няма сумнення: падчас Дня беларускага пісьменства яна парадуе землякоў новымі вершамі, а можа, і кнігай.

— Што можа быць мілей за ўспаміны пра дзяцінства. Здаецца, я ўсё жыццё хадзіла такімі сцежкамі і дарогамі, каб сустрэча са сваёй радзімай надарылася святочнай і душэўнай наяве і ў вершах, — мяркуе Алена Руцкая. — А Дзень беларускага пісьменства ў Шчучыне — найвышэйшы знак удзячнасці майму краю, яго гісторыі.

**Рычард БЯЛЯЧЫЦ**

# Слова ў дарогу

**Бягуль Анабаева, якая жыве і працуе ў Ашхабадзе, піша па-туркменску, упершыню прадстаўлена беларускаму чытачу. У перакладзе Ірыны Качатковай. Не збіраючыся пераказваць сюжэт, заўважу толькі адно ў дачыненнені да канкрэтнага тэксту.**
**Па апавяданні Б. Анабаевай відаць, што пісьменніца імкнецца адсачыць, разгледзець сённяшнія характарыстыкі сваіх землякоў, суайчыннікаў. Вось і хацелася б, каб перакладчыкі найперш і заўважалі творы, якія адлюстроўваюць чалавека, яго псіхалогію ў нашым часе. Адлегласці паміж пісьменнікамі і літаратурамі, нягледзячы на развіццё інфармацыйных, медыйных хуткасцей, сёння паменшыліся як ніколі. І асабліва важна разгледзець сапраўдныя здабыткі ў сучасных чужаземных прыгожых пісьменствах. Вось і ў адносінах да туркменскай літаратуры мне хацелася б ведаць: а што ж у ёй важнага, што новага ў ёй з'явілася. Ці па-ранейшаму вострa ўзіраюцца ў жыццё свайго народа вядомыя з савецкага часу Агагельды Аланазараў, Атамурад Атабаеў, Набаткулі Рэджэпаў, Газель Шакуліева, Камек Кулieў?**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

**Бягуль АНАБАЕВА**

# Партрэт

Колькі разоў ні імкнуліся сямейнікі замяніць стары, зусім пажоўклы — нібы з музея — партрэт на прыгожы краявід, Джаліль ага заўсёды катэгарычна пярэчыў: гэта немагчыма.

— Тата, чаму нельга? — аднойчы з абурэннем спытала старэйшая дачка Сурай. Той нічога не адказаў. Аднак пасля, паказваючы на партрэт, прапанаваў:

— Калі не падабаецца, дык я зраблю для яго прыгожую рамку.

Жонка Агульгерэк адразу адгукнулася:

— Хіба ж ты можаш гэта добра зрабіць? Наўрад ці. Ведаю я твае здольнасці. Лепш не чапай яго, — звярнулася яна да дачкі, якая ўжо наважылася была здымаць партрэт са сцяны.

— Што, калі стары, дык трэба абавязкова выкінуць, ці што? Хай вісіць як ёсць.

Джаліль ага пайшоў з дому, не слухаючы апошніх жончыных слоў, нібы яны прызначаліся не яму.

— Гэтую старую рэч маглі б аддаць у рамонт, — злавалася дачка, якая ніяк не магла пагадзіцца з думкай бацькоў, аднак жа пакінула партрэт на ранейшым месцы.

Маці, ідучы на кухню, пачула гэтыя словы і хуценька адказала:

— Рабіце што хочаце, але ж вы не можаце сядзець спакойна, нічога не мацаючы, нідзе не шкодзячы. — Гэта датычыла ўсіх яе дзяцей.

— Не чапайце, хай вісіць, гэта ж памяць, — пачуўся з двара голас Джаліль агі.

— Памяць... І што з таго, ніяк не магу зразумець. Чаго ён вісіць, увесь выгляд псуе… — сноўдаючыся па пакоях, усё яшчэ злавалася Сурай.

Але гэтых яе слоў ніхто не чуў — ні маці, ні бацька.

Размаўляючы сама з сабой, прыбіраючыся ў доме, увечары яна засталася зусім без сіл і неўзабаве заснула. З раніцы, падмятаючы ў двары, не дала спакойна паснедаць сваім бацькам, усё яшчэ абураючыся.

— Тата, калі ты, нарэшце, дасі рады свайму жалезнаму хламу? Так і хочацца кінуць усё гэта ў яму. Нейкі бязладны ў нас двор.

Джаліль ага, які ўгрэўся на сонейку, толькі прамармытаў:

— Хм, я і не ведаю, куды гэта ўсё можна скласці.

— Тата, а якая карысць ад гэтага жалеззя? — спытала Сурай.

— Бач ты, зусім сумленне страціла. З бацькам, як з аднагодкам, размаўляе, — папікнула маці дачку, якая ў гэты час якраз хацела сказаць яшчэ нешта.

— Не трэба крыўдзіць маю Сурайджан, хто яшчэ сочыць за парадкам у доме так, як яна? — устаў у абарону дачкі Джаліль ага.

— Дачушка, вось пасталеюць твае браты, і тады мы прыдбаем яшчэ адзін двор. І ў тым двары я абсталюю сваю майстэрню, добра?!

З маленства працуе Джаліль ага трактарыстам і жыцця свайго не ўяўляе без жалеза. Хоць і намагаліся сямейнікі неадночы схаваць непатрэбныя, на іх думку, жалезныя запчасткі, раскіданыя па двары, колькасць іх не памяншалася. Шмат хто з аднавяскоўцаў звяртаўся па дапамогу да Джаліль агі, калі ламалася тэхніка. І толькі дзякуючы спрытным рукам майстра дэталі зноў пачыналі працаваць. Але Джаліль ага не ганарыўся тым, што быў адмысловым майстрам, за працу сваю ніякай узнагароды не прасіў — не падабалася яму гэта. Радаваўся, калі непатрэбная заржавелая дэталь ажывала ў яго руках і яе можна было выкарыстоўваць зноў. Хоць і не было ў іхнім двары месца, каб складаць усе гэтыя прылады, ён усё роўна іх збіраў: шкада было выкінуць. Магчыма, гэту якасць характару ён атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі-нябожчыка Байлі агі, а магчыма, гэта было яго юнацкім захапленнем — з таго часу як складаў у кабіне трактара кнігі і з ахвотаю чытаў іх.

— Праз жалеза сваё ты зусім звар'яцеў, цябе ні ў чым не пераканаць, — наракала на яго Агульгерэк.

Яна добра ведала, што не зможа адцягнуць свайго мужа ад любімага занятку. Яна неадночы чула расповеды пра яго ўмельства ствараць цуды — дэталі ў яго руках рабіліся не горш за заводскія. І цяпер яна шукае на двары прыдатнае месца, каб скласці сабраныя мужам жалезныя прадметы, адкідаючы ўбок непатрэбнае старое ламачча. Яна ведала: беспарадак больш за ўсё засмучае дачку, якая як мага далей закідвае непатрэбныя, на яе думку, рэчы.

— Усё ж такі гэта селішча, таму лепей цяпер добра прыбраць, чым пасля, — сказала сама сабе Агульгерэк і пачала распіхваць мужавы жалезкі ў розныя сховішчы і патаемныя месцы, калі раптам пачула словы дачкі:

— Мама, я дамовілася наконт партрэта, яго пераробяць.

— Дачка, мне не спадабаецца, калі ты кранеш партрэт. — Джаліль ага пачуў словы Сурай і адвёў вочы ад кнігі, якую чытаў якраз у гэты момант.

— Чаму?

— Таму, што гэта партрэт твайго дзеда…

— Але я не збіраюся выкідаць яго. Хачу толькі трохі абнавіць, як партрэт бабулі. Ты ж бачыш, які прыгожы цяпер бабулін партрэт, як ён радуе вока!

— Досыць, дачка, больш нічога не гавары. Надалей я не буду паўтараць табе пра тое, што партрэт дзеда чапаць нельга. Хай ён нават зжаўцее ці ўвогуле страціць колер — не чапайце. І хай вісіць на сваім месцы, — Джаліль ага зноў падняў вочы ад кніжных старонак.

— Вах, няхай вісіць, але паглядзі, як хараша абнавіўся партрэт тваёй мамы, бабулі Сурай. І дачку мы назвалі ў яе гонар. Колер партрэта атрымаўся такі, нібы бабуля толькі-толькі сфатаграфавалася. Што табе не падабаецца?

— Ты лічыш, што паколькі твой бацька быў ціхмяным, як авечка, дык хай і партрэт застанецца такім? — ледзь чутна прамовіла Сурай.

— Рабіце што хочаце, але не будзе так, як вам заманулася, — злосна прамовіў Джаліль ага.

— Вой, лепш я пайду, — абурылася Агульгерэк і знікла ў самым дальнім пакоі.

* * *

Не ведаю, хто даў яму мянушку «партрэт». Але небарака ўсе дні праводзіў у сваёй сціплай майстэрні, час ад часу пастукваючы малатком.

Кожнаму, хто прыходзіў да яго са словамі: «Байлі ага, мне б лапату адрамантаваць», ён проста пасміхаўся. На грошы, пакінутыя за працу, увагі не звяртаў. А вось слова «дзякуй» прымаў з вялікім задавальненнем і са шчырай усмешкай. Ён быў майстрам сваёй справы, па большай частцы займаўся земляробствам, а вось рамесніцтва прыносіла яму вялікую асалоду. Працаваў у майстэрні не дзеля грошай, не звяртаючы ўвагі на жончыны нараканні і дакоры. А калі да яго даходзілі звесткі, што за яго працу людзі пакідаюць плату жонцы, надта ж злаваўся. Тады доўга маўчаў, мог не размаўляць з ёю ўвесь дзень. Карыстаючыся маўклівасцю мужа, жонка мела звычку гаварыць замест яго. Сярод людзей знаходзіліся і тыя, хто шкадаваў яго і адначасова абвінавачваў у такім становішчы. Бацьку ахвотна слухаўся толькі сын Джаліль, які любіў яго ўсёй дзіцячай душой.

— З таго часу як я выйшла замуж, — сварылася жонка, — не было ў мяне шчаслівых дзён. Скараючыся табе, я зусім змагалася.

Але сын Джаліль, слухаючы матчыны скаргі, заступаўся ўсё ж такі за бацьку.

— Тата мой вельмі добры, — казаў малы.

— Адкуль ты ведаеш, хто добры?! Увесь у бацьку пайшоў! Вам толькі б усім дагадзіць, а пра сябе і не думаеце, — злосна гаварыла маці. Але праз адсутнасць слухачоў яна змаўкала.

З часам Байлі ага, аднак жа, пачаў з'яўляцца ў селішчы радзей. Майстэрню яго давялі да ладу і прыстасавалі пад маленькую пякарню. Людзей, якія прыходзілі па запчасткі, жонка яго адпраўляла ні з чым, прыгаворваючы пры гэтым: «Яго няма ў селішчы, якія яшчэ могуць быць дэталі?» Людзі гаварылі, што Байлі ага стаміўся ад жончыных папрокаў, ад надакучлівасці яе сваякоў, кінуў садаводства і пачаў працаваць у адной з гарадскіх майстэрняў. «Та-а-ак, цяпер ён знаным майстрам зрабіўся, і заробак у яго прыстойны», — гаварылі аднавяскоўцы. Некаторыя ўсё ўспаміналі тыя дні, калі ён частаваў іх дынямі, рамантаваў дэталі, ліквідаваў якія заўгодна непаладкі. Людзям надта ж бракавала яго дапамогі, і хоць быў ён нешматслоўным, без яго сумавалі, увесь час успамінаючы: «Ах, быў бы тут цяпер Байлі ага! Не было б у нас праблем, і ён бы меў падзяку ад людзей. Жыць у горадзе, у незнаёмых мясцінах, яму будзе няпроста». Адзінокім пачуваўся і яго сын Джаліль, бо бацька толькі зрэдку меў магчымасць прыехаць да яго з горада. Часам Джаліль наведваў свайго аднагодка, які жыў на другім канцы сяла, — сыходзіў з дому, каб толькі не чуць матчыных дакораў: «Увесь у бацьку пайшоў, ні адзін, ні другі не ведаюць сваёй выгады». Жонка Байлі агі надта ж любіла свой гарод, які даваў добры прыбытак. І садавіну, і гародніну гаспадыня заўсёды везла на кірмаш, да таго ж і ў суседзяў брала ўраджай на продаж — яна лепш за ўсіх умела гандляваць, красамоўна гаварыла пра свой тавар, добра ведала, што, дзе і колькі каштуе. У такія дні заўсёды спынялася са сваім грузам у доме Байлі агі, аднак жа часцяком гасцявала і ў знаёмых. Дзякуючы добраму заробку мужа гаспадарка яе пачала квітнець. Цяпер яна менш сварылася, а больш займалася непасрэдна сваімі справамі.

Гарадскія жыхары далі Байлі агу мянушку «партрэт». Жонка пачула гэта слоўца і не давала яму спакойна жыць. Аднавяскоўцы пра тое даведаліся трохі пазней. «Такога майстра на ўсе рукі іншая жонка цаніла б, а не прыгнятала», — гаварылі людзі, якія шкадавалі яго.

Спраўдзіліся мары жонкі Байлі агі пра добрае жыццё, але шчасця ўсё роўна не было — ніхто ніколі нават не завітваў у іхні двор. У селішча Байлі ага прыязджаў рэдка. Ён і раней быў не надта гаваркім, а цяпер зрабіўся і зусім маўклівым — ішла пагалоска, што ў горадзе ён сумуе. Маладыя хлопцы пачалі былі клікаць яго па мянушцы, але неўзабаве кінулі гэты занятак. Джаліль таксама зацята маўчаў, хіба што на пытанні Агульгерэк адказваў: «Мамулька ведае, што робіць», — і больш ніводнага слова з яго было не выцягнуць. Старыя казалі, што ён надта падобны да свайго маўклівага бацькі.

Аднойчы Байлі агу сфатаграфавалі для Дошкі гонару, а з фотаздымка пазней зрабілі партрэт, што вісеў цяпер на сцяне. Партрэт зжаўцеў з тых часоў, састарэў. Побач з бацькавым партрэтам знаходзілася адрэстаўраваная выява маці гаспадара дома. Сямейнікі ўвесь час хацелі абнавіць і дзедаў партрэт, але Джаліль ага, абураючыся, гаварыў ім:

— Калі вы думаеце, што, прыбраўшы стары партрэт, пазбыўшыся памяці пра былое, дарагіх успамінаў, зробіце лепш, дык можаце прыбіраць і мяне.

І партрэт вісеў на месцы ўвесь час.

Аднойчы ў доме пачаўся рамонт, пра партрэт тады ніхто не ўспамінаў. Сурай цішком зняла дзедаву выяву са сцяны і схавала як мага далей. «Будзе час, тады аддам на рэстаўрацыю», — падумала яна. Пра тое і маці сказала. «Дачушка, рабі, як лепей. Бацька і не ўспомніць цяпер пра гэта. Аддавай партрэт майстру на пераробку, пасля мы яго павесім на ранейшае месца», — згадзілася маці.

Здавалася, Джаліль ага цалкам захоплены сваімі справамі, аднак жа знікненне партрэта не схавалася ад яго пільнага вока. Ён перажываў, нерваваўся, мітусіўся, шукаючы дарагую рэліквію. Спачатку жонка не магла ўцяміць, што да чаго. «У чым справа? Што здарылася?» — раз за разам пыталася яна. «Нічога, нічога...» — адказваў ён. «Як нічога? Скажы, нарэшце, толкам, што здарылася?» — не супакойвалася Агульгерэк.

— Дзе партрэт? — нарэшце закрычаў ён так, што голас яго пачулі нават суседзі.

— Ды куды яму падзецца, ляжыць, відаць, дзе-небудзь, — адказала Агульгерэк.

Сурай паказала яму на сямейныя фотаздымкі, што стаялі на стале.

— Я не пра іх гавару! Дзе партрэт? — зноў закрычаў ён.

Агульгерэк упершыню бачыла мужа такім раз'юшаным.

— Дачушка, прынясі, калі ласка, адзіны дзядулеў партрэт, — папрасіла яна заплаканую Сурай.

— Мама, я ж табе казала, я яго…

Праз слёзы яна не змагла дагаварыць.

Джаліль ага неадночы параўноўваў сваю дачку з яе бабуляй — гэтак жа ўмее назаляць. Ён моцна ўгнявіўся.

— Ты так і не супакоілася, пакуль не прыбрала партрэт. Куды ты яго аднесла? — злосна запытаў ён дачку.

Але тая нічога не адказала: ці то не пачула, ці то напалохалася — і маўчала. Тады замест яе дрыжачым голасам адказала Агульгерэк:

— Відаць, фатографу аддала.

Джаліль ага не даслухаў яе, куляй выскачыў з дома і да самага вечара не вярнуўся. Агульгерэк хвалявалася, супакойваючы сябе думкамі пра тое, што ўсё добра, што з мужам нічога кепскага не здарылася, што ён, відаць, завітаў да каго ў госці і спакойна сядзіць, п'е чай. Ды і ў госці ходзіць ён рэдка, разважала яна далей, больш займаецца справамі ў доме, а клапатаў, трэба сказаць, хапае.

Вярнуўся Джаліль ага позна ўвечары, трохі супакоены. У руках ён трымаў партрэт.

З таго часу ніхто не наважваўся дакранацца да партрэта. Усё забылася. Партрэт вісеў на ранейшым месцы, і на гэты конт ужо не было ніякіх спрэчак і непаразуменняў. Людзі і пазней бачылі стары партрэт, які вісеў на тым самым месцы. Ён застаўся ў доме назаўсёды.

**З туркменскай.**
**Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

Азербайджан

## Чынгіз АЛІ АГЛУ

## Не забывай мяне

*Ты бачыш, восень дрэвы абдымае,*
*Малюе вохрай лісце і траву,*
*З усмешкаю папахі з дрэў здымае —*
*Схіляюць перад ёю галаву.*
*Шэпт чуецца ціхуткі, бы ўва сне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*Самотны лебедзь распраўляе крылы*
*І хмараў разбівае цёмны мур.*
*Ён у далёкі край, у сонны вырай*
*Збіраецца, каб перабыць зіму.*
*Растане крык у цьмянай сівізне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*Маланкамі ўзараныя нябёсы,*
*Вятрыска хмары хоча пасварыць,*
*Але залева — над жыццём і плёсам —*
*Спявае пра высокія віры.*
*Той спеў ці стогн душу маю кране:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*І зводзяць бровы горныя вяршыні*
*Над хвалямі бруістае ракі.*
*Ды грому не адолець хор птушыны,*
*Як вечны кроплі кон — цячы з рукі.*
*Ды кропля лёс самотны свой кляне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*Пасля залевы — чысціня і ціша,*
*Зграе ноч у вогнішчы, пастух*
*З сабакам верным дрэмлюць у зацішку,*
*І толькі поўня не спыняе рух,*
*Ды поўні полымя крысом махне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*На станцыях, дзе цягнікі старэюць*
*І бавяць ночы ў марах пра шляхі,*
*Раптоўны выгук сэрцы іх сагрэе,*
*Бязмоўе разаб'е гудок сухі —*
*Ён дзверы памяці шчаслівай адамкне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

*Душа мая, ты белакрылым чоўнам*
*Плыві да першага кахання берагоў,*
*Туды, дзе быў я гаспадар — не госць,*
*Плыві ракою — часам залачоным.*
*Каханне зноў мне ў вочы зазірне:*
*«Не забывай… не забывай мяне…»*

## След кладзецца

*След кладзецца, як зерне вясною,*
*прарастае, бы зерне, ў хадзе,*
*ён сцяжынаю станецца новай,*
*што наперад мяне павядзе.*

*Так сцябліна ўзрастае паволі,*
*так галін разыходзіцца лёс.*
*Паглядзі на шырокае голле:*
*вось палёт,*
*ці то, можа, цянёт…*

*Прагу шляху нічым не здаволіць.*

*Першы крок — гэта след ад парога,*
*першы след — гэта зерне ў раллі:*
*падтрымайце яго, каб дарогай*
*ўсе сляды апынуцца маглі.*

**З азербайджанскай.**

Рэспубліка Калмыкія

## Вера ШУГРАЕВА

## Бабулі-калмычкі

*Яны сядзяць вакол агня,*
*Яднаннем кубкі іх звіняць.*
*Бабулі п'юць салодкі чай,*
*Бы ў вуллі мёд, збіраюць час.*

*Гамонка тчэцца, як дыван,*
*Глыток — і думак не схаваць.*
*На шчоках — мак,*
*на скронях — снег.*
*Ну што, прыпомнім, як раней?..*

*Няма на што ім наракаць.*
*На вуснах песня — бы рака*
*З тых пожняў памяці нямых:*
*«Ты помніш, як?.. А помніш, мы?..»*

*Ці бачыў ты на схіле дня*
*Цяпло калмыцкага агня?*
*Бабулі п'юць салодкі чай,*
*Бабулі прыпыняюць час.*

## Паедзем у Цэкерту

*Мой дружа, Цэкерта чакае.*
*Мне дужа да душы яна.*
*Снуюць дзяўчаты чаўначкамі,*
*На скронях мудрых — сівізна.*

*Да Цэкерты паедзем, дружа!*
*Даволі пазіраць здаля!*
*Палын мне галаву закружыць,*
*Пагоіць сэрца мне зямля.*

*Збярэмся ў родным нашым доме —*
*З бацькамі за адным сталом.*
*І пад гарбату пагамонім,*
*І пад світанак — запяём.*

*Пакуль мы сэрцам не астылі,*
*Пакуль радкі ў душы гараць,*
*Хачу вярнуцца, дружа мілы,*
*Хачу абняць свой любы край!*

*У Цэкерту цябе заву я,*
*Каб цішыню пачуць жывую!*

## Малюся на цябе

***Васілю Ачыраву, знакамітаму чабану***

*У тым доме, дзе сандалам пахнуць сцены,*
*У тым доме, дзе бароняць сцены памяць,*
*Там жыве зямлі маёй нашчадак,*
*Там дзядуля, аава мой любы.*

*Дні яго шануюць дзеці, ўнукі,*
*Да яго ідуць з любой нагоды,*
*Бо ён свет стварае кожным ранкам,*
*Бо жыццё вартуе мой дзядуля.*

*Спёка холадам змяняецца няспынна,*
*З першым крокам шлях вядзе да неба.*
*Мой дзядуля за мяне штовечар*
*Моліцца, запальвае лампадку.*

*Час яму — і гаспадар, і сябар,*
*Шчасце ён знайшоў у дзённым тлуме.*
*Хай імя тваё свяціцца, аава мой,*
*Хай яго ніколі не забудуць.*

*На душы маёй спакой і радасць.*
*Напішу я тое, што на сэрцы:*
*«Благаславі мяне, дзядуля мілы,*
*Божа благаславі майго дзядулю».*

## Ружанец

*Матулін ружанец трымаю ў руках,*
*Малюся, як мама вучыла.*
*Не пацеркі дзён пражытых маіх —*
*Надзеяў нязломная сіла.*

*Сто сем іх на нітцы — стамлюся лічыць,*
*Але не стамляюся помніць.*
*У кожнай — жыццё маё прадкаў, — глядзі!*
*Утомнае працы поўнае.*

*Трымаю ружанец, нібыта дзяцю*
*Трывогу з былымі вякамі.*
*Прашу супакою і міру прашу*
*Для ўсіх, каго заўтра спаткаю.*

*Для ўсіх адзінокіх, старых і малых,*
*Для ўсіх, хто забыў аб галоўным.*
*Матулін ружанец, ты мне падкажы*
*Малітвы сапраўднае словы.*

## Калмыцкі чай

*Гарачы чай з мускатным смакам*
*Падносім дарагім гасцям:*
*Частуйцеся. Ад стомы знаку*
*Не будзе. Чай!*
*Калмыцкі чай!*

*Драўляны кубак з благаславенняем*
*Нясём да вуснаў немаўля.*
*І вы каштуйце. Ён па венах*
*Нясе жыццё,*
*Калмыцкі чай!*

*А перад дальняю дарогай,*
*Каб найхутчэй вярнуцца зноў*
*Да роднага свайго парога,*
*На развітанне мы нальём*
*Калмыцкі чай!*

**З калмыцкай.**

Расія

## Яўген ЛУКІН

## На кніжным развале

***Верш у прозе***

*Вырваныя ветрам*
*З вокладак пустых,*
*Лопаюць даверліва*
*Крыламі лісты.*

**Эдуард Багрыцкі**

Вітаю цябе, цудоўны час — час вясёлага руйнавання цяжкадумных фаліянтаў, няздатных кніг і нікчэмных брашур. Учарашнія бажкі, яны неахвотна злазяць з пыльных завоблачных паліц і неахвотна зрываюць дарагія пазалочаныя вокладкі. Альбо збіруцца на кніжным развале і абмяркоўваюць сваю нечаканую бяду.

«Што рабіць, што рабіць?» — ходзіць па коле раман, у жаху сціснуўшы пераплёт. «Крок назад, два крокі наперад», — навучае дасведчаная зацяганая брашура. «Я ім пакажу, як гартавалася сталь!» — пагражае том пашанотнага фармату. «А я, натуралка, пакажу смерць піянеркі!» — лопае аркушамі худзенькая кніжачка.

Але ніхто не чуе гамонку зрынутых куміраў на кніжным развале ля Панцеляймонаўскай вуліцы ў часіну мірнага вяcновага захаду, калі звоняць званы Праабражэнскага сабора ў памяць Мяфодзія і Кірыла, клічуць навакольных вернікаў на вячэрнюю службу — пачуць запаветнае слова Сапраўднай Кнігі.

**З рускай.**

Арменія

## Эдвард МІЛІТАНЯН

***З аповесці «Падарожжа вынаходлівага качаня Бад-Бадала»***

## Адкрыццё Бада

Жыве і заўжды будзе жыць вынаходлівы вандроўнік качаня Бад-Бадал. Пакуль неба і зямля, пазіраючы адно на адного, будуць радавацца існаванню азёр ды воблакаў, будзе Бадал слізгаць аблачынкай па паверхні вады.

Навокал было шмат дзікіх качак, якія восенню ляцелі ў вырай на поўдзень, а ўвесну вярталіся. Яны кпілі з Бадала:

— Зноўку ты застаўся дома, зусім хатнім стаў, і нашто толькі Маці Качка дала табе крылы?

У Бадала ўсё сціскалася ўнутры, і ён глытком азёрнай вады змачыў перасохлае ад крыўды горла.

— Ну, чаго ты, — паблажліва казалі дзікія качкі, — не крыўдуй, ты ж таксама лётаеш, толькі над возерам, у адбітку неба, ты гасцюеш у палацах адлюстраваных аблокаў, яны — твае далёкія краіны, даволі табе і гэтага.

Аднак Бадал быў качанём ганарлівым і з вялікім пачуццём самапавагі, да таго ж ад прыроды кемлівы ды знаходлівы, а разам з усім названым меў вялікі імпэт да вандровак.

І вось аднойчы, калі шмат вады сплыло з-пад яго крылаў, ён зрабіў сваё Вялікае Качынае Адкрыццё: можна вандраваць, не рухаючыся з месца.

— Гэта як? — здзівіліся ўсе.

— Надзвычай проста, — паблажліва патлумачыў Бадал, — Зямля круціцца, а я — не, — ён ўзняўся над вадой, распасцёр крылы і застыў у паветры.

Так ён вісеў, ажно пакуль зямны шар, круцячыся, не знёс ад яго здзіўленых качак, якія гукалі здалёк:

— Што ты робіш, вар'ят, ляці лепей з намі!

— Не, — адказаў Бадал, — я буду чакаць, пакуль пада мною не апынецца Францыя.

## Бад-Бадал у Францыі

Праз тры, а можа, і праз чатыры гадзіны ўнізе паказаўся горад Марсель, але Бадал вырашыў пачакаць яшчэ. «Хай з'явіцца Парыж», — падумаў ён. І хутка яго крыло дакранулася да Эйфелевай вежы.

Адтуль Парыж быў як на далоні.

Група турыстаў узрадавалася:

— Гэй, мадам вутачка, якім цудам вы спусціліся з неба?

Бадал з гонарам ударыў сябе ў грудзі:

— Я зусім не мадам і ніяк не мадэмуазэль, я — месье, я джэнтльмен месье з Арменіі, і не цуд адбыўся, а я сам спусціўся.

— Вось як, — пагардліва адзваліся турысты, — значыць, ты гаворыш па-французску?

— Канечне, — глыбакадумна і сур'ёзна адказаў Бадал, — я навучыўся ў сваіх пералётных сяброў, яны ведаюць і арабскую, і нават мову хіндзі, і некалькі афрыканскіх дыялектаў.

Турыстаў паклікаў знізу кіроўца турыстычнага аўтобуса, і яны вырашылі не марнаваць свой каштоўны час на гутарку з Бадалам, выгукнулі «Аста ла віста!» ды сышлі.

«Іспанцы», — падумаў Бадал і, спусціўшыся з Эйфелевай вежы, пакіраваў да Трыумфальнае аркі, каб прайсціся пад ёй. Ён марыў адзначыць сваю перамогу, як сапраўдны француз, бо яго адкрыццё было ўнікальным, адзіным і непаўторным, вартым, каб звацца перамогай.

І калі ён прайшоў пад Аркай, перад ім апынуўся паліцэйскі, які запатрабаваў паказаць пашпарт. Зразумела, Бадал не ўзяў з сабой аніякіх дакументаў, і пад пільным наглядам пашыбаваў у паліцэйскі ўчастак. Там нейкія араб ды індус чакалі вызначэння іх асоб. Бадал загаварыў з імі па-арабску і па-індыйску. З яго прамовы я памятаю толькі «Ал Бахал» ды «Віцік Дана». Паліцэйскі, які прывёў Бадала, сумеўся і знепрытомнеў. Араб, індус ды Бадал скарысталіся гэтай нагодай, каб выскачыць з паліцэйскага ўчастка і дабегчы да самога Монпарнаса, дзе яны аддыхаліся і завялі гаворку.

Араб запытаўся ў Бадала:

— Як цябе завуць?

— Бадал, — адказала качаня.

— О, Бад-Ал, — узрадавана паўтарыў араб, — зусім як арабскае імя: Ал-Бад ці Бад-Ал. Ты чытаў Абула Ала Маары?

— Канечне, — з гонарам прамовіў Бадал, — армянскі паэт Аветік Асакян напісаў пра яго паэму, я ў школе вывучыў яе напамяць.

І ён прадэкламаваў некалькі радкоў:

«Лепш плыць па хвалях у дзіравым чоўне,

Чым зманлівай даверыцца жанчыне».

Араб ды індус усцешыліся дасведчанасці месье Бадала.

У сваю чаргу індус запытаў:

— Дзе гэта ты вывучыў песню «Віцік Дана»?

— Ха-ха-ха! — Бадал зарагатаў так, што мастакі Манмартра на імгненне пакідалі свае пэндзлі. — У Ерэване на Трэцім участку цэлымі днямі пяюць гэтую песню, Трэці ўчастак — гэта ерэванская Індыя, а ў Ерэване ёсць яшчэ і свой Бангладэш, а ў Арменіі ёсць Конга, Лондан, Лас-Вегас і г. д., мая радзіма багатая на геаграфічныя найменні планеты, мы вельмі цывілізаваныя і дружалюбныя, — з гонарам прамовіла качаня.

Індус ды араб на імгненне абмяняліся позіркамі і вырашылі пра сябе, што ў Бад-Ала не ўсё ў парадку з галавой.

Качаня гэта выдатна зразумела і сказала:

— Ну, сябры, давайце рушым адсюль хутчэй, каб нас не знайшлі паліцыянты. Прапаную пайсці на могілкі Пер-Лашэз — там бяспечна.

Араб ды індус канчаткова ўпэўніліся ў тым, што ў Бад-Ала не хапае глуздоў і на развітанне не забыліся ветліва запрасіць яго: араб — у Арабію, індус — у Індыю.

Бадал ахвотна прыняў іх запрашэнні і паабяцаў праз тры дні завітаць у Каір, а праз шэсць — у Бамбей, на плошчу Вікторыі.

Індус канчаткова сумеўся ад такой дасведчанасці Бадала, так што яго тулава выправілася ў Пігаль, а галава — у Луўр.

Арабу таксама не пашчасціла: матляючы галавой, з крыкамі: «Вярблюд! Вярблюд!», ён збег у алжырскі квартал.

**З армянскай.**

**Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

# ПРАГРАМА ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

## 5 верасня

| **г. Шчучын, Шчучынская цэнтральная раённая бібліятэка імя Цёткі** *(вул. Леніна, 50)* | |
|---|---|
| **11.00-11.30** | Адкрыццё Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Цёткі пасля правядзення капітальнага рамонту. |
| **12.00-14.00** | Міжнародны «круглы стол» **«Сугучча: Літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства»** з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў. |
| **11.00-18.00** | Выставачны праект **«Клічу вас я на перамогу»**, прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і творчасці Янкі Купалы ў ваенныя гады. |

| **ДУА «Гімназія г. Шчучына»** *(вул. Леніна, 64)* | |
|---|---|
| **12.00-15.00** | Навукова-практычная канферэнцыя **«Шчучынскія чытанні — 2015».** |

| **Фестываль кнігі і прэсы** *(плошча Свабоды)* | |
|---|---|
| **11.00-18.00** | **Павільён «Кнігі і прэса Беларусі».**<br>Праекты:<br>**«70-годдзю Вялікай Перамогі прысвячаецца…»** — экспазіцыя плакатаў— пераможцаў Міжнароднага конкурсу патрыятычнага плаката моладзі краін СНД «Нам дорог мир» і плакатаў часоў Вялікай Айчыннай вайны.<br>**«Слова клікала да Перамогі»** — падпольныя і партызанскія газеты ў гады Вялікай Айчыннай вайны.<br>Тэматычныя кніжныя выстаўкі:<br>**«Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання» і «Уладзіміру Караткевічу — 85!».**<br>**«Фота Беларусі»** — выніковая выстаўка рэспубліканскага конкурсу.<br>Сучасная беларуская кніга.<br>Экспазіцыя кніг — пераможцаў Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў **«Мастацтва кнігі».**<br>Экспазіцыя перыядычных выданняў установы «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».<br>Выстаўка **«СМІ Гродзеншчыны».**<br>Выстаўка самаробнай кнігі.<br>Святочны гандаль друкаванай прадукцыяй. |

| **Стадыён «Алімп»** *(вул. Савецкая, 6)* | |
|---|---|
| **12.00-17.00** | Спартыўнае свята. |

| **Шчучынскі раённы Дом культуры** *(вул. Савецкая, 4)* | |
|---|---|
| **15.30-17.30** | Конкурс юных чытальнікаў Гродзенскай вобласці **«Жывая класіка».**<br>Падвядзенне вынікаў рэспубліканскай акцыі **«Лета з добрай кнігай!».**<br>Выстаўка дзіцячай перыёдыкі **«Дзіцячая прэса на ўсе інтарэсы».** |
| **12.00-18.00** | Выстаўкі:<br>*Фае першага паверха*<br>Выставачны праект **«Якуб Колас. Дарогамі вайны»**, прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Выставачны праект **«Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду.»**, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.<br>*Фае другога паверха*<br>**«AlfAbet»** — выстаўка твораў мастакоў Гродзенскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў».<br>**«Памяць аб вайне нам кніга пакідае»** — кніжная выстаўка да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне». |
| **19.30-22.30** | Тэатральны ўік-энд.<br>**Спектакль Д. Багаслаўскага «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў».** |

| **Сцэнічная пляцоўка** *(плошча Свабоды)* | |
|---|---|
| **18.00-19.30** | **Літаратурны вечар з удзелам беларускіх пісьменнікаў і выканаўцаў.** |

## 6 верасня

| **Храм Святога Міхаіла Архангела, храм Богаяўлення** *(вул. Савецкая, вул. Пушкіна)* | |
|---|---|
| **08.00-11.00** | Пасадка Саду Малітвы каля храма Святога Міхаіла Архангела.<br>Хрэсны ход да храма Богаяўлення.<br>Божая літургія ў храме Богаяўлення. |

| **Палац князёў Друцкіх-Любецкіх** *(вул. Астроўскага, 1А)* | |
|---|---|
| **11.00-11.20** | Адкрыццё адноўленага Палаца князёў Друцкіх-Любецкіх. |
| **11.20-19.00** | Музейная экспазіцыя УК **«Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей».** |
| **11.20-19.00** | Фотавыстаўка **«Беларусь у Першай сусветнай вайне».** |
| **11.20-19.00** | Лепшыя кнігі Беларусі. |

| **Ад Палаца князёў Друцкіх-Любецкіх да Галоўнай сцэнічнай пляцоўкі** *(вул. Астроўскага — вул.Савецкая)* | |
|---|---|
| **11.20-11.50** | **УРАЧЫСТАЕ ШЭСЦЕ.** |

| **Галоўная сцэнічная пляцоўка** *(набярэжная каля Шчучынскага раённага Дома культуры)* | |
|---|---|
| **12.00-14.00** | **УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.**<br>АФІЦЫЙНАЯ ЦЫРЫМОНІЯ АДКРЫЦЦЯ СВЯТА.<br>МАСТАЦКА-ТЭАТРАЛІЗАВАНАЯ ДЗЕЯ **«КВІТНЕЙ, БЕЛАРУСЬ НАША РОДНАЯ!».**<br>УРУЧЭННЕ **НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ.** |
| **14.00-17.00** | ВЫСТУПЛЕННІ МАСТАЦКІХ КАЛЕКТЫВАЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ. |

| **Фестываль кнігі і прэсы** *(плошча Свабоды)* | |
|---|---|
| **11.00-19.00** | **Павільён «Кнігі і прэса Беларусі».**<br>Праекты:<br>**«70-годдзю Вялікай Перамогі прысвячаецца…»** — экспазіцыя плакатаў— пераможцаў Міжнароднага конкурсу патрыятычнага плаката моладзі краін СНД «Нам дорог мир» і плакатаў часоў Вялікай Айчыннай вайны.<br>**«Слова клікала да Перамогі»** — падпольныя і партызанскія газеты ў гады Вялікай Айчыннай вайны.<br>Тэматычныя кніжныя выстаўкі:<br>**«Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання» і «Уладзіміру Караткевічу — 85!».**<br>**«Фота Беларусі»** — выніковая выстаўка рэспубліканскага конкурсу.<br>Сучасная беларуская кніга.<br>Экспазіцыя кніг — пераможцаў Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў **«Мастацтва кнігі».**<br>Экспазіцыя перыядычных выданняў установы «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».<br>Выстаўка **«СМІ Гродзеншчыны».**<br>Выстаўка самаробнай кнігі.<br>**Паштовы падворак «Ад старажытных часоў да сучаснасці»: урачыстае правядзенне спецыяльнага памятнага гашэння канверта з арыгінальнай маркай «Дзень беларускага пісьменства».**<br>Святочны гандаль друкаванай прадукцыяй. |

| **Сцэнічная пляцоўка** *(плошча Свабоды)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Літаратурнае свята **«Бацькаўшчына светлая мая».**<br>Прэзентацыя новых кніг пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь.<br>Прэзентацыі лепшых выдавецкіх праектаў, рэспубліканскіх і рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі.<br>Сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі, выдаўцамі, журналістамі, распаўсюджвальнікамі кнігі і прэсы.<br>Прэзентацыя кніг — пераможцаў абласнога конкурсу імя Цёткі.<br>Культурная праграма: канцэрты з удзелам аматарскіх і тэатральных калектываў. |

| **Горад майстроў «Народная творчасць — крыніца натхнення»** *(гарадскі сквер па вул. Савецкай)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Выстаўка-продаж тэматычнай сувенірнай прадукцыі майстроў Гродзенскай вобласці.<br>Дэманстрацыя тэхналагічных працэсаў вырабаў традыцыйных рамёстваў: народнае ткацтва, салома- і лозапляценне.<br>Майстар-класы па ганчарстве, кавальстве.<br>Свята-конкурс **«Папяровы вернісаж»**, выстаўка **«Папяровыя фантазіі».**<br>Майстар-класы па традыцыйнай выцінанцы і сучасных тэхніках мастацкай работы з паперай.<br>Дэманстрацыя друкарскага станка і станка для сушкі газет. |

| **Пляцоўка «Фестывальная»** *(гарадскі сквер па вул. Савецкай)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Падарожжа па старонках фестываляў Гродзеншчыны.<br>Канцэрт-прэзентацыя **«Жыве ў святах душа народа».** |

| **Тэатральная пляцоўка «Чароўнае слова тэатра» Шчучынскі раённы Дом культуры** *(вул. Савецкая, 4)* | |
|---|---|
| **14.00-16.00** | Выступленні прафесійных і аматарскіх калектываў Гродзенскай вобласці:<br>**«Камедыя пра нешчаслівага селяніна…»** У. Рудава (ДУК «Гродзенскі абласны драматычны тэатр»). |
| **18.00-19.10** | **«Калядны вечар»** Н. Рыбік (Народны тэатр ДУ «Астравецкі цэнтр культуры і народнай творчасці») |

| **Тэатральная пляцоўка «Чароўнае слова тэатра» Шчучынскі раённы Дом культуры** *(вул. Савецкая, 4)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | *Фае першага паверха*<br>Выставачны праект **«Якуб Колас. Дарогамі вайны»**, прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.<br>Выставачны праект **«Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду.»**, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.<br>*Фае другога паверха*<br>**«AlfAbet»** — выстаўка твораў мастакоў Гродзенскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў».<br>**«Памяць аб вайне нам кніга пакідае»** — кніжная выстаўка да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. |

| **Літаратурны салон «У Элізы Ажэшка». Шчучынскі раённы Дом культуры, памяшканне ЗАГСа** *(вул. Савецкая, 4)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Выстаўка рэдкіх выданняў і фотаздымкаў з фондаў ДУК «Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Карскага» і прыватных калекцый. |

| **Дзіцячая пляцоўка «Вясёлка дзяцінства»** *(гарадскі сквер па вул. Савецкай)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Узнагароджанне пераможцаў рэспубліканскага конкурсу юных чытальнікаў у рамках дзіцячага свята «Вясёлка дзяцінства». Канцэрт лепшых дзіцячых калектываў Гродзенскай вобласці.<br>Беларускі гульнявы тэатр раставых лялек **«Лялькі для ўсіх».**<br>Конкурс малюнка на асфальце «Рисуем мир».<br>Прэзентацыя дзіцячых бібліятэк Гродзенскай вобласці **«Жамчужына дзіцячай літаратуры».**<br>Сюжэтна-забаўляльныя праграмы **«Гарадзенскія пагулянкі».**<br>Выстаўка малюнка па матывах беларускіх народных казак.<br>Святочны гандаль дзіцячай кнігай. |

| **Пляцоўка «Гартаючы гісторыі старонкі…»** *(каля Палаца князёў Друцкіх-Любецкіх, вул. Астроўскага,1А)* | |
|---|---|
| **14.00-19.00** | Выступленні клубаў гістарычнай рэканструкцыі Гродзенскай вобласці.<br>Тэатралізаваныя прадстаўленні рыцарскіх клубаў Гродзеншчыны.<br>Канцэртная праграма з удзелам ансамбляў сярэдневяковай музыкі і танцаў Гродзеншчыны і г. Мінска.<br>Майстар-класы па сярэдневяковых танцах, конкурсна-гульнявыя праграмы **«Рыцарскія забавы».** |

| **Шчучынская цэнтральная раённая бібліятэка імя Цёткі** *(вул. Леніна, 50)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Выставачны праект **«Клічу вас я на перамогу»**, прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і творчасці Янкі Купалы ў ваенныя гады. |

| **Пляцоўка «Маладзёжная»** *(каля кінатэатра «Беларусь», вул. Леніна)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Флэшмоб **«За будучыню незалежнай Беларусі».**<br>Патрыятычная акцыя **«Памяць».**<br>Творчыя прэзентацыі вышэйшых навучальных устаноў г. Гродна.<br>Культурная праграма **«С книгой по жизни».**<br>Гульнявая праграма.<br>Маладзёжнае паэтычнае спаборніцтва **«Літаратурнае скрыжаванне».**<br>Работа мабільнага кінатэатра гістарычнага маршруту **«Памяць у граніце».**<br>Прэзентацыя праекта **«Жывая гісторыя».** |

| **Пляцоўка «Стадыён «Алімп»** *(вул. Савецкая, 6)* | |
|---|---|
| **14.00-19.00** | Спартыўнае свята. |

| **Турыстычная пляцоўка «Гродзеншчына запрашае»** *(каля стадыёна «Алімп», вул. Савецкая,6)* | |
|---|---|
| **10.00-19.00** | Прэзентацыя турыстычнага патэнцыялу Гродзенскага рэгіёна. |
| **10.00-23.00** | Работа аб'ектаў гандлю. |

| **Галоўная сцэнічная пляцоўка** *(набярэжная каля Шчучынскага раённага Дома культуры)* | |
|---|---|
| **20.00-22.00** | **УРАЧЫСТАЕ ЗАКРЫЦЦЁ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА.**<br>**Цырымонія перадачы эстафеты свята г. Рагачову.**<br>**Канцэрт майстроў мастацтваў.**<br>**Відэа-мэппінг (каля Палаца князёў Друцкіх-Любецкіх).**<br>**Феерверк.** |


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: А. І. Саламевіч

Нумар падпісаны ў друк 3.09.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2038.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1487 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.